УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б24

**Баравікова, Р. А.**

Б24 Казкі астранаўта : Касмічныя падарожжы беларусаў : для дзяцей сярэд. шк. узросту / Раіса Баравікова ; маст. М. Э. Міцкевіч. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2011. — 176 с.

ISBN 978-985-6994-18-3.

Прыгодніцкія казкі Раісы Баравіковай – вядомай беларускай пісьменніцы, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь – даўно палюбіліся юным чытачам. І вось – чарговая кніга казак, напісаных ад імя астранаўта-беларуса. Дзівосны, заманлівы і таемны свет далёкіх планет адкрыецца чытачу і, безумоўна, захопіць не толькі неверагоднымі прыгодамі герояў кнігі, але і цікавымі звесткамі пра асобныя зоркі і нават цэлыя сузор'і. Пісьменніца ўдала спалучае поўны нечаканасцей свет чужых планет з блізкім і родным светам нашай планеты, дзе, зразумела, самыя прыгожыя і добрыя пачуцці звернуты да Беларусі.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6994-18-3**

## Жыццё і творчасць Раісы Баравіковай

Усім сваім шматгранным, шматаблічным талентам Раіса Баравікова ўвасабляе вобраз пісьменніка, характэрны для сучаснага развіцця айчыннай літаратуры. Паэт Божай міласці, празаік, апавяданні і аповесці якога чытаюцца і перачытваюцца, драматург, перакладчык, таленавіты публіцыст, уважлівы да літаратурнага жыцця рэдактар і арганізатар часопіснай справы...

Нарадзілася Раіса Андрэеўна ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці 11 мая 1947 года. У 1965 годзе сям'я пераехала ў Бялыніцкі раён на Магілёўшчыну. Год працы ў быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя». Поруч з першымі вопытамі ў журналістыцы, якія заклалі практыку на ўсё астатняе жыццё, — вершаваная творчасць. Публікацыі на літаратурнай старонцы раёнкі заўважыў сапраўдны паэтычны бог, маг і чарадзей слова Аляксей Васільевіч Пысін, аўтарытэт якога ў літаратурным, творчым жыцці Магілёўшчыны быў непахісным. Заўважыў і падказаў далейшы шлях — выдаў рэкамендацыю для паступлення ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Праз шмат год Раіса Баравікова напіша ў сваёй творчай аўтабіяграфіі: «На першым жа экзамене, калі пісалася сачыненне, Жэня Шміт — будучы аднакурснік — крануў за плячо: "Вы не памятаеце, як правільна пішацца: Экзюперы ці Экзеперы?" А я, увогуле, упершыню пачула такое прозвішча і адразу ж пасля экзамена пабегла ў інстытуцкую бібліятэку паглядзець, што ж гэта за пісьменнік такі? Фактычна з гэтага і пачалася мая літаратурная вучоба...» Следам за вучобай у маскоўскім Літаратурным інстытуце з'явілася і першая кніга — зборнік вершаў «Рамонкавы бераг» (1974). Нягледзячы на свой не вельмі кідкі выгляд, невялікі аб'ём, яна ўразіла ўважлівага чытача найперш тым, што паэтэса не паддалася кан'юнктурна-сляпому следаванню за традыцыйным вершаскладаннем. Паэтэса выявіла сябе выключна тонкім лірыкам, творцам, які бачыць свет і святло праз пачуццё кахання, праз чыстую і па-

збаўленую пустой патэтыкі замілаванасць, улюбёнасць да роднай зямлі. За першым зборнікам выйшлі наступныя паэтычныя кнігі — «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984), «Каханне» (1987), «Пад небам першага спаткання» (1990)... Кніга «Каханне» была адзначана Літаратурнай прэміяй Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Аркадзя Куляшова. Усё часцей стала пісаць пра паэзію Раісы Баравіковай беларуская крытыка. За зборнік вершаў і паэм «Люстэрка для самотнай» (1994) паэтэса атрымала Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь. Канечне ж, самым уражлівым, праніклівым, самым кранальным творам у гэтай кнізе з'яўляецца паэма «Барбара Радзівіл». Гэта — не проста паэтычнае пранікненне ў мінулае Бацькаўшчыны. Раіса Баравікова здолела прыўзняцца над часам, над гістарычнай прасторай і ўнікліва, удумліва распавесці і пра нашу Айчыну, і пра лёс Жанчыны, пра лёс вечнага і зямнога...

Паэтычная творчасць і яе залатыя здабыткі на гэтай ніве нікольki не замінaлі пісьменніцы сцвердзіць сябе ў празаічных вышуках. Аповесць «Кватарантка» пабачыла свет асобнай кнігай у 1980 годзе. Дзецям адрасаваны зборнік апавяданняў «Галенчыны "Я", альбо Планета Цікаўных Хлопчыкаў» (1990). Апафеозам пранікнення ў казачны і адначасова фантастычны свет можна назваць кнігу Раісы Баравіковай «Казкі астранаўта». Пад адной вокладкай — казачныя аповесці і невялікія казкі, што разам аб'яднаў выпісаныя пісьменніцай «касмічныя падарожжы беларусаў». Адрас, дзе нараджаюцца фантастычныя казкі, — касмадром за Раўбічамі, пад Мінскам. Ва ўсе падарожжы да далёкіх планет героі выпраўляюцца з беларускай зямлі, перад іншапланецянамі не забываюцца пра нацыянальную годнасць. А ў адной з казак («Стужка ордэнская») сутыкаюцца ці не з тымі ж беларусамі, якія даўно асвоілі іншыя цывілізацыі. «Казкі астранаўта» — кніга выхавання. І найперш — экалагічнага. Пры гэтым у творах няма надакучлівасці, дыдактыкі і выхаваўчага прымусу. Але ёсць трывога за прыроду.

Літаратурныя казкі Раісы Баравіковай — з будучыні, з заўтрашніх касмічных рэалій. І ўсё ж смелыя фантазіі — у кантэксце лепшых, замацаваных традыцый айчыннай дзіцячай літаратуры. Прагрэс, «касмічная стылістыка» — не самамэта пісьменніцы. Галоўнае — эмацыянальныя перажыванні юнага чытача, асэнсаванне адказнасці за час і за сябе нават у прасторы самых няпростых пераабсталяванняў свету.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## *Казкі астранаўта*

### Змеегалоўнік Руйша

Я вельмі баяўся, што аднойчы наступіць момант, калі адно з усіх маіх касмічных падарожжаў стане апошнім. Зразумела, гэтага моманту не ўдалося пазбегнуць. І вось я, поўны смутку, вяртаюся ў чарговы раз на Зямлю і ведаю, што ўжо ніколі яе не пакіну.

Гэта ведаюць і ўсе астатнія члены нашага экіпажа: я саступлю месца маладому і больш дужаму беларусу. Камандзір, як ніхто іншы, да мяне асабліва ўважлівы. Па ягоным твары блукае нейкая загадкавасць. І вось ён мне кажа:

– Я, напэўна, упершыню парушу вызначаны на Зямлі маршрут. Ведаю, што табе аднойчы вельмі хацелася трапіць на тую маленечкую планету, што знаходзіцца на самым краі нашай Галактыкі, амаль ужо ў другой... Мы заляцім туды. Гэта мой табе падарунак!

І мы, сапраўды, заляцелі на тую планету. Я чамусьці чакаў, што там будзе нешта асаблівае. Мроіў пра незвычайную цывілізацыю, у якой будзе чаму і нам, зямлянам, павучыцца. Аказалася ж, мае мроі былі дарэмнымі. Планета – ну проста вымерлая! Амаль ніякай расліннасці, адно нейкія шары рухаюцца і рухаюцца ў паветры! Мы там не сталі доўга затрымлі-

ваўца, і наш камандзір, каб зрабіць выгляд, што мы ўсё-такі не дарэмна туды заляцелі, раптам сказаў:

— А шары гэтыя няпростыя... Мусіць, від нейкай асаблівай матэрыі і, зазначу, — жывой! Давайце прыхопім некалькі з сабою!

Не ведаю, як і ўдалося, але мы прыхапілі два з іх. Яны сапраўды былі падобныя да жывога цела. Але мы іх нават у спецыяльную камеру не сталі размяшчаць, такія былі сімпатычныя шарыкі, маўляў, хай лётаюць па караблі! Адным словам, парушылі ўсе інструкцыі. І вось аднаго разу закружылі гэтыя шарыкі ў мяне над галавой. Я падняў вочы і... не паверыце, абамлеў! Адзін з гэтых шарыкаў і не шарык зусім, а самая што ні ёсць сапраўдная змяіная галава. Вочы лупатыя, джала высунула і загаварыла нашаю зямною беларускаю моваю:

— Не палохайся, зямлянін! Мы з тых істот, што ўмеюць мяняць не толькі сваю форму, але і вельмі хутка разумеюць чужую мову. Я ўжо вельмі і вельмі старая, я не далячу да вашай Зямлі, а вось ён, Руйша, — паказала на другі шарык, які таксама стаў змяінаю галавою, — ён даляціць! Гэта — мой сын і ён маладзенькі надта. Як маці, прашу цябе, зямлянін, не чыніце яму зла, не рабіце нічога кепскага. Ён, як толькі даляціць да Зямлі, памяняе сваю форму, стане тым, што найбольш будзе даспадобы вам, зямлянам. І ніколі не парушыць вашага спакою. Я вельмі прашу цябе, зямлянін, выканай маю просьбу, адпусці Руйшу, як толькі дасягнеце Зямлі. Ты нас бачыш зараз такімі, якія мы ёсць на самай справе. Змеегалоўнікі мы!

Сказала ўсё гэта яна мне і зноў закруцілася шарыкам. Памяняў сваё змяінае аблічча і яе сын Руйша. Маці праз колькі часу памерла — шарык распаўся на мноства частачак, якія, у сваю чаргу, распыліліся. Што ж да мяне, дык я выканаў тую просьбу. Я не мог

адмовіць маці, хай сабе і з племені Змеегалоўнікаў. Як толькі мы прызямліліся, сказаў камандзіру:

– Што будзем рабіць з гэтым шарыкам? На маю думку, дык хай ляціць поруч з намі, ён амаль ручны.

– Хай ляціць, – пагадзіўся камандзір.

І вось мы пакідаем карабель. У нейкі момант шарык адстае ад нас, я азіраюся, бачу, як ён нібыта ўваходзіць у зямлю, у глебу. І тут жа, у тое ж самае імгненне, бы выстрэльвае, вырастае расліна. Я вяртаюся, падбягаю да яе. Яна ўжо – у кветках і кветкі нагадваюць змяіную галаву. Не паспеў я як след іх разгледзець, як да мяне даляцеў ледзь чутны шэпт:

– Дзякуй табе, зямлянін! Я цяпер на ўсё сваё жыццё застануся толькі раслінай...

Хочаце – верце, хочаце – не, але менавіта я назваў гэтую расліну змеегалоўнік Руйша. А людзі занеслі яе ў Чырвоную кнігу.

## Венерын чаравічак

*Кропля дажджу засталася ў жоўценькай кветцы. І ёй там было, напэўна, утульна. Кветка ж нагадвала чаравічак, з якога немагчыма было выкаціцца. І ўспомніліся мне чаравічкі нашай Венеры. У іх я таксама бачыў кроплю... Дажджу, расы, ці, можа, гэта была сляза?*

З нататніка астранаўта.

Гэта было памылковае паведамленне, што як быццам жыхары вельмі далёкай планеты з сузор'я Цяльца, якое можна пабачыць толькі на зімовым небе, хочуць пайсці вайною на нас, зямлян. Проста недакладна расшыфравалі радыёсігналы адтуль, якія дайшлі да Зямлі. І ўсё ж вырашана было паслаць туды наш міжпланетны экіпаж для перамоў. І ўяўляеце,

якім было наша здзіўленне, калі нас, беларусаў, там сустрэлі больш чым міралюбна.

Тут трэба сказаць, што тая планета шмат чым нагадвала нашу Зямлю: тыя ж дрэвы, трава, раўніны і горы... Адрознівалася адным: яе насялялі толькі жанчыны, якія жылі не ў звыклых для нас зямных пабудовах, а ў шкляных, якія нагадвалі гіганты-ліхтары. Мы маглі бачыць праз тонкае шкло, як жанчыны расчэсваюць свае валасы, як накрываюць на стол і які пры гэтым выкарыстоўваюць посуд, як сядзяць на канапе, калі глядзяць тэлевізар, і яшчэ шмат што іншае. Але, калі ўсё, што мы бачылі наўкол, пачыналі ахутваць прыцемкі, было ўражанне, што гэтыя дамы-ліхтары напаўняюцца нейкім ілюмінацыйным газам. Яны ззялі, мігцелі рознымі колерамі, і ўсё, што там у іх адбывалася, было бы ў густым тумане. Мы нічога не бачылі. Можна было толькі здагадвацца, што жанчыны рыхтуюцца да сну. Ды справа не ў гэтым.

Найбольш нас уражвала тое, што жанчыны былі ўсе на адзін твар і незвычайна прыгожыя. Акрамя гэтага, усе — прыблізна аднаго і таго ж узросту. Іх скура была асляпляльна белая, толькі шчокі ружавелі, што тыя яблычкі на досвітку ў садзе, надзіва свежыя ад кропляў расы. Нехта з нас не стрымаўся і выгукнуў у захапленні, калі мы першы раз пабачылі гэтых жанчын:

— Ды яны ж сапраўдныя Венеры! Багіні, якім няма роўных! І жанчыны ахвотна пагадзіліся з тым, што яны — багіні.

Толькі папрасілі, каб выключна ўсіх іх называлі Венерамі.

— Дык як жа мы іх будзем адрозніваць адну ад адной, — спытаў наш камандзір, — калі ўсе яны будуць мець аднолькавае імя?!

І адказ на гэтае пытанне мы атрымалі вельмі хутка. Надараліся ў жыцці жанчын моманты, калі яны адрозніваліся адна ад адной. Гэта была вялікая непраўдападобнасць. Ужо праз некалькі дзён нашага гасцявання на той планеце мы пачулі жудасны крык лабаранта-біёлага, самага маладога з членаў нашага экіпажа. Ён бег да карабля ад яркага дома-ліхтара і крычаў:

— Пачвара! Пачвара! Нам трэба хутчэй пакідаць гэтую планету!

І тут жа расказаў нам, што хацеў зайсці ў той дом-ліхтар, але насустрач яму выйшла жанчына, у якой у яго на вачах у адначассе памяняўся колер скуры. З асляпляльна белага ён стаў пачварна зялёным. Жанчына нагадала яму вялікую жабу, якая стаяла на задніх лапах і гатова была накінуцца на яго. Мы не паверылі ў гэта, але хутка да нас на карабель прыйшла адна з жанчын і растлумачыла, што мы не павінны гэтай з'явы палохацца, таму што колер скуры ў жанчын на той планеце сапраўды мяняецца. Гэта залежыць ад іх настрою. Калі ён добры — колер скуры іскрыцца белізною. А варта толькі жанчыне засумаваць, раззлавацца, занервавацца, як скура ўмомант можа стаць зялёнай, чырвонай, аранжавай, фіялетавай... Адпаведна мяняецца і выраз твару, міміка, рухі. Мы проста жахнуліся! Відаць, не ўсё на той планеце было так добра, як здавалася на першы погляд. Напэўна, яна была поўная і іншых нечаканасцей, таму і паспяшаліся як мага хутчэй яе пакінуць. Мы высветлілі, што жанчын не цікавіла наша Зямля, што яны міралюбна ставяцца да нас, зямлян, і пачалі збірацца ў зваротную дарогу. І тут адбылася нечаканасць. Адна з жанчын пачала ўпрошваць нашага камандзіра, каб мы ўзялі яе з сабою да нас, на Зямлю.

Магчыма, ён і не пагадзіўся б, але ўмяшаліся мы ўсе — члены нашага экіпажа і падтрымалі жанчыну

ў яе жаданні. А чаму б і не? Чаму б не наведаць нашу планету іншапланецянцы, у якой колер скуры залежыць ад яе настрою? Гэтак яно і здарылася.

Мы прызямліліся на нашым касмадроме за Раўбічамі разам з ёю. І які ў яе быў настрой, сказаць было цяжка. Час ад часу пазіралі на яе фіялетавае аблічча і міжволі адварочваліся. Але колер скуры ў яе хутка мяняўся і, калі мы пакідалі касмадром, яна мала чым адрознівалася ад зямлянак.

Венеру, як мы працягвалі называць жанчыну, мы пасялілі ў тым жа самым доме, дзе жыў камандзір. І яна проста не адыходзіла ад яго. Ён увесь час прасіў яе, каб яна захоўвала добры настрой, каб нічым не выдавала сябе. Мы хацелі, каб яна прывыкла да зямнога жыцця, а потым ужо абвясціць, што ў нашым гарадку — іншапланецянка. Але праз некалькі месяцаў Венера пачала збягаць ад нашага камандзіра і хавацца ў навакольным лесе, дзе падоўгу стаяла пад густымі кронамі старых дрэў. Асабліва аблюбавала адну алешыну. Мы зразумелі, што яна кепска сябе адчувае на Зямлі, што ёй шкодзіць зямны клімат, таму і стараецца схавацца ад сонечных промняў і ўвогуле ад святла. Гэта пацвярджаў і колер яе скуры. Ён пачаў мяняцца з асляпляльна белага ў аранжава-агністы, нібыта яе спальваў агонь суму, тугі па роднай планеце. І вось неяк Венера з раніцы схавалася ў лесе, і мы доўга не маглі яе адшукаць. А калі адшукалі, дык роспачна сумеліся: пад дрэвам, дзе яна хавалася, замест яе быў маленькі грудок попелу. Адно чаравічкі, яе зіхоткія жоўценькія чаравічкі, усё роўна як два яркія агеньчыкі, мігцелі ў густой траве. Гэтыя чаравічкі ўзяў наш камандзір і доўга зберагаў іх як дарагую памяць. Але зараз ужо гаворка не пра гэта.

Аднойчы, калі мы вярнуліся на Зямлю пасля працяглага падарожжа, хтосьці з нас выпадкова, а, можа,

і знарок, апынуўся пад тым дрэвам, дзе шмат гадоў таму назад не стала нашай Венеры. І як жа ён быў здзіўлены, калі на тым месцы, дзе яна стаяла ў апошнія хвіліны свайго жыцця, ён пабачыў расліну, кветкі якой былі якраз як Венерыны чаравічкі. А на кары дрэва праступала ледзь бачная выява жаночай постаці. Дрэва тое потым хтосьці спілаваў. А вось расліну мы так і назвалі: венерын чаравічак, і людзі не памянялі гэтай назвы. Вось толькі чамусьці яна хаваецца ад людскіх вачэй, вельмі рэдка яе можна пабачыць. Таму гэтая расліна і занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі як рэдкі від зямной флоры.

## Касач — кветка чароўных музыкаў

Мы ляцелі тады да сузор'я Арла, а дакладней, да ягонай самай галоўнай зоркі — Альтаір. Наша падарожжа было разлічана на шмат гадоў, і невядома, чым бы яно скончылася, калі б мы не атрымалі загад з Зямлі тэрмінова вяртацца назад, таму што там, у сузор'і Арла, пачалі адбывацца незразумелыя нам, зямлянам, з'явы.

Штосьці там змянялася. Было падобна, што асобныя планеты, якія знаходзіліся ў тым сузор'і, сыходзяць са сваіх арбіт. Адным словам, адбываліся нейкія глабальныя катастрофы. Мы не маглі не падпарадкавацца загаду, і вось тут пачалося самае цікавае. Мы самі пачалі цярпець катастрофу. Нешта разладжвалася ў нашым міжпланетным караблі, які належаў ці не да самага першага пакалення зоркалётаў. Усяму экіпажу было зразумела: неабходна тэрміновая пасадка.

Мне цяпер цяжка сказаць, дзе гэта адбылося, але мы пасадзілі карабель на яшчэ нікім, здаецца, не адкрытай планеце. Помню, яе паверхня ўразіла нас сваім сіне-лілаватым ззяннем. Мы набліжаліся да яе,

і гэтае ззянне ўзмацнялася. «Карабель ляціць у фіялетавую ноч», — зазначыў наш доктар, у якога было прозвішча Савіч. Звычайна яго так і называлі: доктар Савіч. Але ўсё тлумачылася вельмі проста. Мы гэта зразумелі, калі карабель пасадзілі на паверхню. Выключна ўся прастора гэтай невялікай планеты была ўсеяна дзівоснымі сіне-ліловымі кветкамі. Адны кветкі, больш нічога! Было чаму падзівіцца — ні травы, ні дрэў, ні птушак... І ўсё ж планета чымсьці нагадвала нашу Зямлю. Там было паветра, былі рэкі і азёры. Праўда, выглядала яна надзіва самотнай — без насельнікаў. Але мы памыляліся. О, як жа мы памыляліся!

Ніхто не адважваўся выходзіць з карабля, толькі наш галоўны біёлаг папрасіў у камандзіра дазволу спусціцца на паверхню. Яго надта ж прываблівалі кветкі. І ён ужо гатовы быў зрабіць гэта, атрымаўшы дазвол. І тут... Тут мы пабачылі, што гэтая планета зусім не самотная, што на ёй жывуць людзі. Ага-а, вельмі падобныя да нас істоты. Якія ж гэта былі прыгажуны! Адны хлопцы — маладыя, дужыя. Яны жылі ў сутарэннях. Магчыма, там у іх былі сапраўдныя гарады, якіх мы не змаглі пабачыць. Мы назіралі адно: яны выходзілі з нетраў планеты на паверхню — дзясяткі, сотні, магчыма, нават тысячы. І наш карабель іх нібыта зусім не цікавіў. Ва ўсякім выпадку, яны не спынялі на ім сваіх позіркаў, а ішлі проста да кветак.

Што нам давялося пабачыць далей, у гэта цяжка было паверыць. Але мы былі жывымі сведкамі ўсяго таго неверагоднага, што адбывалася. Хлопцы аблюбоўвалі, выбіралі сабе кветкі, але іх не рвалі, а прысядалі кожны перад сваёю кветкаю на кукішкі. Потым даставалі з кішэняў невялікія дудачкі і пачыналі іграць на іх. Ах, якое гэта было ігранне! Паўсюль разлівалася музыка, якую яшчэ нідзе і ніколі не даводзілася нам чуць, ад

якое кветкі злёгку пакалыхваліся, а хлопцы... Хлопцы на момант пераставалі іграць, і тады з іх вуснаў зрываліся дзіўныя словы: «Касач!.. Касач!.. Касач!..»

Далей для нас усё адбывалася як у сне. Ва ўсякім выпадку, нічога падобнага ў зямным чалавечым жыцці не бывае. Мы раптам пабачылі, што з кветак пачынае віцца лёгкі дымок. Не паверыце, з кожнай кветкі! І ў гэтым дымку ўжо праз нейкае імгненне можна было заўважыць жывую істоту, якая проста на вачах расла, расла і... ператваралася ў чароўную дзяўчыну, якая апускалася на паверхню. Дзяўчаты былі незямной красы. Такіх прыгожых ні на Зямлі, ні на іншых планетах нікому з членаў нашага экіпажа яшчэ не даводзілася сустракаць. Ад іх немагчыма было адарваць вачэй. Хлопцы паднімаліся з кукішак, хавалі свае дудачкі ў кішэні празрыстых камбінезонаў, у якія былі апрануты. Потым кожны з іх працягваў сваёй дзяўчыне руку, і яны ўсё роўна як правальваліся пад паверхню гэтай, пагадзіцеся, ну проста казачнай планеты. І адразу ж на тым месцы з'яўляліся новыя кветкі. Нам жа заставалася толькі здзіўляцца.

Прайшло колькі часу, механікі-астранаўты адрамантавалі наш карабель, а галоўны біёлаг усё-ткі спусціўся на паверхню. Думаю, што ён асабліва і не аглядаў тыя кветкі, ён проста ўзяў некалькі з іх разам з іншапланетным грунтам і перанёс на карабель у спецыяльную камеру.

Пасля, калі мы ўжо ляцелі на Зямлю, нехта з нашага экіпажа казаў, што бачыў, як аднойчы ноччу галоўны біёлаг прысядаў на кукішкі перад той камерай і даставаў з кішэні зробленую ім свісцёлку. Па караблі расплывалася ціхае іграннне, ды можна было чуць, як час ад часу біёлаг пачынаў шаптаць: «Касач!.. Касач!.. Касач!..» Але кветкі, трэба думаць, заставаліся неру-

хомымі, ніякага дымку з іх не з'яўлялася. А, магчыма, гэтага ўсяго і не было. Я ж сам магу сказаць адно, што мне давялося там, на той планеце пабачыць вялікае дзіва. І гэта самая сапраўдная праўда.

Праз нейкі час, калі мы ўжо прыляцелі на Зямлю, галоўны біёлаг пасадзіў тыя кветкі недалёка ад нашага касмадрома ў нізінцы за Раўбічамі. І мне неаднойчы здаралася за ім назіраць, хоць гэта, магчыма, і не надта добра — сачыць за чалавекам. Але тут жа асаблівы выпадак. Біёлаг прысядаў каля кветак на кукішкі, даставаў з кішэні штосьці накшталт жалейкі і пачынаў іграць... Потым перапыняўся, і я мог толькі здагадвацца, што ў гэты момант ён прамаўляе тыя самыя чароўныя тры слоўкі: «Касач!.. Касач!.. Касач!..» Яму вельмі хацелася, каб з нейкай адной з тых кветак пачаў віцца дымок, з якога б выйшла дзівоснай красы прыгажуня. Але нічога падобнага не адбывалася. Праўда, хто ведае...

Калі над нашаю Зямлёю ўзнімаецца асляпляльная белая поўня, у самую светлую ноч, мажліва з кветак і з'яўляюцца тыя прыгажуні і пачынаюць вадзіць свае чароўныя карагоды, поўныя незямной вытанчанасці і смутку. Так, смутку. Ім жа, напэўна, хочацца вярнуцца на сваю планету. Але гэтага ніхто ніколі не бачыў. Вядома толькі, што з часоў таго нашага падарожжа беларусы пачалі зваць тыя трапяткія, прыгожыя сіне-ліловыя кветкі касачамі і потым праз шмат гадоў занеслі іх у Чырвоную кнігу. Не ведаю, як каму, а мне вельмі, вельмі шкада будзе, калі яны знікнуць.

Я ўжо стары, надта стары, а хто яшчэ зусім маладзенькі, паспрабуйце зрабіць сабе дудачку. Знайдзіце мясцінку, дзе растуць касачы, і прысядзьце каля кветак на кукішкі, пасля зайграйце. Магчыма, некаму і пашанцуе: ён пабачыць спачатку лёгкі дымок, а потым і чароўную прыгажуню, якая, думаецца мне, аба-

вязкова раскажа пра сваю далёкую дзівосную планету ў неабсяжным Сусвеце. І пра кагосьці невядомага нам, хто прамаўляў ёй аднойчы тры загадкавыя пяшчотныя слоўкі: «Касач!.. Касач!.. Касач!..»

## Аповесць чатырох падарожжаў

*Люблю назіраць за кнігаўкамі... Недалёка ад іх кружыць невялічкая птушка гальштучнік, – таксама з сямейства куліковых. Але варта прымружыць вочы, як уяўляецца сядзіба доктара Савіча і тая дзіўная істота, што спрытна падхапіла з зямлі капялюш...*

З нататніка астранаўта.

### ГАЛЬШТУЧНІК

Калі мы вярталіся на Зямлю з планеты Антарыс-5, якая знаходзіцца ў сузор'і Скарпіёна, то ўвесь наш экіпаж быў расчараваны. Справа ў тым, што гэтая планета мае чырвоны колер, чым нагадвае Марс. Але, як мы высветлілі, з Марсам нічога агульнага ў яе няма. Паўсюдна – горы і горы. Мы ледзь знайшлі больш-менш роўную пляцоўку, каб пасадзіць наш карабель. Затрымлівацца на планеце, якая ўяўляе сабою каменную глыбу, не мела сэнсу. І мы рушылі да бліжэйшай планетнай сістэмы, куды ўжо даволі часта адпраўляліся экспедыцыі з Зямлі, дзе можна было нейкі тыдзень адпачыць у гатэлі.

Вось тады і з'явілася на нашых экранах тая маленечкая зялёная планета, якая нагадвала невялікі шарык з ранняй сакаўной травы. Нідзе, ні на якіх зоркавых картах яна не значылася, таму цалкам верагодна, што мы маглі быць першымі, хто натрапіў на яе ў касмічнай бясконцасці. Не цяжка здага-

дацца, што мы вырашылі зазірнуць на тую планету. Што і зрабілі.

Першае ўражанне было такое, нібыта мы трапілі ў Белавежскую пушчу ці Бярэзінскі запаведнік. Альбо і ўвогуле ў нейкі агромністы здзічэлы сад дзе-небудзь пад Нароўляю ці пад Слуцкам.

Але такім было толькі першае ўражанне. Пад кронамі магутных дрэў была не такая ўжо і дзікая паверхня, — месцамі відавочна расчышчаная, месцамі выпаленая: хтосьці раскладваў вогнішча.

— Магу паспрачацца, тут мы сустрэнем гуманоідаў, — сказаў нехта з членаў экіпажа.

— Магчыма, — пагадзіўся камандзір і тут жа запытаўся: — Мне загадаць, ці ёсць ахвотнікі спусціцца на паверхню?

Ахвотнік знайшоўся. Гэта быў наш доктар Савіч. Камандзір паглядзеў на мяне:

— Ну, а што наш батанік? Тут ёсць што даследаваць.

І я не пярэчыў, хаця ведаў: тое, што здавалася на паверхні планеты дрэвамі, травою, кустамі, магло быць нечым іншым. Так здаралася неаднойчы. Але на гэты раз камандзір не памыляўся. Як толькі мы з доктарам Савічам ступілі на цвёрды грунт, зразумелі, што расліннасць наўкол самая што ні на ёсць сапраўдная. Праўда, на Зямлі я такой не сустракаў, і вельмі здзіўляла, што паўсюль быў адзін толькі зялёны колер: зялёная кара дрэў, зялёнае лісце, зялёныя пялёсткі кветак.

А тым часам мы ўжо выйшлі на вялікую паляну і я, было, падышоў да адной з такіх кветак, якая нагадвала зямную лілею, каб насуперак усім інструкцыям дакрануцца да зялёных пялёсткаў, але не паспеў... Адусюль — з-за кожнага дрэва, з-за кожнага куста (о, дайце веры!) выбягалі людзі, праўдзівей было б сказаць, дзікуны, і наколькі гэта можна было зразумець, твары іх свяці-

ліся радасцю. Даўгія валасы, у многіх — бароды, шчокі, зарослыя шчэццю, і выключна ўсе — голыя. Толькі на шыі ў кожнага з гэтых людзей чарнела палосачка, а хутчэй — гальштук-бабачка, так часта называюць падобныя гальштукі на Зямлі, якія надаюць святочнаму гарнітуру яшчэ большую ўрачыстасць. Тут, на гэтай Зялёнай планеце, як я яе назваў у думках, гэты гальштук нікому нічога не дадаваў. Адно — глядзеўся на шыі недарэчна і смешна. Праўда, нам з доктарам Савічам было не да смеху, невядома, як павядуць сябе дзікуны? Але яны выказвалі выключную прыязнасць. А адзін з іх выйшаў наперад і пачаў нешта хутка-хутка гаварыць...

Як жа я быў уражаны, калі доктар Савіч адазваўся ў адказ. Паміж ім і натоўпам завязалася ажыўленая гаворка. Аказалася, што жыхары Зялёнай планеты размаўлялі на лацінскай мове, якая на Зямлі ўжо даўно выкарыстоўвалася толькі ў медыцыне і якою, зразумела, добра валодаў доктар Савіч.

— Што яны табе кажуць? — запытаўся я ў яго. Доктар пацiснуў плячыма:

— Ніяк не ўцямлю, дзікасць нейкая. Самая сапраўдная дзікасць. Яны шкадуюць, што мы не можам бачыць тых цудоўных кварталаў, плошчаў, вуліц, якія бачаць яны. Маўляў, тут паўсюль вакол нас — навуковыя цэнтры, зоны адпачынку, офісы і спальныя раёны...

— Офісы, навуковыя цэнтры вакол нас? Ды яны — вар'яты! — засмяяўся я і раптам задумаўся. — А зрэшты... Адкуль у іх гэтыя веды? Што ім вядома пра офісы, зоны адпачынку? Хто яны, нарэшце? Перасяленцы з іншых планет? Ці, можа, зямляне? Нашчадкі тых цывілізацый, што існавалі на Зямлі яшчэ да Вялікага патопу? Вось толькі ў іхнім абліччы нічога не засталося ад цывілізаванага свету. Племя дзікуноў! Першая прыступка развіцця чалавецтва.

Гэтымі сваімі думкамі хацеў падзяліцца з доктарам Савічам, але ён з вялікай цікавасцю размаўляў з гуманоідам, якраз з тым, хто самы першы ўступіў з намі ў кантакт. Іх гаворка цягнулася доўга. Я нават пачаў тое-сёе даследаваць з навакольнага расліннага свету. Але вось доктар падышоў да мяне, і тое, што ён сказаў, адразу прымусіла згадаць пра наш карабель, падумаць пра небяспеку. А ці не час нам вяртацца?

— Бачыш таго, бялявага, — паказваў доктар Савіч на высокага хударлявага бландзіна. — Яго ўнук вынайдзе тут праз паўстагоддзя камп'ютар. А вунь той... нізенькі, што размаўляе з самым кудлатым з іх. Ён — мастак. Геній! Толькі пра гэта сам яшчэ не здагадваецца. Але праз дваццаць гадоў яго карціны будуць самымі каштоўнымі не толькі на гэтай планеце. Глядзі, бачыш, той, што залез на дрэва... Ён праз дзесяцігоддзе будзе тут самым славутым архітэктарам. Пачне з каменных пірамід і закончыць праектамі з жалезабетону. О-о, а гэты, што бліжэй за ўсіх стаіць да нас, як ні цяжка ў гэта паверыць, але ён стане вынаходцам рухавікоў, і першыя аўтамабілі тут будуць называцца яго імем.

Мне стала млосна. Розум адмаўляўся што-небудзь разумець.

— Нам ужо трэба вяртацца на карабель. Там, напэўна, хвалююцца нашы, — сказаў я доктару Савічу. — Развітвайся з гуманоідамі і пойдзем адсюль.

Але перш чым развітацца, доктар прыняў падарунак ад жыхароў гэтай нязвыкла-зялёнай планеты. Яны завязалі яму на шыю гальштук, такі ж самы, што насілі самі, — чорны гальштук-бабачку.

З гэтага моманту і пачалася трагедыя доктара Савіча. Гэтак я назваў для сябе ўсе далейшыя падзеі. А разгортвалася ўсё наступным чынам.

Зялёную планету мы пакінулі хутка. Можна сказаць, пасля вяртання на карабель неўзабаве і стартавалі. Прыйшоў загад з Зямлі тэрмінова вяртацца. Вось тут доктар Савіч і павёў сябе выключна невытлумачальна. Маўляў, які можа быць загад з Зямлі, якое вяртанне, калі мы можам ляцець да сузор'я Дзевы, дзе на адной з планет, трошкі ўбок ад самай яркай зоркі гэтага сузор'я – Спікі, жывуць браты па розуме, бо тая планета нішто іншае, як копія нашай Зямлі. А потым наш шлях можа пралегчы да сузор'я Шаляў. І там на адной з планет у сістэме тых зорак, якія складаюць сузор'е, ужо даўно вынайшлі машыну часу, якую, калі хто-небудзь з нас пажадае, можа выпрабаваць.

Спачатку да ўсіх гэтых разважанняў доктара мы ставіліся несур'ёзна, чаго не здараецца ад эмацыянальных перагрузак! Але ён пачаў паводзіць сябе агрэсіўна. Спрабаваў прарвацца ў адсек кіравання палётам, каб змяніць курс. І тады мы задумаліся, што ж адбываецца з нашым доктарам? Адказ напрошваўся сам сабою: у доктара ўсе прыкметы лёгкага псіхічнага расстройства, якое з'явілася пасля таго, як ён пачаў насіць на шыі падораны яму гальштук-бабачку. Як толькі мы прыйшлі да такой высновы, адразу ж прапанавалі доктару зняць яго. Гэтая наша прапанова рассмяшыла доктара.

– Ды вам усім і не снілася, што гэты гальштук уяўляе сабою, – сказаў ён. – Гэта – Праграма, завезеная на Зялёную планету прадстаўнікамі адной з самых высакаразвітых сусветных цывілізацый. Усё выключна проста. Таму, хто носіць гэты гальштук, спачатку выдаецца міраж, мара жыцця. Адсюль і тыя дзівосныя гарады, навуковыя цэнтры, зоны адпачынку, якія бачылі наўкол сябе жыхары Зялёнай планеты. Ты ж чуў батанік. Я табе перакладаў, – звярнуўся ён

да мяне і працягваў: — Але ўсялякую мару трэба ўвасобіць у жыццё, зрабіць явай. І гэта прадугледжана Праграмай. Яна выдае ўстаноўкі, падрабязнае тлумачэнне, як і што трэба рабіць, каб гэтую мару здзейсніць. Ну, скажам, нехта хоча стаць вялікім кампазітарам і яму даецца магчымасць уявіць сябе ім. А потым пачынаецца шлях да гэтай вяршыні, па якім і вядзе Праграма.

Доктар Савіч блытаўся, але яго словы гучалі пераканаўча, хаця хтосьці з нас і запытаўся з недаверам:

— Ну, а цябе асабіста, куды выводзіць яна?

— Я ж вам усё растлумачыў! У сузор'е Дзевы, дзе мы сустрэнемся з братамі па розуме і па эвалюцыйным развіцці. Трэба памяняць курс, і мы вернемся на Зямлю з грандыёзнай сенсацыяй.

— Гэты твой гальштук сам па сабе ўжо і ёсць сенсацыя, — сказаў я і тут жа папрасіў: — Дай панасіць яго, хаця б на некалькі гадзін.

— Разагнаўся!.. Гэтага ні ў якім разе рабіць нельга, — і далей доктар Савіч засцярог: — Можа здарыцца бяда. Праграма дзейнічае ў станоўчым накірунку толькі тады, калі гэты гальштук дорыцца. Яго трэба атрымаць у падарунак. Інакш спрацоўвае адмоўная энергія і дзеянні Праграмы робяцца непрадказальнымі.

— Ды глупства ўсё гэта, — сказаў наш бортмеханік. — Казачкі для ідыётаў. Хоць ты, Савіч, і сам доктар, але табе, відавочна, патрэбна медыцынская дапамога.

І гэтыя яго словы сталі апошнімі ў той нашай размове з доктарам Савічам. А калі вярнуліся на Зямлю, хутка дачуліся, што ў Міжнароднай асацыяцыі зоркавых палётаў нашага доктара звольнілі. Для яго пачалося зямное жыццё. Ну, а мы, усе астатнія члены экіпажа, неўзабаве адправіліся ў новае міжпланетнае падарожжа.

Міналіся гады, і, напэўна, ужо праз некалькі дзесяцігоддзяў я вырашыў месяц-другі адпачыць на Зямлі.

Космас стамляе. Тады і ўспомніўся мне доктар Савіч. Дзе ён, што з ім? Звярнуўся ў даведачнае бюро Асацыяцыі, дзе адразу ж атрымаў інфармацыю: доктар Савіч жыве недалёка ад Мінска. Мае сваю сядзібу і даўно ўжо адышоў ад лекарскай справы. Мне хацелася пабачыцца з ім, што я і зрабіў неадкладна.

Помню, быў сонечны дзень. Я пакінуў машыну далёка ад доктаравай сядзібы. Вырашыў прайсціся пешшу, сабрацца з думкамі. Згадвалася наша апошняе падарожжа з ім. І, вядома ж, з'яўлялася пытанне, ці захаваў доктар той свой гальштук-бабачку, які атрымаў у падарунак ад жыхароў Зялёнай планеты? Па ім, тым чорным гальштуку на загарэлай шыі, я і пазнаў доктара. Ён у вялікім саламяным капелюшы і ў адных толькі шортах штосьці перасаджваў у гародзе недалёка ад двухпавярховай драўлянай будыніны, якая глядзелася ледзь не палацам. Праходзяць дзесяцігоддзі, а на Зямлі мала што змяняецца.

— Доктар Савіч! Доктар Савіч! — гукнуў я.

І хапіла толькі некалькіх імгненняў, каб доктар пазнаў мяне і кінуўся насустрач. Яго перапаўняла такое радаснае хваляванне, што здавалася: ён вось-вось задыхнецца. Яму, відавочна, не хапала дыхання і, каб было лягчэй бегчы, ён спачатку сцягнуў з галавы капялюш, кінуў на сцежку, а пасля (ці можна было паверыць вачам) сарваў з шыі і гальштук-бабачку, які таксама шпурнуў у траву. А я ж помніў, як тады, на караблі, ён упарціўся, нізавошта не хацеў яго здымаць.

Мы абняліся, як добрыя сябры. На вочы набягалі слёзы, такою радаснай была наша сустрэча. І тут я заўважыў, што з будыніны выбегла нейкая дзіўная істота, хутчэй за ўсё малпачка. Спрытна падняла з зямлі капялюш, а потым і гальштук, і хуценька скіравала да дома, куды неўзабаве падаліся і мы.

— Ты тут жывеш не адзін? — запытаўся я ў доктара і дадаў: — Я паспеў заўважыць нейкае калматае стварэнне. Няўжо гэтак змяніўся клімат на Зямлі, што ў Беларусі пачалі жыць малпы?

— Гэта не зусім малпа, — адказаў доктар Савіч. — Я тады яшчэ не лётаў з вамі. Мяне пасылалі ў блізкія падарожжы. І вось падчас аднаго з тых маршрутаў на Месяцы мы натрапілі на невядомы міжпланетны карабель, які пацярпеў катастрофу. Як ні аглядалі, ніякіх жывых істот не знайшлі. Але ў адным з адсекаў адшукалі прабіркі, у якіх былі зародкі.

Ты здагадваешся, што адну з тых прабірак я прывёз на Зямлю. З зародка, што быў у ёй, і з'явілася на свет істота, якую ты назваў малпаю. Але паўтараю, гэта, далібог, не малпа, таму што вельмі хутка яна засвоіла ўсе зямныя мовы. А галоўнае тое, што больш надзейнага, вернага стварэння я не сустракаў. Зараз пазнаёмішся з гэтым маім адданым сябрам.

Мы ўвайшлі ў будыніну, адчынілі дзверы ў адзін з пакояў і тое, што пабачылі, нас уразіла неймаверна. У шыбіну стукалася, білася крыламі невялікая птушка з чорнай палосачкай-гальштукам на валляку...

— Гальштук! Мой гальштук! — закрычаў доктар Савіч у вялікай роспачы. — Як жа я мог сарваць яго!.. Ты разумееш, што адбылося?! Ён, напэўна, падняў гальштук, начапіў сабе на шыю, і вось здарылася бяда. Ты ж помніш, Праграма, што хавалася ў ім, станоўча спрацоўвала толькі тады, калі гальштук хтосьці атрымліваў у падарунак. Ва ўсіх іншых выпадках гэта — адмоўная энергія. Мой добры сябар стаў птушкаю! — і доктар Савіч адчыніў фортку...

Птушку мы назвалі гальштучнікам. Яе і цяпер можна сустрэць у Беларусі на вялікіх спустошаных лугах-пашах, куды выганяюць пастухі свае статкі. Толькі

гальштучнік не заўважае гэтай спустошанасці. Яму, напэўна, бачацца наўкол зялёныя гаі ды парослыя сакаўною травою паляны. Але справа ўжо не ў гальштучніку...

— Дык тое, пра што ты нам тады расказваў, усё ж было праўдаю? — запытаўся я ў доктара пасля таго, як птушка вылецела ў фортку.

— А ты што, сумняваўся?

— Мы ўсе сумняваліся, — сказаў я. — Думалі, ты страціў розум. Таму цябе і звольнілі.

Тым жа днём я расказаў доктару, што Міжнародная асацыяцыя зоркавых палётаў рыхтуе вялікую экспедыцыю з адной толькі мэтай — расшукаць у касмічных глыбінях братоў па розуме, хто прайшоў падобную да зямной эвалюцыю ў сваім развіцці.

— Трэба ляцець да сузор'я Дзевы, — сказаў доктар і праз невялікую паўзу запытаўся: — Як ты думаеш, мне не адмовяць, калі я папрашуся ў гэтае падарожжа?

Ён сапраўды папрасіўся праз нейкі час. І яму не адмовілі. Мы зноў былі членамі аднаго экіпажа і неўзабаве ляцелі ў сузор'е Дзевы на планету, якая ўяўляе сабою копію Зямлі. Ва ўсякім выпадку, мы гэтак думалі.

## ЗЯМЛЯ-2

Псіхолаг Галя, яе мы зрэдку бралі ў свае падарожжы, зайшла на карабель апошняй. З сумам паглядзела ў ілюмінатар, потым на мяне.

— Сымон, а табе не шкада пакідаць тую ружовую стужачку, што ўжо з'явілася на даляглядзе? — запыталася яна. — Сонца пачынае ўставаць, хутка ўсё ажыве, птушкі зашчабечуць, як яны ўмеюць шчабятаць толькі на Зямлі.

Я не паспеў ёй адказаць і, прызнацца, не любіў падобных размоў. Ну ўстае сонца і ўстае, не першы і не апошні раз на Зямлі, у нашай Сонечнай сістэме, што ж на гэтым засяроджвацца? Тым больш, што ўжо чуецца голас пілота-робата:

— Праз дзесяць хвілін стартуем! Пачынайце пагружацца ў сон.

Карцела хутчэй заснуць, каб прачнуцца ў глыбокім космасе.

Сон на гадзіну падчас старту — старая традыцыя яшчэ з тых часоў, калі мы, беларусы, толькі пачыналі падарожнічаць па Сусвеце, і якой мала ўжо хто прытрымліваўся. Але мы ніколі не парушалі яе. Не парушылі і гэтым разам. Нам дазвалялася падключацца да кінасерыялаў, якія кадр за кадрам пракручваліся ў сне. Я падключыўся да мульціка і спаў роўна гадзіну. А калі прачнуўся, доўга не мог зразумець, адкуль чуюцца ўзбуджаныя гучныя галасы. Нарэшце вызначыў: з цэнтральнага хола, і, вядома, заспяшаўся туды. На зоркалёце нешта здарылася.

Я не памыліўся. Як толькі зайшоў у хол, да мяне адразу кінуўся доктар Савіч:

— Я казаў яшчэ тады, калі раней лётаў разам з вамі, — служба аховы на касмадроме ненадзейная. Яны кепска працуюць. Ніякай пільнасці! І вось, паглядзі...

А я ўжо і без яго слоў бачыў пасярод хола падлетка ў зашмальцаваных джынсах, у майцы з малюнкам нейкага моднага рокгурта. Яму было гадоў трынаццаць, і ён спалохана паўтараў адно і тое ж:

— Я не хацеў! Я... Я пераблытаў караблі! Я думаў, вы толькі што прызямліліся.

— Спіхне яго на мяне, — шапнуў мне доктар Савіч. І сапраўды, Антон Верашчака, а ён у нас быў за камандзіра, паглядзеў на доктара:

— Савіч, падбярэш яму камплект адзення і забярэш пад свой нагляд. Невядома, як будзе пераносіць касмічныя перагрузкі!

Хлопец павесялеў. А мы ўсе былі ў паніцы. Такога яшчэ ніколі не здаралася. Як быць у гэтым выпадку? Рабіць незапланаваную пасадку на Месяцы? А калі там не будзе карабля, які б ляцеў на Зямлю? Чакаць, пакуль з'явіцца, ці выклікаць спецыяльны рэйс? Апошняе слова было за камандзірам. Антон вырашыў, што хлопец паляціць разам з намі ў сузор'е Дзевы, куды мы накіроўваліся. Адно давядзецца паведаміць на Зямлю пра гэтую нечаканасць. Няхай там супрацоўнікі Міжнароднай асацыяцыі зоркавых палётаў звязваюцца з яго бацькамі, хай штосьці тлумачаць ім. Гэта ўжо не наша справа. Мы маем тое, што маем: падлетка на зоркалёце!

Праз некалькі гадзін да мяне ў адсек завітаў Савіч.

— А ты ведаеш, — сказаў доктар, — ён, аказваецца, твой сусед.

— Хто?

— Ну-у, як гэта хто? Наш юны пасажыр. Арцём. Прозвішча яго Нічыпаровіч. У Мінску жыве на Паўднёвым Захадзе. Звыклая гісторыя. Калі ён яшчэ не нарадзіўся, яго бацька прымаў удзел у экспедыцыі. Ну, памятаеш, тады яшчэ шмат пра гэта ў газетах пісалі. Яны ляцелі да Паўночнага Асла... Назад на Зямлю не вярнуліся, а Арцём усё спадзяецца сустрэцца з бацькам. Таму і бадзяецца па касмадроме. Ён, аказваецца, два тыдні сачыў за нашым псіхолагам. Усё ведаў пра наш маршрут. Галя, напэўна, дзе магла, расказвала пра палёт. Вось і атрымліваецца, што ён тут не выпадкова. Ды што цяпер пра гэта казаць, думаю, я з ім пасябрую.

І я не сумняваўся ў тым, што яны пасябруюць. Нам, астранаўтам, не рэкамендавалася, пакуль мы праца-

валі ў Асацыяцыі зоркавых палётаў, мець сям'ю. І, як правіла, гэтай рэкамендацыі мы ўсе прытрымліваліся. Хаця ў думках кожны марыў пра дом, поўны дзіцячых галасоў. Ну, а што да Арцёма, дык ён па-сапраўднаму прывязаўся не да доктара Савіча, а да мяне. З цягам часу нават перасяліўся ў мой адсек.

Справа ў тым, што, калі мы лёталі ў сістэму зоркі Кастор, якая знаходзіцца ў сузор'і Блізнятаў, наш галоўны батанік падхапіў там касторавую чумку. І цяпер я міжволі выконваў яго абавязкі. Даследаваў раслінны свет з самых розных планет, які часткова знаходзіўся на караблі ў маім адсеку. Сярод іншых там расла адна цікавая расліна, якую я падабраў на Месяцы, у невядома кім пакінутым зоркалёце. Яна была незвычайна палахлівая. Падыходзіш да яе, узмахваеш рукою — і сцяблінкі пачынаюць трапятаць, быццам баяцца, што ты зараз вытнеш расліну. Яна засынала і прачыналася. Калі засынала, складвала лісток да лістка. Расліна цвіла. У яе была адна кветка, падобная да тых, што на Зямлі называюцца ільвіным зевам. Праз гэты «зеў» я паіў расліну па кропельцы з піпеткі.

Потым гэта пачаў рабіць Арцём. І расліна лашчылася да яго, дакраналася лісцем да рук. Ён і імя расліне прыдумаў: Ням-Ням. Браў піпетку з кропелькамі вады, падыходзіў да расліны: «Ну, што, Ням-Ням, будзем есці?» І мне здавалася, што ў гэты момант расліна ціхенька смяялася.

Ляцеў час. А з ім насустрач чарговай невядомасці ляцелі і мы. Аднойчы я ўключыў экран знешняга назірання, што займаў ледзь не ўсю сцяну майго адсека, і зразумеў, што мы мінаем сузор'е Льва. Заставалася ззаду яго самая яркая зорка-гігант — Рэгул. Наперадзе было сузор'е Дзевы. І вось неяк Арцём, калі мы з ім зноў сядзелі ля ўключанага экрана, запытаўся ў мяне:

— А чаму сузор'е, да якога мы ляцім, называецца Дзева? Я падумаў і адказаў:

— Гэтую назву яму далі даўно. Яшчэ ў часы дзявятай зямной цывілізацыі, у старажытным Егіпце. Яго з'яўленне на вечаровым небе сведчыла, што надышоў час збору ўраджаю. На палетках працавалі пераважна жанчыны — дзевы. Адсюль і пайшла назва. Таму і Спіка — самая прыкметная зорка гэтага сузор'я — у перакладзе з лацінскай мовы азначае «Колас».

Але Арцёма цікавіла не толькі назва сузор'я. Ён запытаўся і пра мэту нашага палёту. Для чаго мы ляцім туды? І мне давялося яму патлумачыць, што мы — шукальнікі інфармацыі. Прычым, самай неверагоднай, што магла б стаць на Зямлі сенсацыяй. Якую, па нашым вяртанні, Міжнародная асацыяцыя зоркавых палётаў, згодна з заключанымі кантрактамі, прадае інфармацыйным агенцтвам.

— Гэта — Спіка? — абарваў мяне на паўслове Арцём і паказаў позіркам на экран. Я анямеў. На экране вымалёўваўся ярка-блакітны шар. «Зямля!» — перахапіла ў мяне дыханне. Але якая ж тут можа быць Зямля? Гэта была ці не першая планета ў сузор'і Дзевы, якая ўсім сваім выглядам, кропля ў кроплю, нагадвала Зямлю.

І калі мы ўжо завіслі над ёю, выбіраючы найбольш прыдатнае месца для пасадкі, больш за ўсіх здзіўлялася Галя — наш псіхолаг. Яна была надзвычай усхваляваная, усё ўскрыквала і ўскрыквала:

— Ну, хіба можа такое быць? Не-е, я нізавошта не сыду на яе паверхню. Гэта нейкі падман! Міраж. Самы сапраўдны міраж! Вунь, паглядзіце, Атлантычны акіян! А вунь, ну далібог жа, Нью-Ёрк! А там... Там, бачыце, — Гімалаі!

— Хлопцы, шукайце позіркам Белавежскую пушчу, — не то жартам, не то ўсур'ёз сказаў наш каман-

дзір. — Яе возьмем за арыенцір. Ну, а сядзем, зразумела, пад Мінскам, адкуль і стартавалі. На нашым касмадроме. За Раўбічамі.

І ўсе засмяяліся. Вядома, яго словы прынялі за жарт. Але, калі мы ўжо селі на паверхню і кінуліся да галаўнога ілюмінатара, смяяцца нікому не хацелася.

— Вунь ружовая палоска ўзыходу на даляглядзе, тая самая... — паказала Галя. — Ты помніш, Сымон, я казала табе пра яе. Сонца хутка пачне ўставаць, — і яна ўздыхнула з пытаннем у позірку. — Досвітак! Мы на сваім касмадроме.

— Апамятайся, псіхолаг! Карабель праляцеў такую адлегласць! Мільёны кіламетраў!

— Глядзіце! Глядзіце... Вунь зоркалёт Грынчука! Я ведаю іхняга бортмеханіка, — закрычаў наш старшы пілот, які кіраваў пілотамі-робатамі. — Там іхні бортмеханік! — і ён паглядзеў на Антона, маўляў, што ты на гэта скажаш, камандзір? Але Антон маўчаў.

— Пайшоў бы ты лепш да сваіх робатаў, — параіў старшаму пілоту доктар Савіч. — Я не веру, што мы на сваім касмадроме. Гэта выключана. Праграма не магла памыліцца. Увесь маршрут — у маіх мазгах. Я вывучыў яго на памяць. Гэта... Хм-м... Гэта і ёсць планета — копія Зямлі.

— Ха-а, Праграма! І бортмеханік таксама копія? — выгукнуў нехта.

Яго падтрымала Галя:

— Нас жа, як заўсёды, усыпілі робаты. Мы ўсе спалі, калі павінен быў адбыцца старт. Дык, можа, і не было ніякага палёту? У крайнім выпадку, падняліся і завіслі над Зямлёю. Павіселі, павіселі, потым спусціліся. Вось вам той самы неапазнаны лятальны апарат!

— А ўсё, што мы бачылі: метэарыты, рэшткі нейкіх станцый, планеты-гіганты і планеты-ліліпуты, шмат-

лікія зоркі, міма якіх праляталі, – робаты пракруцілі нам у сне. У архіве шмат самых розных запісаў, – выказаў сваё меркаванне маладзенькі лабарант.

– Глупства! – адазваўся я. – Добра помню, як мы праляталі праз сузор’е Льва. На свае вочы бачыў агністы Рэгул, а што да серыялаў, я да іх не падключаўся. Я глядзеў мульцік у сне.

– Не-е, мы сапраўды ляцелі, – нясмела пацвердзіў Арцём. – Я ўвесь час паіў Ням-Няма.

– Ням-Няма? – засмяяўся старшы пілот. – Значыць і ты глядзеў мульцік! Хлопцы, ніякага палёту не было, трэба выходзіць на паверхню і раз’язджацца па сваіх кватэрах. Я стаю на сваім: робатам даўяраць нельга. Хай цяпер з імі разбіраецца Асацыяцыя!

– Чакайце, – сказаў Антон, які ўвесь гэты час задумліва маўчаў. – Сысці мы паспеем і сыдзем, але не ўсе. Значыцца, слухайце... Спушчуся на паверхню я, – абвёў экіпаж позіркам. – Можа спатрэбіцца доктар, таму будзь гатовы, Савіч...

– Мы часта на незнаёмых паверхнях працавалі з ім у пары, – прамовіў я. – Вазьмі і мяне, камандзір.

Антон пагадзіўся. Арцём шапнуў мне: – А я?

– Яго таксама возьмем, – сказаў Антон і дадаў: – Усім астатнім заставацца на караблі да нашага вяртання. Калі якая небяспека, сігналізуйце, выходзьце на мабільную сувязь. Думаю, мы хутка ўсё высветлім, – і папрасіў лабаранта: – Зрабіце замеры на наяўнасць паветра. Калі яно ёсць тут, магчыма, што скафандры і не спатрэбяцца.

Яны, сапраўды, не спатрэбіліся. Мы нават вырашылі апрануцца ў сваё звыклае зямное адзенне. І як толькі сышлі на паверхню, твары адразу аблашчыў прыемны цёплы ветрык, хоць яшчэ толькі пачынала світаць.

– З вяртаннем! – пачуўся вясёлы голас.

Гэта крыкнуў нам бортмеханік, які корпаўся ў абшыўцы зоркалёта Грынчука.

— Гм-м, ён пазнаў нас, — прабурчэў доктар Савіч. — І гэта ўжо зусім робіцца цікавым.

— Пазнаў, дык пазнаў, — неяк абыякава сказаў Антон і, спыніўшыся, агледзеў мясцовасць. — А гэта сапраўды наш касмадром. Вунь, бачыце, стаяць састарэлыя караблі. Яны ўжо другі год там.

— Можа, патэлефануем у Асацыяцыю, цікава, ці адкажуць? — запытаўся я.

— Не, давайце пакінем касмадром, паглядзім, што за яго межамі.

І мы пайшлі, каб неўзабаве пераканацца, што за касмадромам усё было так, як мы прывыклі бачыць. Указальнікі на Раўбічы і на Мінск, ды яшчэ на нейкія мясціны, якія ніколі ніхто з нас не наведваў. Невялікае кафэ «Вясёлае лета», ля якога гуртам стаялі вайскоўцы. Відаць, са службы аховы. Некалькі аўтобусных прыпынкаў, стаянкі таксі, верталётная пляцоўка... Наўкол было даволі шматлюдна, што, дарэчы, кідалася ў вочы. Быў ранні досвітак. У такую пару людзі на Зямлі яшчэ спяць, ва ўсякім выпадку, гараджане.

Да аднаго з таксі падыходзіла дзяўчына. Мне яна падалася знаёмай. Падобную да яе бачыў аднойчы ў памяшканні Асацыяцыі. Яна злёгку пасміхнулася, і гэтая ўсмешка, далібог жа, адрасавалася мне. Яе вочы засвяціліся, і штосьці ўздрыгнула ўва мне. У яе позірку мільгнуў дзіўны ліловы бляск. Я накіраваўся да дзяўчыны. Яна ўжо зачыняла дзверцы таксі.

— Вы ў Мінск?

— З Мінска. Тут у мяне перасадка. Хачу наведаць бацькоў у Залессі. А вы толькі што прыляцелі? Са шчаслівым прызямленнем! — І зноў у яе вачах мільгнула тое ж ліловае ззянне.

Таксі ад’ехала. Я вярнуўся да сваіх. Яны ўжо стаялі на аўтобусным прыпынку.

— Куды рушым? — запытальна паглядзеў на Антона, а ў галаве круціліся словы, якія сказала дзяўчына. Хм-м, са шчаслівым прызямленнем!

— Ну не ў Раўбічы ж... У Мінск, вядома, — адказаў Антон. А потым запытаўся: «Што, знаёмую сваю пабачыў?»

Я толькі пасміхнуўся ў адказ.

«Ну і планетка, — думаў я, калі мы ўжо трэсліся ў паўпустым аўтобусе. — Колькі ж загадак тоіць у сабе Сусвет? Пакінуць Зямлю, праляцець паўгалактыкі і... зноў апынуцца на Зямлі. Гэта была самая сапраўдная неверагоднасць. А, можа, сапраўды мы нікуды не ляцелі?» І тут з’явілася думка.

— Арцём, — сказаў я. — Ты пазвані сваёй маці. Што там у цябе дома? Хвалюецца, напэўна! Вось тэлефон...

Арцём узяў мабільнік, пачаў набіраць нумар, і мы ўсе пачулі голас:

— Алё-ё...

— Ма-ам, гэта я.

— Ну, дзе цябе носіць?! Галодны днямі ходзіш, хоць бы што ўзяў з халадзільніка. Аліку званіла, думала, ты ў яго. Божа, сын называецца! Колькі ўжо дзён не бачыліся! А мы ж на Нямігу збіраліся, красоўкі купіць... У цябе красоўка адна дзіравая. Зараз жа каб быў дома!

Я паглядзеў уніз, пад ногі... У Арцёма сапраўды была дзіравая красоўка. Ён аддаў мне тэлефон. Усе маўчалі.

— Мне ехаць дадому? — праз нейкае імгненне запытаўся ён.

— Разумееш, — нахіліўся да яго доктар Савіч, — ужо даўнавата мы спыніліся на адной зялёнай планеце...

Там жыхары, што жылі на ёй, далі мне арыенцір, своеасаблівую Праграму, якую завезлі туды прадстаўнікі адной з самых высакаразвітых сусветных цывілізацый. Згодна з гэтай Праграмай, каб сустрэцца з братамі па розуме, што, зразумела, можа стаць найвялікшай сенсацыяй, мы павінны былі ляцець менавіта сюды, на копію Зямлі.

— А мая мама? Не-е, гэта наша Зямля, ніякая ні копія! Гэта наш Мінск! — упэўнена сказаў Арцём. — Ды вось жа, за акном толькі што праімчала машына. У ёй я заўважыў свайго аднакласніка Толіка Прышчэпчыка. Я хачу дамоў.

— Пачакай, — сказаў яму Антон. — Табе ж цікава з намі. Дамоў ты паспееш. — І паглядзеў на мяне. — А мы ўжо сапраўды ўехалі ў горад. Вы заўважылі? Пазнаяце, за вокнамі мільгае праспект Пераможцаў... Дзе будзем выходзіць? — І ў яго голасе чулася нейкая ненатуральная весялосць.

І тут я ўспомніў мяшэчак з рачным пяском. Гэты пясок быў з берага Лошы, дзе калісьці даўно прайшло маё дзяцінства. Я заўжды браў гэты мяшэчак з сабой ва ўсе свае далёкія падарожжы, каб памятаць, адкуль я. Гэтым разам мяшэчак застаўся дома. Я забыўся яго ўзяць. Цікава паглядзець, ці знайду яго цяпер у сваёй кватэры? Трэба ж хоць за нешта зачапіцца, каб нарэшце канчаткова праясніць: мы на сваёй Зямлі, ці ўсё ж гэта чужая планета? І я сказаў Антону:

— А давай выйдзем на Паўднёвым Захадзе. Зойдзем да мяне. Я пакармлю вас. У мяне шмат прысмакаў. Ёсць нават грыбы марынаваныя. Мінулым летам збіраў іх у Налібоцкай пушчы.

— Я не супраць, — падтрымаў мяне доктар Савіч. — Недалёка ад цябе жыве адна мая знаёмая. Лора. Медсястра. Ёй здаралася вылятаць на Месяц. Перад са-

мым гэтым нашым палётам я тэлефанаваў ёй. Яна збіралася зноў кудысьці ляцець, — ён паглядзеў на Антона і дадаў: — Была цікавая размова. Пабачым, што яна цяпер скажа?

«Вось і доктар Савіч хоча з нечым зверыцца, супаставіць адно з адным», — падумаў я, а Антон сказаў:

— Я раіў бы вам не расслабляцца. А куды ехаць, мне, у прынцыпе, усё роўна. Цяпер галоўнае для нас да ўсяго як след прыглядвацца. Потым зробім нейкую выснову.

І мы выйшлі з аўтобуса на Паўднёвым Захадзе, дзе хутка апынуліся ў маім двары. Там пачаў адцвітаць бэз, і яго кусты ўжо не дыхалі водарам. Я міжволі пашкадаваў, што не давялося бачыць гэтага кароткага цвіцення. А калі адвёў позірк ад кустоў бэзу, яшчэ здалёк заўважыў постаць свайго суседа, у мінулым — астрафізіка. Ён заўжды хадзіў з драўлянаю кульбаю, якою ўзмахваў у знак прывітання. Узмахнуў і на гэты раз. Пачакаў, пакуль мы падыдзем да яго.

— Колькі ж гэта вы адсутнічалі? — пасміхнуўся ён, і ў яго вачах заіскрылася ліловае ззянне. «Такі ж самы ліловы бляск, што і ў той дзяўчыны, з якою сустрэліся ля касмадрома», — падумаў я, а ўслых сказаў:

— У вас была нейкая справа да мяне?

— Прусакоў санслужбы труцілі, — і раптам ён адвёў вочы, штосьці занепакоіла яго. Узмахнуў кульбаю, нешта мармытнуў і заспяшаўся ў пад'езд дома.

— Ты чымсьці напалохаў яго, — сказаў доктар Савіч. А я ўжо здагадаўся, ужо ведаў чым. Сусед не пабачыў у маіх вачах ліловага ззяння. Пра гэта я зараз жа і сказаў:

— Ён здагадаўся, што я не яго сусед. Што я нехта іншы, падобны да яго суседа. Значыцца, і ён сам нехта іншы з абліччам майго суседа. У яго ліловыя зрэнкі, у нас не такія.

— Кінь, Сымон, — засмяяўся Антон. — Стары чалавек, кепска бачыць. Лінзы ў яго ліловага колеру.

— Не-е, не лінзы! У той дзяўчыны, з якою я размаўляў ля касмадрома, таксама было ліловае ззянне ў вачах. І ў яе ліловыя лінзы?

— Не спрачайцеся, — паспрабаваў супакоіць нас доктар Савіч, — зараз зойдзем у кватэру, я патэлефаную Лоры і, магчыма, мы хутка нешта высветлім.

— А што высвятляць? Ну можа быць планета — копія Зямлі, я дапускаю! Ландшафт падобны, атмасфера, магнітнае поле і ўсё такое... А тут! Арцём, ты размаўляў са сваёй маці па хатнім нумары тэлефона. Я сустрэў суседа, з якім гадоў дваццаць жыву дзверы ў дзверы, але... У яго ніколі раней не было ліловага бляску ў вачах! Дык гэта — Зямля ці не Зямля, скажыце мне?

Апошнія словы я выгукнуў вельмі моцна. Дзяўчынка, што збягала па лесвіцы, нават азірнулася.

— І ў яе ліловасць у вачах, — прашаптаў Арцём.

А я ўжо адчыняў дзверы ў кватэру і першае, на што звярнуў увагу калі зайшлі ў гасцёўню, быў мяшэчак з рачным пяском, які ляжаў на стале. Так, гэта была мая кватэра!

— Сядайце, хто куды... Размяшчайцеся. Я абяцаў вас пакарміць грыбкамі.

— Не цяпер, потым грыбкі, — сказаў Антон і сеў на канапу, позіркам запрашаючы садзіцца Арцёма і доктара Савіча. — Давайце, спачатку прыкінем, што мы маем.

— Ты прыкідвай, — сказаў доктар Савіч, а я прайду ў другі пакой, пазваню Лоры, — і запытаўся ў мяне: — Яе можна сюды запрасіць?

Я згодна кіўнуў і сеў побач з Антонам.

— Дык што ты сабраўся прыкідваць?

— Раскладзём усё, што называецца, па палічках... Планета, куды мы ляцелі, сапраўды аказалася копіяй

Зямлі. Вось мы сыходзім з карабля, і бортмеханік, які завіхаецца ля зоркалёта Грынчука, крычыць нам: «З вяртаннем!» Ён нас пазнаў, а мы ж упершыню на гэтай планеце. Значыцца...

— Правільна мысліш, камандзір, — у гасцёўню вярнуўся доктар Савіч. — Значыцца, да нас тут нехта быў падобны да мяне, да цябе, Антон, да Сымона... Іншымі словамі, жылі нашы двайнікі.

— Што ж атрымліваецца? — запытаўся я. — Мы пакідалі сваю Зямлю, а яны, нашы двайнікі, пакінулі гэтую планету. Мы цяпер тут, а яны, магчыма, там... у нас на Зямлі. І іх гэтаксама хтосьці прымае за нас, як тут нас — за іх!

— Вы забыліся пра ліловае ззянне ў вачах, — сказаў Арцём. — Па гэтым ззянні на Зямлі здагадаюцца, што гэта не мы.

— А яго можна і не заўважыць, — запярэчыў доктар Савіч. — Тая ж дзяўчына ля касмадрома не заўважыла, што ў Сымона самыя звычайныя зямныя вочы. Ва ўсякім выпадку, ніяк не адрэагавала на адсутнасць ліловасці ў іх.

— Ды яна не глядзела мне ў вочы, яна ўжо сядзела ў таксі і навошта ёй было мяне разглядваць! — сказаў я і тут жа ўспомніў. — Чакайце, чакайце... Яна мне сказала: «Са шчаслівым прызямленнем!» Тады атрымліваецца, што і гэтая чужая планета называецца Зямля. А як жа можа такое быць? Нейкая няўвязка атрымліваецца! І тут пачуўся званок у дзверы.

— Я адчыню, — сказаў доктар Савіч. — Гэта — Лора.

Я таксама падняўся з канапы, пайшоў насустрач дзяўчыне... Яна ўжо зайшла ў гасцёўню. Доктар Савіч прапусціў яе наперад сябе і цяпер неяк прыглушана звярнуўся да нас:

— Знаёмцеся — мая знаёмая Лора.

Лора мела даволі прыемную знешнасць і гэтак жа прыемна пасміхнулася. Ліловае ззянне ў яе вачах я ўжо ўспрыняў як належнае. А яна тым часам пераводзіла ўважлівы позірк з мяне на Антона, з Антона на Арцёма... Утварылася напружаная паўза. Яе парушыла Лора.

— Вы — не зямляне, — сказала яна. І гэтыя яе словы былі для нас раўназначнымі выбуху.

— Як гэта не зямляне?! — ускочыў з канапы Антон. — Мы прыляцелі з Зямлі... З Беларусі! Зямля — наша планета. Яна існуе мільёны і мільёны гадоў.

— Я веру... Напэўна, гэтак яно і ёсць. — Лора працягвала ўважліва разглядваць нас. — Гэта — таксама Беларусь! Таксама — Зямля! Зямля-2... Клон вашай Зямлі. І мы ўсе, хто жыве тут на ёй, таксама клоны. Вашы клоны. У нас ваша ДНК. — Лора зрабіла паўзу, задумалася. — Праўда, я пра ўсё гэта ведаю вельмі цьмяна, на ўзроўні чутак. Ва ўсякім выпадку такой гіпотэзы прытрымліваюцца многія і многія нашы вучоныя. Калі ім верыць, дык ваша чалавецтва і наша існуюць паралельна мільёны і мільёны гадоў. І ў нас аднолькавая эвалюцыя, ідэнтычнае развіццё... Вы — гэта мы, мы — гэта вы! Нас розніць толькі адно...

У гэты момант званком адазваўся Антонаў мабільнік. Нехта званіў з карабля. Антон уважліва выслухаў, потым запярэчыў:

— Ні ў якім разе! Хай звоняць, хай патрабуюць! Я забараніў сыходзіць на паверхню! — І ён адключыўся, паглядзеў на Лору. — Ну, дык што нас розніць?

— Той, хто стварыў Зямлю-2, лічаць некаторыя нашы вучоныя, вырашыў усім нам, яе жыхарам, зрабіць падарунак. Мы — несмяротныя. У нашых вачах, у зрэнках ёсць крышталік... Гэта — рухавік бясконцасці, рухавік вечнага жыцця. Ён нейкім чынам звязаны з ядром нашай планеты, з яго сілавымі энергіямі. Наша Зямля нас

сілкуе, таму мы ніколі не спім. Мы не ведаем, што такое сон. Мы заўсёды ў бадзёрым стане. У вашых зрэнках няма рухавіка вечнага жыцця, вы — смяротныя...

Мы слухалі Лору, верылі і не верылі. Але шок быў... Што мы маглі сказаць на гэта? Я чамусьці запытаўся ў Антона:

— Што яны хацелі, з карабля?

— З імі звязаліся з Асацыяцыі зоркавых палётаў. Патрабуюць, каб выходзілі на паверхню. Ім для нечага патрэбен старшы пілот.

— Гэтага рабіць нельга, — сказала Лора. — Супрацоўнікі Асацыяцыі адразу вызначаць, што яны з першаасновы, з Зямлі-1. Іх пастараюцца затрымаць... Для доследаў. Калі ў вас былі з некім кантакты, дык сюды могуць прыйсці са службы бяспекі.

— Кантакт быў! Дзядзька Сымон, ты размаўляў са сваім суседам, — сказаў Арцём.

— Мой сусед — дома, на Зямлі, — адказаў я. — А тут... іншапланецяне. — І падняў позірк на Лору. — Клон майго зямнога суседа, так трэба разумець? Ён заўважыў, што ў мяне няма ліловага бляску ў вачах, што яго і напалохала.

— Вам трэба пакідаць гэтую кватэру, — Лора паглядзела на доктара Савіча. — Я хачу стаць такой, як вы... Адчуць, што такое сон. Мне не трэба несмяротнасці. У мяне ёсць магчымасць пабачыць Зямлю-1. Я хачу паляцець з вамі і, можа, нават змагу некалі вярнуцца, расказаць, што там... на першааснове.

— Наш карабель не разлічаны на дадатковы груз, — хутка адказаў Антон.

— Яна мала важыць, — задумліва зазначыў доктар Савіч і кіўнуў Антону. — Пройдзем у той пакой...

Я не ведаю, пра што яны там размаўлялі, магу толькі здагадвацца, але вярнуліся яны вельмі хутка.

Доктар Савіч не хаваў задавальнення і адразу звярнуўся да дзяўчыны:

— Я яго ўгаварыў, Лора. Ты ўсё ж мая знаёмая...

Яго апошняя фраза была бы са сцэны тэатра абсурду, як і ўсё астатняе. Мы нечакана ўсе ўздрыгнулі, так гучна зазваніў хатні тэлефон у кватэры.

— Не бярыце трубку, гэта можа быць служба бяспекі, — засцерагальна сказала Лора. — Вы ўступалі ў кантакт...

— А, можа, нехта звоніць табе? — запытальна паглядзеў на мяне Антон і нервова засмяяўся.

Мы ўжо адчувалі, што трэба пакідаць гэтую кватэру, спешна вяртацца на карабель. На гэты раз я не забыўся пра мяшэчак з рачным пяском. І хоць ведаў, што ён не належыць мне, сунуў яго ў кішэню. А калі ўжо стаялі на аўтобусным прыпынку чакаючы рэйсавага аўтобуса на касмадром, я пачуў крык:

— Сымо-он! Сымо-он!

Азірнуўся і ў тым, хто бег да нас, пазнаў, хм-м... свайго стрыечнага брата. Ён пасміхаўся шчыраю ўсмешкаю беларуса, вочы свяціліся ліловым ззяннем, якое проста іграла ў іх. — Ты вярнуўся-я! Вярнуўся-я-я... А я лічыў, што ўжо не пабачымся!

— Таксі-і! — крыкнула Лора і спыніла машыну. — На касмадром! З намі падлетак, як-небудзь уціснемся.

Мы сапраўды ўцісынуліся і праз якую гадзіну ўжо былі ля касмадрома. Калі з намі ветліва прывітаўся юнак, падобны да прагаміста, што працаваў на нашай Зямлі ў Асацыяцыі, мы, як па камандзе, апусцілі вочы, каб не выдаць сябе, што мы не з Зямлі-2.

— Скажыце, хай зойдзе ў аддзел кіравання палётамі ваш старшы пілот, — папрасіў ён. — У нас перабоі з сувяззю, правісае кантакт.

— Скажам, — прабурчэў Антон.

Мы заспяшаліся да карабля і без аніякіх тлумачэнняў астатнім членам экіпажа, якія запытальна глядзелі на Лору, Антон аддаў распараджэнне старшаму пілоту:

— Ідзіце да сваіх робатаў, хай рыхтуюцца да старту. Вяртаемся на Зямлю.

Лору падсялілі ў адсек да псіхолага Галі.

— Ты б яе праінструктаваў, — сказаў я Антону. — Робаты аб'явяць старт, загадаюць пагружацца ў сон, а ў Лоры гэты... рухавік вечнага жыцця.

— Я ўжо ўсё сказаў Галі. Ідзі ў свой адсек і ні пра што не турбуйся.

У адсеку мяне чакаў доктар Савіч. Арцём паіў з піпеткі Ням-Няма, але я не мог не заўважыць, што твар у яго быў засмучаны.

— Нешта здарылася, Арцём?

— Голас... куды я званіў. Гэта быў голас маёй мамы.

— Ты пабачыш яе, калі мы вернемся на Зямлю. Яна там цябе чакае, хвалюецца.

— А я ўсё думаю пра Лору Сымон, — сказаў доктар Савіч. — Напэўна, не трэба было яе браць з сабою, але ж я — доктар, мне цікава паназіраць...

— Як за аб'ектам для доследаў? Ці штось іншае?

І доктар Савіч не паспеў мне адказаць, таму што пачуўся голас пілота-робата, які папярэджваў, што хутка мы стартуем і ўсім трэба пагружацца ў кароткі сон...

А неўзабаве мы ўсе зразумелі, што Лору ўзялі на свой карабель дарэмна. Яна слабела на вачах, не магла ні піць, ні есці, адно: ляжала. Было бачна, што да Зямлі Лора не даляціць.

— Яна ўвесь час паўтарае адно і тое ж: «Я хачу спаць, я хачу спаць», але заснуць ніяк не можа, — сказаў мне доктар Савіч, калі аднойчы мы сустрэліся ў цэнтральным холе карабля. — І вось што я думаю,

Сымон. Хтосьці падарыў жыхарам Зямлі-2 несмяротнасць і такім чынам закансерваваў іх. Яны могуць жыць толькі ў межах гэтай сваёй планеты, паколькі сілкуюцца ад яе ядра. Мы бачылі, у іх ёсць касмічныя караблі, яны ж копія нашага развіцця, розум ім дазволіў дасягнуць гэтага. Але варта ім толькі адправіцца ў нейкае касмічнае падарожжа, і яно аказваецца для іх незваротным. Жыццёвыя сілы пакідаюць іх, як толькі яны аддаляюцца ад сваёй планеты.

— Значыцца, тыя... Ну-у, нашы клоны, нашы двайнікі, за каго прымалі нас, маглі адправіцца на нашу Зямлю, але не даляцелі да яе, і наўрад ці вернуцца на Зямлю-2.

— Атрымліваецца, што не вернуцца, — і ў голасе доктара Савіча чулася горыч. — У іх ёсць несмяротнасць, Сымон, але няма шляху ў іншыя светы. Яны — дзеці адной планеты, адно цэлае з ёю.

І тут у хол зазірнула псіхолаг Галя.

— Доктар Савіч, Лора нарэшце заснула, — і цяжка было зразумець, сказала яна гэта з радасцю ці са смуткам. А вось доктар змяніўся ў твары:

— Баюся, што не заснула, а памерла, — ён не хаваў роспачы. — Мы ўжо дастаткова аддаліліся ад Зямлі-2. Энергія яе ядра перастала сілкаваць Лору.

І ён не памыліўся. Цела Лоры мы паклалі ў герметычную капсулу і пахавалі ў адкрытым космасе. За ўвесь час нашых падарожжаў такое здарылася ўпершыню, і мы чамусьці пасля гэтага стараліся не выходзіць са сваіх адсекаў, быццам адчувалі нейкую віну перад Лорай. І толькі ўжо калі падляталі да Зямлі, мяне і доктара Савіча выклікаў да сябе ў адсек Антон.

— У мяне ўжо было некалькі сеансаў сувязі з Асацыяцыяй, — сказаў ён. — Я паведаміў, што мы знайшлі і наведалі Зямлю-2, планету — копію нашай Зямлі.

— І што?

— Мне не паверылі. Запатрабавалі выкласці доказы, як гэта звычайна ў нас бывае: расліны, жывёліны, грунт, камяні ці што іншае. Любая інфармацыя, а тым больш сенсацыйная, патрабуе доказаў.

— Гэтым доказам магла б быць Лора — дзяўчына з сузор'я Дзевы, — сказаў доктар Савіч. — У прынцыпе, я і гэты варыянт пракручваў.

І тут я ўспомніў пра мяшэчак з рачным пяском, пра што і сказаў, маўляў, цяпер у мяне два мяшэчкі. Пясок з таго, які я ўзяў у кватэры на Зямлі-2, можна даследаваць. Раптам там ёсць нейкія мікраарганізмы, якіх няма на нашай Зямлі.

— Не-е, гэта не доказ, — сказаў Антон. — Ты жартуеш? Мяшэчак з пяском! Ды з нас проста пасмяюцца...

Вырашылі, што па прылёце на Зямлю асабліва не будзем распаўсюджвацца пра гэтае наша падарожжа. Тое, што мы былі на Зямлі-копіі вялікай неверагоднасцю здавалася ўжо і нам самім. А сапраўдная Зямля, якую Лора назвала першаасновай, тым часам набліжалася... І вось ужо мы ўсе прыніклі да галаўнога ілюмінатара, і калі ўжо гатовы былі сысці на паверхню на касмадроме за Раўбічамі, Арцём на хвілінку затрымаў мяне ў адсеку:

— Дзядзька Сымон, вазьмі... Я гэта знайшоў пасля таго, як Лору паклалі ў капсулу, — і ён працягнуў мне маленькі крышталік, цьмяна-ліловую пацерку... «Вось ён, доказ, што мы былі ў сузор'і Дзевы на Зямлі-2», — мільганула думка, і тут жа я адагнаў яе. Які дзівак мог паверыць, што маленечкая пацерка магла быць рухавіком вечнага жыцця! І я проста паклаў яе сабе ў кішэню, але ўсё ж паказаў яе доктару Савічу. Але гэта было ўжо значна пазней, калі мы развіталіся з усімі членамі экіпажа, зразумела, і з Арцёмам. Я дазволіў

яму ўзяць з сабою Ням-Няма і паабяцаў што абавязкова з ім звяжуся пасля чарговага палёту ў космас. Мне чамусьці не надта хацелася ехаць дамоў у сваю кватэру на Паўднёвым Захадзе, яшчэ помнілася кватэра на Зямлі-2, і доктар Савіч прапанаваў:

— Табе трэба прывыкнуць зноў да Зямлі ў нейкім нейтральным месцы. Я запрашаю цябе да сябе, на сваю сядзібу. Адпачнеш тыдзень-другі. Рыбку палавім, недалёка азярцо ёсць...

Я пагадзіўся. Узялі таксі і выйшлі з яго, трошкі не даехаўшы да доктаравай сядзібы. Вырашылі прайсціся лугам, каб як след адчуць, якое яно сапраўднае зямное паветра. Вось там я і паказаў доктару Савічу тую пацерку.

— Дай добра разгледжу, — сказаў ён. І не ўтрымаў, крышталік выслізнуў з яго рук, упаў у густую лугавую траву. І як мы ні шукалі яго, знайсці так і не змаглі.

Я сапраўды затрымаўся на доктаравай сядзібе некалькі тыдняў, а потым мне патэлефанавалі з Асацыяцыі. Аднекуль з суседняй галактыкі экіпаж Грынчука, чый зоркалёт, дакладней, копію яго зоркалёта з клонам бортмеханіка мы бачылі на Зямлі-2, прывёз надзвычай цікавую раслінападобную істоту. Знешне — гэта была расліна з вялікім шырокім лісцем. Яна чымсьці нагадвала наш зямны лопух. Калі надыходзіў час цвіцення, у яе на высокай сцябліне распускалася сіняя кветка ў выглядзе вялікай рукі з шасцю пальцамі. І гэтая рука хапала ўсё, да чаго магла дацягнуцца. Нават абрывала ўласнае лісце. У Асацыяцыі склікалі кансіліум, сабралі ўсіх нашых батанікаў, пасля чаго павінна было распачацца даследаванне расліны. Я таксама быў туды запрошаны, хацелася прыняць удзел у тых доследах. Таму давялося развітацца з доктарам Савічам, як пасля аказалася, ледзь не на

год. За гэты час я ўжо нават паспеў злётаць у кароткую камандзіроўку на Месяц, як раптам патэлефанаваў мне Антон:

— Слухай, ты ў бліжэйшы час будзеш вольным? Ёсць ідэя! Мяне зноў угаварыў наш дарагі доктар Савіч, — і ён распавёў далей. — Ну-у, памятаеш, тая яго Праграма... Мы ж не памыліліся з планетай-копіяй, дык чаму б не паляцець да сузор'я Шаляў, у якім, калі зноў жа верыць Праграме, на адной з планет у сістэме зорак, што яго складаюць, ужо даўно вынайшлі машыну часу. Думай, Сымон, думай! Я прапаную, а вырашаць табе!

І я, безумоўна ж, вырашыў. Я пагадзіўся ляцець да сузор'я Шаляў, што, мы і зрабілі неўзабаве. І вось тут варта сказаць, што, як толькі наш асноўны склад экіпажа сабраўся на касмадроме за Раўбічамі, да мяне адразу ж кінуўся доктар Савіч. І па выразе яго твару я зразумеў, што ў доктара ёсць нейкая навіна.

— Сымон, не паверыш, — я нават не пачуў ад яго слова вітання. — А той крышталік — рухавік вечнага жыцця — яшчэ захоўваў нейкую жыццёвую сілу.

— З чаго ты гэта ўзяў? — запытаўся я.

— Ведаеш, там, дзе мы згубілі гэтую пацерку, пры лузе вырасла дзівосная расліна і нават паспела зацвісці. Пялёсткі ў яе кветак ліловыя-ліловыя, як той бляск у вачах хм-м... нашых клонаў на Зямлі-2.

— Лепш сказаць, у вачах Лоры. Пацерка-рухавік належала ёй.

— Во-во, — пагадзіўся доктар Савіч. — Таму я і назваў гэтую расліну: сон лугавы. Хай такім чынам жыве на Зямлі памяць пра Лору.

І я дадаў ад сябе да слоў доктара:

— Хай жыве, як сказала б яна сама, на першаснове. І не толькі як памяць пра яе, а і пра ўсю Зям-

лю-2, куды ўжо, думаю, наўрад ці хто зможа патрапіць з нас, зямлян.

## У САДАХ СЕМІРАМІДЫ – НЯЎТУЛЬНА!

### 1

Я чакаў, што вось-вось пачую голас пілота-робата, маўляў, праз некалькі хвілін мы стартуем. Трэба пагружацца ў сон. Але на гэты раз нічога такога не адбылося, хаця карабель ужо ўзлятаў. Упершыню традыцыя была парушана, і я выйшаў з адсека ў цэнтральны хол, дзе заўжды можна было пабачыць каго-небудзь з членаў экіпажа. Вось і цяпер за невялікім столікам там ужо сядзеў Антон, а з ім – незнаёмец, даволі малады хударлявы мужчына, якога я бачыў упершыню, што мяне здзівіла. На касмадроме я яго не заўважыў.

– Падыходзь да нас, Сымон, – адазваўся Антон. – І знаёмся... Наш новы старшы пілот Ганс Мюлер з Саксоніі.

І мне ўсё стала зразумела. На караблі з'явіўся новы чалавек, а з ім і новы распарадак. Мае думкі быццам падслухаў Антон:

– Ганс узяў толькі аднаго пілота-робата і лічыць, што калі чалавек спіць, дык нават адзін робат небяспечны. Сон мы адмянілі.

Ганс засмяяўся і звярнуўся да мяне па-беларуску:

– Вы батанік? Дык, цікава ведаць, што сталася з тою раслінападобнаю істотаю, якую прывезлі з чужой галактыкі? Чуў у Асацыяцыі, што яе сіняя рука ўсё расце і расце...

– Не-е, ужо сохнуць пачала. Іншымі словамі, адцвітаць.

Цяпер мы ўсе засмяяліся. Я ўважліва паглядзеў на саксонца, падумаў: «Што яго прывяло да нас?» І ўжо ў наступны момант атрымаў адказ на гэтае сваё мімавольнае пытанне, таму што саксонец сказаў:

— А яшчэ я чуў, што на вашым рахунку некалькі сотняў самай што ні ёсць сенсацыйнай інфармацыі. Сам жа я, праўда, толькі шукальнік прыгод. Машына часу, якую мы спадзяёмся адшукаць у сузор'і Шаляў, мяне не цікавіць як сенсацыя, а выключна як магчымасць вярнуцца ў мінулае ці наведаць будучыню.

— Прыгоды будуць! — пачуўся ззаду вясёлы голас. Гэта ў хол увайшоў доктар Савіч. — Не скажы, сенсацыя — справа капрызная. За межамі Зямлі ёсць рэчы, у якія не кожны паверыць, — і ён сеў побач са мною. — Вось, напрыклад, Праграма, якую я атрымаў у падарунак на Зялёнай планеце. У яе ніхто не верыў.

— Дык жа ляцім да сузор'я Шаляў, — сказаў Антон. — Значыцца, паверылі.

Я кіўнуў галавой, падтрымаў Антона:

— Яшчэ й як! У сузор'і Дзевы Праграма сябе апраўдала... Ганс запытальна паглядзеў на мяне:

— А што там у вас было ў сузор'і Дзевы?

Мы ўсе маўчалі. Паўза зацягнулася. Тады саксонец запытаўся зноў:

— А чаго вы, беларусы, такія прагныя да розных такіх сенсацый? Ледзь не ўвесь космас аблёталі! Вы хоць шыльдачкі пакідаеце на планетах — «Тут былі беларусы»?!

— Разумееш, Ганс, — і Антон задумаўся. — Беларусь — невялікая па памерах краіна. Хто на Зямлі згадае пра нас, калі мы самі пра сябе не нагадаем. Чым больш сенсацыйных адкрыццяў мы робім, тым больш пра нас ведаюць.

У гэты момант пачуўся голас пілота-робата:

— Выклікаю для кансультацыі Ганса Мюлера.

— Мала таго, што робат усяго толькі адзін, дык яго яшчэ і кансультаваць трэба! — засмяяўся доктар Савіч.

Ганс падняўся і ўдакладніў:

— Ён першы раз у палёце... Пайду гляну, што там у яго.

І саксонец пакінуў хол. А я зірнуў на Антона, маўляў, што ж ты не папярэдзіў, што ў нас новы старшы пілот? Антон не зразумеў майго запытальнага позірку а доктар Савіч паляпаў мяне па плячы:

— Саксонец — надзейны хлопец! Дарэчы, як твой астэроіднік? Гэта ж мы з Гансам наведалі той астэроід недалёка ад Валапаса, адкуль і прывезлі табе гэты грыб. Колькі іх ужо ў цябе?

— Можаш паглядзець...

І доктар Савіч не адмовіўся зайсці да мяне. Праўда, тое, што ён назваў астэроіднікам, па прынцыпе, пад асінай — падасінавік, пад бярозай — падбярозавік, ну а калі нешта вырасла на астэроідзе, значыцца, — астэроіднік, мне самому бачылася кактусам. Ён меў форму грыба, але быў увесь у калючках. Грыб-кактус, у якога была свая маленькая таямніца. Як толькі нехта малазнаёмы падыходзіў да скрыні, дзе ён рос, астэроіднік адразу выдаваў дзіўны гук: «Ку-ум!» І адразу ж побач з ім з грунту вытыркаўся маленечкі астэроіднічак, быццам астэроіднік тым самым хацеў сказаць: «Не чапай мяне! Я не адзін, нас многа!..» З-за гэтага я рэдка каму яго паказваў. Навошта мець на караблі плантацыю ні то грыбоў, ні то кактусаў?!

— Я падыду да астэроідніка адзін, — сказаў доктар Савіч, як толькі мы зайшлі ў мой адсек. Калі ласка, я не пярэчыў яму. І вось ужо чую з глыбіні адсека знаёмае «Ку-ум!» і тут жа голас доктара Савіча:

— А ты Арцёму яго паказваў?

І мне стала зразумелым, чаму раптам доктар Савіч згадаў пра астэроідніка. Ён, напэўна, не-не, ды і ўспамінаў Арцёма, як, дарэчы, і я сам. Адсек ад самага пачатку гэтага палёту мне здаваўся апусцелым. Гэтае пачуццё адзіноты не пакідала і надалей. Я паспеў палюбіць і прывязацца да Арцёма. Мне не хапала яго. І вельмі часта, калі садзіўся да экрана знешняга назірання, уяўляў, як бы гэта цяпер мы маглі сядзець разам. І Арцём, напэўна, зноў запытаўся б: «А чаму сузор'е, куды мы ляцім, мае назву Шалі?» І я адказаў бы яму, што, магчыма, гэтая назва прыйшла са старажытнага Вавілона, з той зямной цывілізацыі, якая дасюль у многім з'яўляецца для сучасных зямлян загадкай. Старажытныя астролагі, якія жылі там, безумоўна, назіралі за Сонцам. Яны маглі гэта рабіць са славутай Вавілонскай вежы. І, вядома ж, аднойчы заўважылі, што калі сонца знаходзіцца ў гэтым сузор'і, дык на Зямлі дзень пачынае раўняцца начы. Атрымліваецца — раўнавага. З Зямлі няўзброеным вокам звычайны чалавек можа бачыць, як у гэтым сузор'і цьмяна пamiгваюць сем-восем зорак, але, калі паглядзець у тэлескоп, іх, напэўна, значна больш. Ёсць там, безумоўна, і планеты.

«Дык што, мы будзем садзіцца на кожную з гэтых планет, пакуль не знойдзем машыну часу?» — мог бы ў мяне запытацца Арцём. І я адказаў бы яму: «Магчыма, гэта нам і давядзецца зрабіць, але затое які цікавы свет мы можам адкрыць для сябе! Ты ўжо меў магчымасць пабачыць, што ў космасе могуць сустрэцца такія неверагоднасці, у што людзям на Зямлі цяжка паверыць». І потым, калі б мы ўжо дасягнулі сузор'я, сапраўды, маглі б адкрываць для сябе планету за планетай. А, можа, гэтага і не спатрэбілася б, таму што на першай жа планеце мы маглі б сустрэцца з невядо-

мым для нас светам. І гэты свет прадэманстраваў бы нам сваё вынаходніцтва: машыну часу — геніяльнае адкрыццё таемнага чужога розуму. Гэтак думалася мне даволі часта, а на самай справе ўсё атрымалася па-іншаму, зусім непрадказальна.

Аднойчы я займаўся вывучэннем раслін, якія былі ў адсеку, і раптам адчуў, што карабель пачаў вібрыраваць. Усё, што знаходзілася наўкол, затрэслася, захісталася. І ў тое ж імгненне пачуўся голас пілота-робата:

— Не ўпадайце ў паніку. Сітуацыя высвятляецца. Чакайце далейшых звестак.

Вібрацыя працягвалася. Я ўжо было хацеў ісці ў цэнтральны хол, як у адсек увайшоў доктар Савіч.

— А чаму ў цябе не ўключаны экран? — запытаўся ён. — Уключай! Па маіх разліках, а я ж кіруюся арыенцірам Праграмы, мы ўжо ў межах сузор'я Шаляў. І ты толькі паглядзі, што ў нас па курсе...

Я ўключыў экран і ўжо не мог адарвацца ад яго.

На ім вымалёвалася планета, абкружаная аблокамі. І яна нібыта варылася ў іх, гэтак яны бушавалі і віхурыліся. Тысячы і тысячы маланак праціналі іх, звіваліся ў вогненныя клубкі і раскручваліся. Нібыта агністыя змеі, маланкі чапляліся адна за адну, утвараючы самыя розныя геаметрычныя фігуры. Аблокі свяціліся то ружовым, то блакітным ззяннем. Мігатлівыя агні выстрэльвалі з іх, і мільёны іскраў уцягваліся назад у аблокі.

— Касмічны ўраган, — сказаў доктар Савіч. — Мы не праб'ёмся праз яго да планеты, ды і невядома, што там на ёй.

— Увага! Карабель прыцягваецца планетай, — пачуўся голас. І на гэты раз не пілота-робата, а Ганса Мюлера. — Спрабую вывесці яго з-пад яе ўздзеяння.

— Гэта катастрофа, — сказаў я. — Калі карабель прыцягваецца, мы можам урэзацца ў гэтую вогненную кашу.

— Мюлер — класны спец!

Але гэтыя словы доктара Савіча мяне не супакоілі. Я глядзеў і глядзеў на экран і мне думалася, што, напэўна, гэтак выглядае пекла. У адсек зазірнуў Антон:

— Прывыклі да трасучкі?! Робатаў ужо, напэўна, штампуюць. Быў бы чалавекам, сказаў бы, што страціў прытомнасць. Бортмеханік спрабуе вярнуць яго да жыцця.

— Ты не пра робата, ты лепш скажы, што будзе з караблём? — запытаўся ў Антона доктар Савіч.

— А што можа быць? — адказаў Антон. — У гэтай планеты ёсць два спадарожнікі. Адзін ледзь заўважны — з пылу. На другім саксонец паспрабуе зрабіць пасадку.

Мы сапраўды неўзабаве завіслі над гэтым другім спадарожнікам. Але карабель усё яшчэ вібрыраваў. І бортмеханік Аляксей, якога звычайна мы рэдка бачылі, такі ён быў некамунікабельны, цяпер нібыта апраўдваўся перад кожным з нас.

— Хлопцы, ну далібог жа ўсё ў парадку. Усе прыборы ў норме, а такое адчуванне, быццам вось-вось на караблі ўсё адмовіць.

— Ты робата вярнуў да жыцця? — запытаўся ў яго доктар Савіч.

— Вярнуў! Ён у сябе ў адсеку.

Мы ўсе знаходзіліся ля галаўнога ілюмінатара. Перакідваліся словамі і кожны з нас напружана ўзіраўся ў паверхню, на якой разгледзець што-небудзь было цяжка. Засцілі попел і пара ў атмасферы гэтага спадарожніка, які нагадваў вялікі востраў. І ўсё ж тое-сёе мы бачылі і, напэўна, у думках кожны жахаўся. Было падобна, што на ім адбылася глабальная катастрофа.

— Бачыце, горы... Ля іх белыя слупкі, — казаў Антон. — Гэта, напэўна, гейзеры, і тэмпература вады ў іх даволі высокая. Пара адсюль бачная.

— Ты на галоўнае не звярнуў увагі, — адазваўся доктар Савіч. — Вунь тая гара, самая высокая. Гэта ж вулкан і не патухлы. Над кратэрам клубы дыму. Але, думаю, вывяржэнне ўжо адбылося. Лава пакрыла ледзь не ўсю паверхню. Шкада. Там было жыццё.

І доктар Савіч не памыліўся. Таму, што, калі Ганс пасадзіў карабель і мы сышлі на паверхню, пакінуўшы на караблі Аляксея і робата, пераканаліся, што вывяржэнне вулкана было вялікай сілы.

— Па нашых зямных мерках, гэта адбылося гады два таму назад, — сказаў саксонец. — Лава паспела застыць і пахавала пад сабою ўсё жывое.

Мы ішлі і ішлі і наўкол бачылі адно разбурэнне, хаця было падобна, што там, дзе мы знаходзіліся, некалі быў вялікі горад.

— Цяжка паверыць у такое, каб ніхто не выжыў, — уздыхнуў доктар Савіч. — Але рэаліі паказваюць, што мы ў мёртвым горадзе, які сузіраем у выглядзе руін.

— Дзіўна, — сказаў я. — Наўкол хоць бы дрэва ці куст які.

— Затое дамы тут былі драўляныя, — заўважыў Антон. — Вунь колькі бярвення, а там... — паказаў позіркам. — Дык амаль неразбураная будыніна. Ого-о, сцяна метраў дзесяць!

І мы падышлі да гэтай будыніны. Яна ўзвышалася напаўразбураным абпаленым зрубам, як пакарабачаны помнік усяму таму, што тут некалі было. Я паспрабаваў уявіць прыгожы драўляны дом, а за ім — яшчэ і яшчэ адзін... Шырокую вуліцу, роўныя зялёныя газончыкі... І здалося непраўдападобным, што гэта ўсё магло быць на маленечкім спадарожніку невядомай

планеты, ахопленай касмічным ураганам у сузор'і Шаляў.

Доктар Савіч падняў з долу невялікі зеленаваты аскепак, пакруціў у руках:

— А тут у нетрах ёсць жалеза, — сказаў ён. — Гэта — сэйдзі, адзін з васьмі відаў керамікі. На Зямлі яе пачалі вырабляць у Кітаі недзе каля трох тысяч гадоў таму назад. Потым яна з'явілася ў Японіі. Каб атрымаць такі колер, у паліву трэба было дадаваць жалеза.

— Гэ-эй, сюды! Хадзіце сюды!

Гэта крычаў нам Ганс. Ён паспеў ужо адысціся трохі наперад і быў чымсьці ўсхваляваны. Калі падышлі да яго, пабачылі катлавіну, у якой не было канца. Але ўражвала іншае. Па баках гэтай катлавіны былі трыбуны. Абпаленыя, занесеныя попелам, яны таксама не мелі краю, здаваліся бясконцымі.

— Здагадваецеся, што гэта? — запытаўся саксонец.

— Думаю, стадыён, — адказаў Антон. — Мы стаім перад футбольным полем.

— Але ж якога росту былі тыя, што гулялі на ім? Памеры ўражваюць! — сказаў доктар Савіч.

— Я пра гэта падумаў яшчэ, калі стаялі ля той сцяны, — адазваўся Антон. — Будыніна мела адзін паверх. У такім памяшканні маглі жыць веліканы.

Я азірнуўся, каб яшчэ раз паглядзець на сцяну адзінокага зруба і заўважыў, што каля яе штосьці блішчыць. Краёчак нечага, што ледзь-ледзь вытыркалася з попелу, які гурбамі ўзвышаўся пад сцяною.

— Антон, там нешта ёсць. Блішчыць, як золата, — сказаў я. — Давай вернемся да сцяны.

Калі мы вярнуліся і разгрэблі попел, дык пабачылі нешта, што нагадвала вушную ракавіну, самае сапраўднае залатое Вуха з адтулінай пасярэдзіне, ды такой

вялікай, што ў яе мог пралезці чалавек. Знаходка нас уразіла.

— Можа, тут у музеях падобныя рэчы выстаўляліся? — зазначыў Антон.

— А я думаю, што гэта наглядны дапаможнік, — выказаў сваё меркаванне доктар Савіч. — Маглі дэманстраваць у школах, калі дзеці анатомію вывучалі. — І ўзяўся за краёк Вуха. Прыўзняў яго: — Для золата легкаватае!..

— Гэта можа быць і часткай нейкай скульптуры, — уключыўся ў размову саксонец. — Калі тут жылі веліканы, дык і скульптуры ў іх былі адпаведныя.

У гэты момант паверхня, дзе мы стаялі, уздрыгнула, хіснулася... Пачуўся незразумелы гул. Мы ўсе азірнуліся і пабачылі, што кратэр вулкана, які быў самае большае ў некалькіх кіламетрах ад нас, пырхае агнём і па яго схіле сцякае вогненная рака... А гейзеры, што білі фантанамі недалёка ад падножжа вулкана, напэўна, закіпалі. Адтуль насоўваліся, ляцелі клубы пары. Паветра зрабілася цяжкім, задушлівым і вільготным.

— Вулкан выплюхнуў з сябе лаву, — уздыхнуў Ганс. — Трэба ратавацца і ратаваць карабель. Яна зноў тут можа ўсё накрыць сабою.

— Сымон, памажы мне...

Доктар Савіч усё яшчэ трымаўся за прыўзняты краёк Вуха, і я падхапіў другі яго канец. З гэтым залатым Вухам мы і рушылі да карабля, дзе нас чакала непрыемная навіна.

— Я ўжо збіраўся паслаць вам сігнал, — сказаў бортмеханік. — Карабель намагнічваецца. Робата прыцягнула да дзвярэй і адарваць яго я не змог. Ён цалкам паралізаваны.

— А мы ўжо гэта бачылі і самі. Робат-пілот вісеў, бы прыклеены да дзвярэй свайго адсека. Больш таго,

туды ж прыцягнула і Вуха, якое мы з доктарам Савічам усё яшчэ трымалі ў сваіх руках. Яно прыляпілася да робата, амаль цалкам прыкрываючы яго.

— Ганс, хутчэй ідзі да пульта кіравання палётам, — сказаў Антон саксонцу. — Баюся, мы не зможам узляцець!

Але мы ўзляцелі... Стаялі ля галаўнога ілюмінатара і назіралі, як там, ужо далёка ўнізе, вогненныя языкі лавы выпальвалі і пакрывалі сабою ўсё, што яшчэ заставалася на паверхні, якую мы паспелі своечасова пакінуць.

— Я зазірну да Мюлера, — сказаў Антон. — А вы, хлопцы, разыходзьцеся па сваіх адсеках.

— Куды цяпер? — запытаўся я ў доктара Савіча. — У саксонца ёсць арыенціры тваёй Праграмы?

— Яна паказвала на тую планету, куды мы нават не спрабавалі прабіцца, — адказаў доктар. — Хто ж палезе, як ты сам сказаў, у вогненную кашу?!

І, калі мы ўжо разышліся па сваіх адсеках, пачуўся голас Ганса Мюлера:

— Увага! Карабель размагнічваецца. Можа зноў пачацца вібрацыя, а з ёю і непаладкі. Пры такой сітуацыі знаходзіцца ў глыбокім космасе небяспечна. Бяру курс на Зямлю!

І адразу ж пасля саксонца мы пачулі Антона:

— Загадваю пагрузіцца ў сон! Працягласць сну не вызначайце! Бяру пад свой кантроль усыпляльнік. Падключайцеся да кінасерыялаў!

Ну што ж, сон, дык сон! Загад камандзіра трэба выконваць. І хоць гняла нейкая незразумелая трывога, я падкарміў свае расліны і, як і падчас палёту ў сузор'е Дзевы, падключыўся да мульцікаў... А прачнуўся, калі ўжо Ганс пасадзіў карабель на Зямлі, на нашым касмадроме за Раўбічамі.

— Як бачыш, асаблівых прыгод не атрымалася, — казаў доктар Савіч саксонцу, калі мы ўжо рыхталіся пакінуць карабель.

А мне рупіла хутчэй дазнацца, што ж там, з тым залатым Вухам, куды яго цяпер панясём: у памяшканне Асацыяцыі ці ў аддзел экспертызы пры ёй? Пра гэта я і запытаўся ў доктара Савіча, на што ён адказаў:

— Якая экспертыза?! Якая Асацыяцыя?! Гэтае Вуха стала падобнае на звычайную бляшанку. Да таго ж робат, калі пачаў размагнічвацца, трохі пamяў яго.

— Што ты прапануеш?

— Нічога... Вынесем і выкінем дзе-небудзь за састарэлымі караблямі. Не ў музеі ж яго выстаўляць! З любога боку ніякай цікавасці яно не ўяўляе.

І тут я ўспомніў пра Арцёма... Для музея Вуха, можа, і сапраўды рэч непрыдатная, а вось падлетка яно зацікавіць можа, хаця б проста паглядзець на яго, памацаць... Як-ніяк, прывезенае з чужога свету!

Мы з доктарам Савічам вынеслі Вуха з карабля і доўга не думаючы, як і сказаў доктар, зацягнулі яго ў канец касмадрома за састарэлыя караблі. Тым жа днём я патэлефанаваў Арцёму. Расказаў яму пра наш палёт у сузор'е Шаляў, і як толькі распавёў пра Вуха, якое стала звычайнай бляшанкаю, ён гатовы быў зараз жа ехаць на касмадром за састарэлыя караблі, што і зрабіў. Праўда, не адзін, а са сваім сябрам — Алікам.

Калі праз некалькі дзён мы сустрэліся з Арцёмам і я запытаўся, якое ў яго ўражанне ад Вуха, дык яго адказ склаўся ў мяне ў асобную казку: «У ПРОСТАЙ РЭЧЫ МОЖНА НЕ ПАБАЧЫЦЬ ГАЛОЎНАГА».

## 2

Арцём вельмі добра ведаў кожны закутак касмадрома, таму як толькі яны з Алікам апынуліся за састарэлымі караблямі, дык хутка і адшукалі Вуха. Яно ўжо не мела той формы вушной ракавіны, робат не пашкадаваў яго, але адтуліна, цяпер яна была ледзь не на ўсё Вуха, захавалася. Хлопцы пахадзілі, пахадзілі ля Вуха, а потым Алік вазьмі і палезь у тую адтуліну... І ў той жа момант яго не стала. З другога боку ён не вылез. Тады тое ж самае зрабіў і Арцём...

— Я ляжаў на зямлі і бачыў, што я — гэта не я! Звычайная зялёная елачка, над якою лётала, мітусілася невялічкая птушка: цвы-ір! Цвы-ір! — расказваў мне Арцём. — Потым гэтая птушка загаварыла, і я пазнаў голас Аліка.

— Што нам цяпер рабіць, Арцём? Усё адбылося, як у той казцы, калі конь сказаў малодшаму з трох братоў: «Залезь у адно маё вуха і праз другое вылезеш асілкам-прыгажуном». Мы з табою залезлі ў Вуха з сузор'я Шаляў, і вось ты — елачка, а я... Я — салаўіны цвыркун! І назад мы ў Вуха не ўлезем, а яно вунь ляжыць... Я не зацягну цябе, у мяне маленькая дзюбка, сілы не хопіць.

А Арцём тым часам азіраўся і бачыў наўкол пустыню. Пяскі і пяскі... Бязлітасна пякло сонца. «Яшчэ трошкі тут паляжу і з мяне пачнуць асыпацца іголкі», — падумаў Арцём, а Аліку ўслых сказаў:

— Падніміся трошкі вышэй, у цябе ж крылы! Можа, што пабачыш акром гэтай пустыні, гэтых пяскоў?

— Бачу, бачу, — закрычаў праз імгненне салаўіны цвыркун голасам Аліка. — Сюды да нас на вярблюдзе едзе чалавек! А яшчэ трошкі далей нейкі вельмі вялікі горад...

І сапраўды, да іх хутка падышоў вярблюд, і чалавек, які сядзеў на ім, саскочыў на зямлю, і радасці яго не было канца.

— Ай-я-я-яй! Ай-яй! Што бачаць вочы шаноўнага халдзея! Якое дзіўнае дрэва! Якое цудоўнае, прыгожае дрэва! Вечны горад Бабілу яшчэ не бачыў такога! Я завязу яго ў сады мідзійскай прынцэсы, і вялікі Навуходаносар, бліскучы валадар усяго Халдзейскага царства, дасць мне за яго дзесяць дынараў!

Халдзей падхапіў елачку, прывязаў яе да сядла, сам ускочыў у яго, і вярблюд пайшоў далей па гарачых пясках пустыні. «Цвы-ір, цвы-ір!» — трывожна кружыў над вярблюдам салаўіны цвыркун, і елачка трапятала, баялася, што пачнуць асыпацца яе іголкі пад невыносна-спякотным сонцам... Потым быў дзівосны горад Бабілу — шматпавярховыя дамы, стракатыя базары, іскрыстыя фантаны, храмы, спякота і пыл... Халдзей прывязаў вярблюда да каменнага слупа і пайшоў да гандляра, які гандляваў вадою, а салаўіны цвыркун сеў на яловую галінку:

— Ты зразумеў, дзе мы? — зашаптаў ён голасам Аліка. — Мы ў старажытным Вавілоне. Бабілу — гэта Вавілон. А сады, пра якія казаў халдзей, — адзін з цудаў свету. Я ведаю гэта з гісторыі — вісячыя сады Семіраміды.

— Не расказвай... Сам усё чуў! Ты лепш скажы, як нам выбрацца адсюль?

Салаўіны цвыркун маўчаў. А халдзей адвязаў вярблюда і рушыў далей, каб неўзабаве апынуцца ля шыкоўнага палаца... Ён атрымаў свае дзесяць дынараў, а зялёную елачку рабы ўваткнулі ў зямлю на першым ярусе тых не забытых чалавецтвам садоў, што ў чатыры ярусы ўзвышаліся над стометровымі сценамі Вавілона.

«Цвы-ір, цвы-ір», — салаўіны цвыркун сядзеў на яловай галінцы і разважаў:

– Калі тут з’явіцца мідзійская прынцэса, а яна абавязкова з’явіцца, каб паглядзець на цябе, давай звернемся да яе сваімі чалавечымі галасамі... Яна, напэўна, тут сумуе па сваёй Мідзіі, а мы сумуем па сваёй Беларусі... Яна павінна зразумець нас. Ты ёй скажаш, што хоць гэтыя сады і прыгожыя, але табе, елачцы, прывыклай да беларускіх лясоў, тут – няўтульна!

– Алік, не балбачы! Я ўжо не магу на гэтай спякоце... Злётай да Еўфрата і хоць некалькі кропель вады ў дзюбцы прынясі.

І гэтыя словы Арцёма-елачкі нібыта хто падслухаў.

Да дрэўца падбеглі рабы і вылілі на яго вядро вады. І тут жа на алеі з’явілася мідзійская прынцэса ў акружэнні сваіх служанак... Арцём бачыў, як пацяплелі, зазіхацелі вочы ў прынцэсы:

– Адкуль?! Хто гэты цуд прывёз сюды?! – І ў чароўным голасе чулася радасць. Прынцэса дакранулася рукой да яловай галінкі і... укалола свой пальчык.

І ўсе замітусіліся, закрычалі: «Прынцэса ўкалола пальчык! Укалола пальчык!» І хоць сама прынцэса гэтага не хацела, але ўладар Вавілона, магутны Навуходаносар, загадаў выкінуць елачку за гарадскія сцены, што і зрабілі рабы.

Пачынала змяркацца. «Цвы-ір, цвы-ір», – трапятаў крылцамі салаўіны цвыркун:

– Што цяпер будзем рабіць, Арцём?

– А ты зірні на неба, бачыш, якія буйныя прамяністыя зоркі! А вунь там... вежа Вавілонская. За такімі зоркамі нельга не назіраць. Думаю, што на вежы ты можаш знайсці астролага. Вось хто нам можа дапамагчы. Толькі папрасі яго як след!

І салаўіны цвыркун паляцеў да Вавілонскай вежы. На самай верхняй яе пляцоўцы ён сапраўды пабачыў

астролага. Тут жа была і падзорная труба. Астролаг сядзеў на самым краёчку вежы і штосьці пісаў на дошчачцы. «Цвы-ір, цвы-ір», — падляцеў да яго цвыркун і апусціўся побач:

— Шаноўны з самых шаноўных, ты ўсё сваё жыццё назіраеш за зоркамі...

— Назіраю. Хм-м, цікавыя лічбы, — астролаг нават не здзівіўся, што птушка звярнулася да яго чалавечым голасам, і працягваў. — Ну, вядома, я гэтае сузор’е назаву сузор’ем Шаляў!

— Вось-вось, з сузор’я Шаляў, недалёка адсюль, у пустыні ляжыць Вуха, — пачаў расказваць салаўіны цвыркун. — Ты можаш пабачыць самы сапраўдны цуд! Толькі для гэтага табе трэба пайсці за мною, падняць за гарадской сцяною елачку, потым мы разам пойдзем да Вуха і ты зразумееш, што я не хлушу. Я веру, што ты — лепшы астролаг з астролагаў, цябе не можа не зацікавіць Вуха з сузор’я Шаляў.

Салаўіны цвыркун гаварыў доўга, вельмі доўга і астролаг, нарэшце, здзівіўся:

— Калі ў пустыні ляжыць Вуха з сузор’я, якое я толькі што назваў Шалямі, дык адкуль жа ты сам, што так цудоўна валодаеш чалавечай моваю?

— Я не магу табе гэтага растлумачыць, а калі і растлумачу, ты не зразумееш, пакуль не пабачыш. Я палячу, а ты ідзі за мной...

— Добра, — сказаў астролаг. — Я сыду з вежы...

І неўзабаве ён ужо нёс у руках елачку, над пяскамі кружыў цвыркун: «Цвы-ір, цвы-ір», і дзівосны горад Вавілон усё аддаляўся і аддаляўся...

— Вось яно, Вуха, — радасна залапатаў крыламі салаўіны цвыркун і апусціўся побач з ім на пясок.

— Што я павінен зрабіць? — запытаўся астролаг.

— Праціснуць дрэўца ў гэтую дзірку.

І астролаг праціснуў елачку і, калі яна знікла па другі бок Вуха, ён запытальна паглядзеў на цвыркуна:

— Прастора паглынула яго?

— Гэта была не елачка, а мой сябар — Арцём. Ён цяпер у Беларусі, у невядомых табе часах. Хочаш, і ты пралезь?

— Ніхто па сваёй ахвоце не пакідае Бабілу — адказаў астролаг. — Бабілу — Вароты Багоў, а гэта толькі Вуха.

І салаўіны цвыркун нічога больш не сказаў астролагу. Узмахнуў крыламі і ўляцеў у Вуха.

«У кожнага чалавека свой Вавілон, — сказаў я Арцёму, як толькі ён закончыў свой расповед. — Вось чаму астролаг адмовіўся пралезці ў Вуха». І на наступны ж дзень я паехаў на касмадром за састарэлыя караблі, але Вуха там ужо не знайшоў. Затое мне было зразумела, чаму на тым спадарожніку невядомай планеты, што была ахоплена касмічным ураганам у сузор'і Шаляў, мы нікога не выявілі. Тыя, хто жыў на ім, ратуючыся ад вогненнай лавы, скарысталі Вуха — геніяльнае вынаходніцтва свайго розуму. Хто яны? У якой прасторы і ў якім часе цяпер знаходзіліся? На гэтыя пытанні ўжо ніколі ніхто не адкажа, як і я не знайду адказу на сваё:

— Куды ж падзелася Вуха?

## Стужка ордэнская

*І лёгкакрылы матыль можа навеяць успаміны...*

З нататніка астранаўта.

Я ўжо даўно не быў у космасе, як, дарэчы, і доктар Савіч. Займаліся выключна зямнымі справамі. На сваёй сядзібе доктар адвёў мне невялікі ўчастак

зямлі, куды я перавёз з карабля свой батанічны сад і цяпер цэлымі днямі быў заняты доследамі. Многія расліны не прыжываліся ў зямным грунце і мне даводзілася іх бясконца перасаджваць у розную глебу.

Быў пачатак верасня, а адна расліна — ну проста бы вылепленая са снегу — якую я выкапаў на адной з планет далёкага сузор'я Вялікага Пса, так і не памяняла свайго белага колеру і толькі-толькі выпусціла першы лісток на Зямлі, у што я ўжо не верыў. Таму і хацеў як мага хутчэй паказаць яго доктару Савічу. Але той ужо сам гукаў мяне:

— Сы-ымон! Сымо-он, не паверыш: у нас госць!

Я, вядома ж, пайшоў да альтанкі, адкуль чуўся голас доктара, і пабачыў там Антона, камандзіра нашага экіпажа, з кім найчасцей даводзілася вылятаць у космас. Антон прыехаў да нас з прапановай, і калі мы выслухалі яго, дык адразу і пагадзіліся паляцець да сузор'я Цяльца ў накірунку Крабападобнай туманнасці.

Справа ў тым, што ўжо недзе з год таму назад Міжнародная асацыяцыя зоркавых палётаў паслала туды экспедыцыю паназіраць з невялікай адлегласці за гэтай загадкавай газавай туманнасцю, і карабель, дзе пілотам быў саксонец Ганс Мюлер, на адной з планет (трэба меркаваць, сузор'я Цяльца) пацярпеў катастрофу. Ніхто з членаў экспедыцыі, а іх было толькі чацвёра, не загінуў, але на Зямлю яны вярнуцца не маглі. Зоркалёт пад уздзеяннем невядомых энергій распаўся на некалькі частак. Саксонец настойваў на тым, каб па іх паляцелі менавіта мы — беларусы. Маўляў, пабачым там нешта надзвычай цікавае для сябе. А самае галоўнае, што адным з членаў той экспедыцыі была псіхолаг Галя, якую мы неаднойчы бралі з сабою ў касмічныя падарожжы. Як было не паляцець?

І праз паўгода, дзесьці ўжо пад канец зімы, мы стартавалі...

Яшчэ была бачная ў зімовым небе прамяністая зорка Альдэбаран, якую нехта аднойчы назваў «вокам быка». Туды, да яе, і пралёг наш маршрут. Але да Альдэбарана мы не даляцелі, хаця былі зусім блізка ад гэтай зоркі і яе планетнай сістэмы. Так блізка, што маглі бачыць дзве планеты на сваіх экранах. Нечакана на сувязь з намі выйшаў саксонец, і наш робат-пілот адхіліўся ўправа ад іх, прытрымліваючыся тых каардынатаў, якія нам даў Ганс. І ўжо неўзабаве мы завіслі над зусім невялікім астэроідам, усяго кіламетраў пятнаццаць у дыяметры. З вышыні ён меў форму глыбокай талеркі: па краях — горы, а ў сярэдзіне — зялёная пляма, на ўскрай якой мы і апусціліся.

Перад намі ляжаў трапічны пальмавы лес, ды такі высокі, што белыя з чырвонымі дахамі пабудовы між пальмаў выглядалі як казачныя домікі, у якіх жывуць гномы. Але каля гэтых казачных дамкоў мы пабачылі не гномаў, а самых сапраўдных людзей-ліліпутаў у вельмі стракатым адзенні. Калі б яны мелі за спінамі крылы, дык іх можна было б прыняць і за казачных эльфаў. Наш карабель не прыцягваў іхняй увагі. Ён не быў для іх дзівам, і нас гэта, у адрозненне ад іх, здзіўляла. Можна было падумаць, што яны тут бачаць зоркалёты з іншых светаў штодня.

Ужо недзе з паўгадзіны мы ўзіраліся ў мясцовасць і вось пачулі радасныя крыкі: «Анто-он! Доктар Саві-іч! Сы-ымон!» Да карабля беглі Ганс Мюлер і Галя. Мы з палёгкаю ўздыхнулі. Робат-пілот не памыліўся, пасадзіў карабель там, куды і павінен быў пасадзіць. І пасля кароткіх слоў прывітання, пасля радасных абдымкаў, калі мы спусціліся на паверхню, саксонец прапанаваў прайсці да абломкаў іх карабля, дзе яны

размясцілі некалькі палатак. Па дарозе ён расказаў што тут з імі знаходзяцца яшчэ і астрафізік — бельгіец Алекс, і бортмеханік, імя якога яны не ведаюць дагэтуль. Што, зразумела, нас усіх здзівіла.

— Як гэта такое можа быць? — адразу запытаўся доктар Савіч. — Ты пілот і не ведаеш імя свайго бортмеханіка?

— А гэта не мой бортмеханік, — адказаў Ганс. — Мой у шпіталі на Месяцы, паляк Ромусь. А гэтага мы падабралі там... на родненькім падарожніку. Ён папрасіўся на карабель, і мы не змаглі яму адмовіць. Тым больш што нам патрэбен быў бортмеханік.

І далей саксонец расказаў, што, як толькі яны пакінулі зямную атмасферу, Ромусь адразу захварэў на касмічную дэпрэсію, ды ў такой цяжкай форме, што за ім увесь час трэба было назіраць, што і рабіла Галя. Касмічная прастора гняла яго, выклікала трывогу і неспакой. У такім стане ён не мог ляцець у глыбокі космас, і яны зрабілі незапланаваную пасадку на Месяцы. Каб хвароба не перайшла ў хранічную форму, Ромусь пагадзіўся паказацца там дактарам у шпіталі хуткай дапамогі, дзе і застаўся. Ганс паабяцаў яму, што яны забяруць яго на зваротным шляху. Калі ўжо рыхталіся стартаваць, да іх і падышоў незнаёмец, які на касмічным слэнгу папрасіўся на карабель, маўляў, я — бортмеханік, вас не падвяду. Астатняга ведаць вам не трэба.

Мы ўжо падыходзілі да палатак і адразу пабачылі даволі высокага чалавека, які спрабаваў падняць кавалак жалеза. Падобна, што гэта была дэталь насавой часткі карабля.

— Гэ-эй, бортмеханік, — крыкнуў саксонец. — Што ты там робіш?

— Я так разумею, мы хутка стартуем адсюль, — адказаў той. — Не пакідаць жа гэтае жалеззе тут! Трэ-

ба перанесці яго ў горы. Ліліпутам цяжка будзе гэта зрабіць.

У яго была жахлівая мова — сумесь самых розных слоў: англійскіх, беларускіх, французскіх, рускіх... Але мы зразумелі бортмеханіка.

— Добра, нясі, — сказаў Мюлер і паглядзеў на нас. У гэты момант з палаткі выйшаў зусім яшчэ малады чалавек прыемнай знешнасці, і саксонец позіркам паказаў у яго бок. — Знаёмцеся, наш астрафізік... — і тут жа запытаўся. — Хто хоча дапамагчы бортмеханіку?

Я быў не супраць падняцца ў горы. Карцела хутчэй агледзець гэтую малюпасенькую маляўнічую планетку, таму і сказаў:

— Я дапамагу!

І мы пацягнулі з бортмеханікам той цяжкі кавалак жалеза пад гару. Пальмы ўжо скончыліся. Мы паднімаліся, дакладней, прадзіраліся праз густы зараснік незямных карлікавых дрэў. І тут раптам зусім блізка пачуўся крык. У голасе былі і жах, і боль.

— Чакай, — сказаў я бортмеханіку. Кінуў жалезіну і пачаў прабірацца праз гушчар у напрамку голасу. Хутка я пабачыў у густой траве ліліпутку. Яна ляжала ніцма і кідалася з боку ў бок, спрабуючы скінуць з плячэй звярка, ну, рыхтык зямную кошку.

— Р'ісь! Р'ісь! — крычала ліліпутка, а звярок упіўся зубамі ў яе шыю, і з раны сцякала кроў. Я спрабаваў ухапіць звярка, але ён зашыпеў і ашчэрыўся.

— Ко-оця, мой ты харошы коця, — раптам вырвалася ў мяне, чаго я і сам не чакаў, і тут жа паспрабаваў пагладзіць звярка. Гэта яму спадабалася. І вось нарэшце я змог узяць яго на рукі і ўжо збіраўся дапамагчы падняцца ліліпутцы, якая цяпер толькі тоненька ўсхліпвала і ўсё яшчэ спуджана паўтарала:

— Р'ісь! Р'ісь!

Але тут з зарасніку выскачыў бортмеханік, а праз некалькі хвілін з'явіліся і ліліпуты. Адзін з іх падышоў да мяне, нешта сказаў, чаго я, вядома ж, не зразумеў. А астатнія трое падхапілі ліліпутку на рукі і зніклі ў зарасніку. За імі кінуўся і той, што нешта сказаў мне.

— Звер мог яе загрызці, — адазваўся бортмеханік.

— Ды які ж гэта звер? Самая сапраўдная кошка!

— Яна дзікая. Адпускай яе.

А кошка ўжо і сама выслізнула з маіх рук, церанулася аб нагу і пабегла ў зараснік.

— Ну што, бортмеханік? — сказаў я. — Дзе тая жалезіна? Пойдзем цягнуць яе далей...

І дзесьці праз гадзіну мы спусціліся з гары назад да палатак, дзе нас ужо чакаў прыгатаваны абед. Але есці селі не адразу. Я расказаў пра здарэнне.

— Цяпер да нас абавязкова прыйдуць ліліпуты, каб неяк цябе аддзячыць, — сказаў саксонец.

— А чаму толькі яго? — не то абурана, не то з крыўдаю запытаўся бортмеханік.

— Хто ўратаваў ліліпутку, таму і падзяка, — адказаў Ганс. — Яны міралюбныя. Я за гэты даволі доўгі час, што тут мы прабылі, пачаў трошкі разумець іх мову.

— А я з некаторымі з іх нават пасябравала, — пасміхнулася Галя.

— Ну і што яны з сябе ўяўляюць? — пацікавіўся доктар Савіч.

— Усю сваю тэрыторыю, а гэта, лічыце, невялічкі горад, яны называюць сваім каралеўствам, — пачаў расказваць Ганс. — У іх ёсць кароль. Вельмі стары і нямоглы, да ўсяго, кепска бачыць. У яго сем дачок і дванаццаць сыноў. Ну, а што да астатніх жыхароў, іх тут тысячы дзве, не болей. Нярэдка складваецца ўражанне, што яны перасяленцы з нейкай іншай планеты, якія калісьці таксама пацярпелі тут катастрофу.

— І як жа яны называюць сваё каралеўства? — запытаўся Антон.

— Не паверыце: Бычыны хвост. Такое дзіўнае супадзенне, — адазваўся бельгіец. — Самі яны, мяркую, не ведаюць, што гэты астэроід знаходзіцца ў сузор'і Цяльца.

— Дарэмна ты так мяркуеш, — запярэчыла Галя. — У іх ёсць зоркавыя карты.

У гэты момант пачуліся музычныя гукі, быццам хтосьці некалькі разоў стукнуў па клавішах фартэпіяна. Мы ўсе пабачылі двух ліліпутаў, якія падыходзілі да нас. І Галя перавяла гаворку на іншае.

— Не ведаю, ці ўмеюць яны спяваць, — яна запытальна паглядзела на саксонца. — А вось іграюць бліскуча і без інструментаў. Пэўна, у іх языкі такія музычныя?

— Учора я прайшоўся па адной з іхніх вуліц, — сказаў саксонец, — і, пакуль ішоў, увесь час чуў гукі скрыпкі. У доміках расчыняліся вокны, з іх выглядвалі ліліпуты і адразу ж пачынала гучаць вельмі прыемная мелодыя.

Мы ўсе ўздрыгнулі, здалося, што нехта зусім блізка ўдарыў у літаўры. Пасля гэтага ліліпуты звярнуліся да нас з прамовай. Ганс адразу ж пачаў перакладаць.

— Ты, Сымон, — звярнуўся ён да мяне, — ўратаваў ад дзікага звера прынцэсу, малодшую дачку караля. І за гэты геройскі ўчынак кароль хоча ўзнагародзіць цябе ордэнам. Заўтра ён гэта зробіць тут, у нас. Прыйдзе сюды са сваёй світай. Але кароль не любіць, калі яму нешта падказваюць. Таму, каб каралю самому адразу было бачна, каму ўручаць ордэн, табе спачатку прышпіляць ордэнскую стужку. І паколькі кароль кепска бачыць, стужка будзе каляровая, вельмі яркая.

Саксонец прамовіў апошнія словы і паглядзеў на ліліпутаў. Яны варухнулі губамі, і зноў пачуліся лі-

таўры. Пасля гэтага ліліпуты развіталіся і пайшлі, а мы ўсе, не без хвалявання, пачалі чакаць наступнага дня, які пачаўся для нас з непрыемнага паведамлення. Прыйшоў адзін з ліліпутаў і сказаў, што ордэнскія стужкі, якія знаходзіліся ў кабінеце іх вайсковага міністра, гэтай ноччу некуды зніклі, але цырымонія ўзнагароджання не адмяняецца. Таму, як толькі з'явіцца кароль са світай, нам усім трэба будзе стаць у строй і, калі кароль падыдзе да нас, я павінен буду зрабіць некалькі крокаў наперад, каб атрымаць ордэн.

Усё так і адбылося. Праз некалькі гадзін мы пабачылі шэсце, якое накіроўвалася да нашых палатак. Мы глядзелі на ліліпутаў і адначасова чулі цэлы аркестр. Усё навокал грымела, пілікала, звінела, пакуль шэсце не наблізілася да нас. Мы ўсе ўжо стаялі роўным строем. Я на некалькі крокаў выйшаў наперад і пабачыў, што тое ж самае зрабіў бортмеханік. Але кароль упэўнена ішоў да мяне, не звяртаючы ніякай увагі на бортмеханіка. І тут я згледзеў, што на маіх грудзях на світэры трапеча матыль, крылы якога нагадваюць ордэнскую стужку, а кароль ужо з нейкімі словамі (і няцяжка было здагадацца, што гэта былі словы падзякі) працягнуў мне чаканку ў форме медаля. Я зірнуў на яе і ў мяне нават не знайшлося слоў, каб нешта сказаць у адказ, настолькі я быў уражаны. Адно глядзеў і глядзеў на гэты свой ордэн. А кароль і яго світа тым часам пакідалі ўжо нас. Зноў зазвінелі, запілікалі, загрымелі гукі аркестра, а я ўсё ўзіраўся ў выяву на чаканцы.

— Пакажы, што ты там разглядваеш, — папрасіў доктар Савіч.

— Не паверыш, — сказаў я. — На гэтай чаканцы наш Кастусь Каліноўскі!

І ўсе пачалі разглядваць чаканку, перадаючы з рук у рукі. Толькі бортмеханік пайшоў у адну з палатак і ўжо ледзь не да самага старту амаль не выходзіў з яе.

— Зазлаваўся, што не яму далі ордэн, — зазначыла Галя. А да мяне падышоў Ганс Мюлер.

— У іх не толькі такія чаканкі ёсць, — сказаў ён. — Шмат іншых. Мне паказваў іх вайсковы міністр адразу пасля таго, як мы пацярпелі тут катастрофу. Запомнілася выява жанчыны, пад якой прачытаў надпіс: Еўфрасіння Полацкая. Хто яна?

— Вядомая асветніца, святая. З нашай глыбокай гісторыі, — адказаў я. — А Кастусь Каліноўскі — наш нацыянальны герой, які таксама застаўся ў нашай гісторыі. Але як гэтыя чаканкі тут апынуліся? Адкуль узяліся?!

На мае пытанні адказаў Антон:

— Пра гэта можна толькі здагадвацца. Думаю, яны з тых лятальных апаратаў, якія пасылаліся ў космас на самым пачатку, вельмі даўно. У іх часта ўкладваліся дыскі з запісамі пасланняў да чужых цывілізацый у іншыя светы і, канечне ж, чаканкі з выявамі нашых самых славутых людзей. Напэўна, адзін з тых апаратаў трапіў сюды, на гэты астэроід. І цяпер атрымалася ўсё як нейкае дзіва.

— Матыль таксама з серыі цудаў, — зазначыў доктар Савіч. — Не выпадкова ж ён сеў табе на грудзі якраз у той момант, калі з'явіўся кароль. Думаю, ён умее мысліць, ва ўсякім выпадку адрозніваць, хто герой, а хто толькі хоча выглядаць героем.

Той матыль так і застаўся на світары ў мяне на грудзях. І я ўзяў яго з сабою на карабель, бо тым жа днём мы вырашылі пакінуць астэроід. І, калі ўжо ўзляталі, знізу, з паверхні да нас даносіліся гукі чароўнай музыкі — гэта ліліпуты развітваліся з намі, а ў адсеку, дзе

размясцілася Галя, пачуўся крык. Я кінуўся да адсека, дзе ўжо быў доктар Савіч, і пабачыў у кутку раз'юшанага звярка, якога не мог не пазнаць. Адразу ж згадалася ліліпутка і той яе поўны жаху крык: «Р'ісь! Р'ісь!»

— Гэта, мае дарагія, рысь, — сказаў я, і ў мяне апошняе слова вымавілася больш цвёрда, чым у ліліпуткі. Але мне трэба было сказаць рысяня, там што за час нашага палёту назад на Зямлю, звярок вырас і стаў сапраўднай рыссю. Але перад тым, як мы прызямліліся на нашым касмадроме за Раўбічамі, у нас яшчэ была пасадка на Месяцы, дзе трэба было забраць паляка Ромуся.

І як толькі мы селі там на паверхню, Ганс адразу выклікаў месяцаход, і ўсе выйшлі з карабля. Вырашылі, што ў шпіталь хуткай дапамогі паедуць Ганс і бельгіец. І калі яны ад'ехалі, Антон пачаў разважаць, што мінаюць дзесяцігоддзі, а Месяц усё яшчэ як след не абсталяваны, каб стаць сапраўднай калоніяй Зямлі.

— Усе захапіліся глыбокім космасам, — уздыхнуў ён. І тут жа адазвалася Галя:

— Цішэй, Антон, — у яе голасе чуўся спалох. — Вунь, зірніце, ля таго валуна... Там ляжыць бортмеханік!

Мы сапраўды пабачылі ля валуна бортмеханіка, які на працягу ўсяго палёту амаль ні з кім з нас не кантактаваў.

— Можа, яму кепска? — сказаў я і асекся. На нашых вачах бортмеханік пачаў раздвойвацца. Адзін заставаўся нерухома ляжаць ля валуна, а другі, захоўваючы тую самую форму, павісеў імгненне над ім распасцёрты і стаў на ногі. І ў той жа момант ён пачаў выцягвацца, расці. І калі дасягнуў метраў чатырох, увесь страсянуўся і пайшоў, няўклюдны і цыбаты, у маўклівую прастору. Ён ніводнага разу не азірнуўся. Відаць, нічога акрамя абыякавасці ў адносінах да нас у яго не было.

— Вось цяпер бачу, што ён сапраўды незнаёмец і, здаецца, не зямнога паходжання, — сказаў доктар Савіч.

А я глядзеў, як аддаляецца гэтая чатырохметровая постаць, і мяне агортваў сум. Яму так хацелася, каб яго ўзнагародзілі! Я шкадаваў, што мы не сталі сябрамі, калі разам цягнулі тую цяжкую жалезіну пад гару на маленечкім астэроідзе ў сузор'і Цяльца.

Гэтыя сум і шкадаванне не пакідалі мяне і на Зямлі. Я радаваўся, што мы прывезлі з далёкага чужога свету матыля, якога назвалі стужкай ордэнскай. Цешыла мяне думка, што недзе ў нашых глухіх лясах блукае дзікая рысь, якую, як паказаў час, так і не ўдалося прыручыць. І, вядома ж, распіраў гонар, як толькі браў у рукі сваю каштоўную рэліквію, тую чаканку з выявай Кастуся Каліноўскага. А вось, калі згадваў самотную чатырохметровую постаць, што аддалялася ад нас, усё ішла і ішла — у бязлюдную маўклівасць Месяца, я пачынаў і сябе адчуваць самотным...

## Танец пяшчоты на Геме-А

Гэта здарылася, калі мы вярталіся на Зямлю з Унука-9 — самай вялікай планеты ў сузор'і Змяі, якое зямляне могуць назіраць на летнім небе. Наш міжзоркавы карабель быў даволі старым і ў нейкі момант пачала адмаўляць сістэма сувязі з Зямлёю. Падарожжа было не з лёгкіх. Зямля ўвесь час выклікала на сувязь. А нашы сігналы не даляталі да яе.

— Трэба зрабіць вымушаную пасадку і капітальна ператрэсці нашу талерачку, — прапанаваў камандзір. Мы пагадзіліся і для пасадкі абралі Гему-А — планету ў невялікім сузор'і Паўночнай Кароны. Пра яе між астранаўтаў хадзілі самыя розныя чуткі. Многія да-

водзілі, што яна амаль як Зямля, што там можна сустрэць братоў па розуме. Думаю, што ў думках кожны з членаў нашага экіпажа спадзяваўся на гэта.

Гема-А зачароўвала. Чым бліжэй мы падляталі да яе, тым большым рабіўся наш сум па Зямлі.

Уражвала знешняе падабенства з нашай планетай. Але хутка мы зразумелі, што ў Гемы-А не тыя памеры. Яна ў некалькі разоў была меншай за Зямлю, адно ззяла блакітным колерам. Мы селі на яе, іншымі словамі, прыгеміліся, калі Свяціла, вакол якога яна абарочвалася, адплывала за далягляд.

Амаль зямныя прыцемкі ахуталі Гему-А, але мы яшчэ добра бачылі густую расліннасць на яе паверхні і падобныя да зямных даліны і ўзгоркі. Былі там азёры і рэкі, а значыцца, і паветра. Не сталі чакаць ночы, вырашылі зрабіць агледзіны паверхні, узяць першыя пробы грунту. Камандзір паслаў астранаўтаў-разведчыкаў сярод якіх быў і я. Ад карабля разышліся па розных напрамках. Я яшчэ не паспеў адысціся, як з грудзей вырваўся міжвольны крык здзіўлення. Ля невысокага дрэва, якое нагадвала маладзенькі зямны клён, стаяў чалавек — самы сапраўдны зямлянін. Ён быў юны, вельмі прывабнай знешнасці і ў святочным цёмна-сінім гарнітуры, да якога пасаваў ярка-жоўты гальштук. «Прывід», — мільганула думка, бо, калі прыгемліваліся, на Геме-А не заўважылі ніякіх прыкмет жыцця. А чалавек, ці той, хто прыняў воблік чалавека, тым часам зрабіў некалькі крокаў насустрач мне, працягнуў руку, як гэта робіцца ў нас на Зямлі падчас знаёмства, і што ні ёсць самым сапраўдным чалавечым голасам прамовіў: «Фія».

— Сымон, — сказаў я і таксама працягнуў руку... Што заставалася рабіць? На ветлівасць трэба адказваць ветлівасцю. Ягоны поціск быў ледзь адчуваль-

ным, і зблізку я заўважыў, што малады чалавек надзвычай устрывожаны. Ён увесь час азіраўся, але не на дрэвы, што раслі за намі, а глядзеў у неба, дзе ўжо загарэліся зоркі. Мы сустрэліся позіркамі, і тут нечакана Фія (я зразумеў, што гэта было ягонае імя) сарваўся з месца і пабег... Толькі ж адбегся ён недалёка, прысеў на кукішкі, схапіўся за галаву, як гэта можа рабіць чалавек у вялікім адчаі, і амаль застагнаў: «Лка-а, Лка-а!»

Мне здалося, што ён спрабуе нешта прылашчыць рукамі. Але вось сунуў руку ў кішэню і тое, што ён выцягнуў з яе, пачало на вачах расці, павялічвацца ў памерах, пакуль не стала даволі доўгай трубачкай. Фія прыклаў яе да вуснаў. Было адчуванне, што праз яе ён штосьці п’е. А потым... Потым усё ў маёй галаве змяшалася, мяне агарнуў жах. Тое, што я пабачыў, не паддавалася ніякаму тлумачэнню. Фію ахапіў агонь, самы сапраўдны. Спачатку агністыя лініі пабеглі па ўсім яго целе, асвятліўшы ўсё наўкол, а потым ён успыхнуў... І ўсё! Усё! Быў чалавек і няма чалавека. Я не мог устаяць на месцы, пабег туды, дзе толькі што выкрыкваў сваё тужлівае «Лка-а, Лка-а!» Фія.

Грудок попелу і трубачку, звычайную шкляную трубачку пабачыў я там, ля якой расла купка кветак: блакітныя, цёмна-сінія... На пялёстках зіхацела буйная раса і о-о, дзіва! З грунту пачалі вырастаць новыя кветкі і хіліцца да тых, што тут ужо раслі. Перапляталіся сцябліны, пялёсткі дакраналіся да пялёсткаў і зліваліся ў адно, як падчас пацалунку. Калі б у мяне запыталіся ў той момант, што адбываецца, я, напэўна, адказаў бы:

— Танец пяшчоты! Любові! Кахання!

Я стаяў утрапёны, але вось у скафандры пачуўся голас камандзіра: «Вяртайцеся! Як мага хутчэй

вяртайцеся на "Лілею"». Гэтак прыгожа паміж сабою мы звалі сваю талерачку. А я ўжо і сам бачыў, што трэба вяртацца. Неба раптоўна запунсавелася, і з гэтай чырвані пачала вымалёўвацца аграмадзіна чужога карабля.

Калі мы, астранаўты-разведчыкі, ужо былі на сваёй «Лілеі», мы бачылі, як аграмадзіна, якая нагадвала трохпавярховую будыніну, прыгемлівалася. Потым з яе пачалі выбягаць няўклюдныя істоты ў два, у тры чалавечыя росты.

— Робаты! — зазначыў нехта з нас і мы пачалі лічыць іх: тры, пяць, дзесяць, трыццаць два... Гэта быў самы сапраўдны ваяўнічы атрад, узброены невядомаю нам зброяй. Але на наш карабель яны не звярталі ніякай увагі. Мы іх не цікавілі. Яны адразу разбегліся па паверхні планеты, штосьці шукаючы. І калі праз нейкі час мы іх пабачылі зноў, дык яны ўсе сабраліся ля таго месца, дзе ператварыўся ў грудок попелу Фія. Магчыма, яны шукалі яго і, не знайшоўшы, пачалі таптаць, вытоптваць тыя пяшчотныя кветкі. Калі ім здалося, што яны ўсё наўкол вытапталі, рушылі да свайго карабля-аграмадзіны і неўзабаве ён ужо свяціўся ў цёмным небе над Гемай-А цьмяна-ружоваю кропачкай.

А калі з-за далягляду выкацілася ярка-жоўтае Свяціла і яго першыя промні асвяцілі планету, мы яшчэ раз спусціліся на яе паверхню. На тым месцы, дзе раз'юшана тапталіся робаты, нідзе аніводнай кветкі ўжо не было. І ўсё ж мы знайшлі некалькі непашкоджаных сцяблінак і выкапалі іх з карэннем, каб узяць з сабою на Зямлю, куды мы вярнуліся праз даволі доўгі час.

У кожнага з нас на Зямлі быў свой батанічны сад, і перад самым прызямленнем «Лілеі» на касмадро-

ме за Раўбічамі галоўны наш батанік вырашыў, што тыя некалькі сцяблінак, якія прыжыліся на нашым караблі, павінны належаць мне. Ён, напэўна, згадаў маё кароткае знаёмства з Фіям. І я не адмовіўся. Мне хацелася як мага хутчэй упрыгожыць імі адну са сваіх клумбаў. Гэтак яно і здарылася.

Кветкі хутка разрасліся, зацвілі. Відаць, ім спадабалася зямная глеба. І аднойчы, калі я ўжо не лётаў у Космас, адзін з маіх унукаў запытаўся:

— Дзед Сымон, а як жа іх завуць? Ты забыўся ім даць імя! Ён быў маленькі і не ведаў, што імя гэтым кветкам я даў ужо даўно. Я згадваў і згадваў той танец сцяблін і пялёсткаў, танец незямной пяшчоты. І міжволі падчас гэтых маіх успамінаў злівалася ў адно: імя незнаёмца на далёкай Геме-А, якога можна было прыняць за зямляніна, з тым слоўкам, якое ён тужліва выгукваў:

— Лка-а, Лка-а!

Магчыма, гэта было імя ягонай каханай, якая згарэла раней за яго ад пачуццяў, ад свайго незямнога кахання, і прарасла кветкаю, якую я назваў на Зямлі ФіяЛкай.

Фіялка дагэтуль расце і цвіце ў маім садзе, а магчыма, і ў вашым. Я не шкадаваў насення, раздаваў яго знаёмым і сябрам. А вось гэтую гісторыю, адну з самых загадкавых для мяне самога, расказваю ўпершыню. Калі хто-небудзь засумняваўся ў яе праўдзівасці, што ж, ляціце на Гему-А ў сузор'е Паўночнай Кароны. І, можа, там вам пашчасціць пазнаёміцца з незнаёмцам, які на вашых вачах згарыць ад кахання. Мяркую, што ад яго. Ад іншага не згараюць. Хаця, не выключана, гэта толькі мая ўласная думка.

## Дазорац-Уладар з планеты Пясчаных Ураганаў

*Цалкам верагодна, што чорныя дзіркі – праваднікі ў паралельныя сусветы. І, магчыма, дзякуючы ім, удасца даследаваць і пранікнуць у зямны паралельны свет.*

З нататніка астранаўта.

### 1

Сёння, перад тым як адправіцца на касмадром за Раўбічы, я доўга стаяў каля зоркавай карты, што займала ледзь не ўсю сцяну ў адным з пакояў маёй мінскай кватэры. Карта была электронная, і зоркавыя сістэмы высвечваліся на ёй ва ўсім сваім непаўторным харастве. Я ўжо дыхаў гэтай мігатліва-зіхоткай велічнай прасторай, дзе мяне асабліва цікавіла зорка Вега, куды пралягаў наш чарговы маршрут. І хто ведае, магчыма, па вяртанні мне давядзецца ў сістэме гэтай зоркі пазначыць планеты, якія мы спадзяваліся там адкрыць. Гэтая сістэма была яшчэ мала даследавана зямлянамі. Але якраз туды з Зямлі ўжо адправілася некалькі экспедыцый.

Я глядзеў на Вегу, і згадвалася, што калісьці ў глыбокай старажытнасці арабы называлі яе «вакі», што азначала: зорка, якая падае. Але Вега, зразумела, нікуды не падала. І калі б цяпер была не вясна, а восень, я змог бы пабачыць яе на начным небе.

За маімі вокнамі сапраўды ўжо была ноч, і мы меркавалі стартаваць а шостай гадзіне раніцы. «Хм-м, хай сабе марудна, але свет мяняецца, — думалася мне. — Нашы далёкія продкі лічылі, што да Вегі можна даляцець за дваццаць шэсць светлавых гадоў. Мы ж цяпер даляцім туды за тры зямныя тыдні. Застаецца

толькі паапладзіраваць чалавечаму розуму. Бра-ава! Бра-ава, зямляне!»

Невядома, як бы доўга я яшчэ прастаяў ля карты, калі б не патэлефанаваў доктар Савіч.

— Ты яшчэ дома? — здзівіўся ён. — А сасонкі?! Табе трэба прасачыць за пагрузкай, каб не пашкодзілася карэнне, калі лабаранты будуць апускаць іх у герметычную камеру.

І я заспяшаўся... Як жа я мог забыцца пра гэтыя дваццаць маладзенькіх сасонак, якія нас папрасілі ў Міжнароднай асацыяцыі зоркавых палётаў даставіць на адну з планет. Тут трэба сказаць, што за гэтай планетай ужо некалькі дзесяцігоддзяў вяліся назіранні з Зямлі. Яе адкрылі вельмі даўно. І неаднойчы туды пасылаліся экспедыцыі. Але нічым асаблівым планета не прыцягвала ўвагі зямлян. Там было паветра і некалькі магутных рэчак, але, як нам сказалі ў Асацыяцыі, у планеты была паверхня бы выпаленая. Ніякага расліннага свету! Хоць жыццё нейкіх простых жывых арганізмаў на ёй было і не выключана.

— А ты не задумаўся, — сказаў мне тады доктар Савіч, — чаму так доўга назіраюць за гэтай планетай?

— Магчыма, мяркуюць заснаваць там нейкі даследны Цэнтр, — адказаў я. — Такія Цэнтры ўжо існуюць на асобных планетах.

— Не думаю, — і доктар Савіч прыцішыў голас. Ён заўжды так рабіў, калі ў нечым быў няўпэўнены. — Я чуў ад астрафізікаў, — працягваў доктар далей, — што гэтая планета знаходзіцца паблізу валакністай туманнасці.

Пасля гэтых слоў доктар Савіч пачаў надта доўгі расповед пра існаванне мноства тысяч туманнасцей, якія з'яўляюцца вынікам даўніх катастроф у касмічнай прасторы. Потым ён расказваў пра зоркі трайной сістэмы, што складаюцца са звычайнай зоркі,

з пульсара і з чорнай дзіркі. А я слухаў яго і думаў пра выключна зямное: «Навошта мы павязём свае беларускія сасонкі на тую планету?»

Якраз пра гэта я і запытаўся ў доктара Савіча, калі пабачыў яго на касмадроме за Раўбічамі ля нашага карабля.

— Навошта вязём? — перапытаў ён. — А ты, дарэчы, спазніўся. Сасонкі паспелі пагрузіць. Ну, а што да адказу на тваё пытанне, ён вельмі просты. Ты ж вырас сярод сасновых бароў. Ведаеш, якое там чыстае паветра! А на той планеце, дзе мы зробім пасадку на шляху да Вегі, апошнім часам бачылі дзіўныя віхурыстыя плямы, якія з'яўляюцца ў самых розных месцах планеты і вельмі хутка развейваюцца. Мяркуюць, што гэта пясчаныя ўраганы. Уяўляеш, колькі там пылу! Нашы сасонкі стануць прыроднымі ачышчальнікамі паветра.

Пасля гэтых доктаравых слоў у нас пачалася пасадка. Я прывітаўся з Антонам — камандзірам нашага карабля, які ў гэты момант размаўляў з нашым астрафізікам.

— Пачакай, — сказаў мне Антон. — Ты ж ведаеш, у нас будзе вельмі кароткая пасадка на планеце, дзе мы пасадзім сасонкі, якія толькі што загрузілі ў камеры. Дык май на ўвазе, ты спусцішся на паверхню планеты са сваімі двума лабарантамі. Усе астатнія будуць займацца доследамі на караблі.

— Ага-а, — пасміхнуўся астрафізік. — Будзем даследаваць саміх сябе. Доктар Савіч зоймецца вывучэннем нашых крывяных ціскаў. Там паветра не зусім ідэнтычнае з нашым.

— Сасонкі высадзіце па ўсіх законах лесапасадкі, — дадаў Антон.

— Не хвалюйся, усё зробім як трэба, — і я падняўся на карабель.

Да старту заставаліся лічаныя хвіліны. Я не любіў гэтага моманту развітання з Зямлёю, таму што заўжды з'яўлялася міжвольнае пытанне: «А ці вернемся назад на Зямлю?». Таму, як толькі зайшоў у свой адсек, адразу падключыўся да сістэм, якія дапамагалі пагрузіцца ў глыбокі і працяглы сон. Гэта дазваляла захоўваць у арганізме ўсе віды энергіі. І як толькі я падключыўся, на табло над маім адсекам адразу з'явіўся надпіс: «Сон — 240 зямных гадзін». Менавіта столькі часу павінна было прайсці, каб мы дасягнулі атмасферы той планеты, на якую павінны былі апусціцца. Праўда, я яшчэ паспеў завесці будзільнік, так мы называлі кантралёр сну, які павінен быў пабудзіць мяне ў вызначаны час. Пасля чаго я ўвайшоў у стан глыбокай адключкі.

## 2

Помню, мне тады сніліся лясы... Бясконцыя беларускія лясы з густымі зараснікамі папараці, багуну ў балоцістых мясцінах, якія змяняліся палянкамі, дзе рос чарнічнік. Такой колькасці ягад мне яшчэ нідзе ніколі не даводзілася бачыць. Выглядвалі з-пад апалага сапрэлага лісця вясёлыя жоўценькія лісічкі, прыцягвалі зрок самавітыя чырвонагаловыя падасінавікі. А я ішоў і ішоў ляснымі сцяжынамі ды дарогамі ўсе 240 зямных гадзін. А потым знянацку, раптоўна ўсё наўкол пацямнела. Пачуўся шум, свіст ветру, ад чаго, уласна кажучы, я і прачнуўся, не пачуўшы сігналу будзільніка. І адразу зразумеў, што шум ідзе ад вентылятараў. У адсек пачало паступаць паветра з чужой атмасферы, гэта каб паступова прывыкаць да яго. І хаця яно было ўжо разрэджаным нашымі венты-

ляцыйнымі сістэмамі, дыхалася цяжка. Тут і пачуўся стук у дзверы.

— Можаце заходзіць, — адгукнуўся я.

Дзверы адчыніліся, і ў адсек увайшоў доктар Савіч. Увесь яго выгляд паказваў, што ён ужо даўно сцёр з сябе рэшты сну. Голас у яго таксама быў бадзёры.

— Экран назірання ты, вядома ж, не ўключыў, — сказаў ён. — А мы паўгадзіны ўжо вісім, хм-м, над шарыкам, куды неўзабаве сядзем. Гэтую планету можна назваць Планетай Сапфіраў.

— Чаму ты так вырашыў?

— На паверхні ёсць ланцужкі гор, а ў асноўным — гэта камяніста-пясчаная раўніна, на якой мігцяць блакітныя кропачкі.

Яны паўсюль і іх вельмі шмат. Мяркую, сапфіры! Нічога іншага там не можа быць. Сустракаюцца кропачкі і зялёныя. Гэта, напэўна, ніфрыты.

— Што? Проста так і ляжаць на паверхні гэтыя каштоўныя камяні?

— Ага-а, проста так і ляжаць, — пасміхнуўся доктар Савіч. — Як у глыбокай старажытнасці на Зямлі ў Афрыцы ляжалі алмазы.

Карабель страсянуўся. Здавалася, што ўсё ў ім завібрыравала.

— Вось мы і зніжаемся, — сказаў я. — Прайшлі атмасферу. Хутка апусцімся на паверхню, — і да мяне падступілася ўжо адчуванне самоты. Я заўжды на далёкіх планетах адчуваў сябе вельмі самотным. У нейкай меры ратаваў ад гэтага пачуцця доктар Савіч, але цяпер я мусіў сказаць: — Шкада, што давядзецца сысці на паверхню без цябе, доктар. Гэтым разам са мною будуць два лабаранты.

— Тут ужо нічога не зробіш, у мяне загад заставацца на караблі. Але ты, спадзяюся, назбіраеш для мяне сапфіраў?

— Калі мы іх там знойдзем, — адказаў я. — Штосьці я не чуў у Асацыяцыі, каб з гэтай планеты на Зямлю прывозілі каштоўныя каменьчыкі...

І я не памыліўся ў сваіх сумненнях, таму што праз нейкі час, як толькі ступіў на паверхню планеты, куды ўжо праз грузавыя люкі былі спушчаны сасонкі, акрамя пяску і шэрых камянёў самых розных памераў нічога іншага наўкол сябе не пабачыў. Лабаранты ўжо адносілі сасонкі як мага далей ад карабля, і, наколькі мне дазваляў скафандр, я бачыў напружанне на іх тварах. Яны таксама былі ў скафандрах. Гэта было іх першае касмічнае падарожжа, і чужая планета трывожыла лабарантаў.

— Набірайцеся ўражанняў, хлопцы, — перадаў я ім праз радыёсувязь. — Распавольвайцеся. Тут ні звера, ні гуманоіда не пабачыце. Планета мёртвая. Можа, толькі праз гадоў восемдзесят зашумяць тут нашы сасонкі. Кідайце іх вунь ля таго вялізнага валуна. Ад яго і пачнём капаць ямкі пад пасадку.

І тут я заўважыў, як ля невялікага каменя недалёка ад мяне штосьці заварушылася, нейкая блакітная рысачка мільганула.

Рушыў туды, нахіліўся над каменем і пабачыў стракозу з блакітным брушкам. Самую звычайную стракозу! Майму здзіўленню не было межаў. А яна тут адкуль?! І я міжволі азірнуўся...

Лабаранты стаялі недалёка ад мяне, і над імі кружыў цэлы рой гэткіх жа самых стракоз. Праўда, у некаторых з іх брушкі былі зялёныя. Стракозы кідаліся на скафандры, і лабаранты адмахваліся ад іх рукамі. Я зноў павярнуўся да каменя і сустрэўся позіркам са страказой, якая бы прыліпла да яго і не рухалася. Мне здалося, што яе лупатыя вочкі працінаюць мяне. Але вось страказа варухнулася. Яе лёгкія пра-

зрыстыя крылцы затрапяталі, і я закрычаў ад нечаканасці. Яна адарвалася ад каменя. Але гэта была ўжо не страказа, а агромністая цёмна-сіняя птушка з яркачырвонаю дзюбаю і кіпцюрамі на тоўстых лапах, якімі птушка намервалася ўваткнуцца ў мой скафандр. Я чуў, як нада мною зашумелі яе крылы, даўжыню якіх можна было мераць метрам. О не, гэта была не птушка! Гэта была самая сапраўдная жудасная пачвара. Толькі так яе і можна было назваць. Яна гатова была схапіць мяне, як нешта вельмі маленькае, і панесці ў сваіх кіпцюрах над бяскрайняй раўнінай, што бачылася наўкол, у невядомым напрамку, адкуль ужо не вяртаюцца.

Я міжволі ўцягнуў голаў у плечы, і здавалася, мой скафандр узарвецца ад жаху, які перапаўняў мяне. Птушка імкліва ўзлятала ў вышыню і яшчэ з большай імклівасцю кідалася ўніз, і я не мог утрымацца, каб не прысесці: «Ну, вось зараз... Зараз яна ўхопіць мяне!» Але птушка толькі кружыла нада мною, я адчуваў — у лютым бяссіллі. Я быў для яе недаступны, быццам нейкая сіла ахоўвала мяне, нейкае чароўнае кола. Яна яшчэ раз паднялася ўверх і паляцела туды, дзе стаялі мае лабаранты. І вось ужо я пабачыў, як адзін з іх кінуўся бегчы ў бок карабля. Ён бег, азіраўся і дзіка крычаў. Я таксама пачаў азірацца, таму што, як ні дзіўна, нідзе не бачыў гэтай пачвары. Яна бы растала ў паветры. Толькі перапуджаныя стракозы кружылі наўкол, і ў маім скафандры пачуўся голас камандзіра:

— Што адбылося?! Што вас там гэтак напалохала?! Вяртайцеся на карабель!

А лабарант тым часам ужо дабег да яго і кінуўся да спушчанага трапу. Другі ж няспешна ішоў да мяне. Я зірнуў уверх і ўвесь скалануўся. Я зноў пабачыў над

сабою гэтую пачвару. Ва ўсе бакі разляталіся стракозы, а яна ляцела проста на мяне, і яе раскрытая дзюба нагадвала пашчу. І тады я пабег, прыкідваючы ў думках, што да карабля яшчэ далёка, але галоўнае, каб не спатыкнуцца, не ўпасці.

Я чуў, як ззаду за маёю спінаю шумяць магутныя крылы і тупацяць ногі. Гэта, напэўна, і другі лабарант кінуўся наўцёкі, але я не азіраўся. У такой сітуацыі трэба толькі бегчы. Сябры-астранаўты штосьці крычалі з карабля, махалі рукамі. У маім скафандры чулася зусім незразумелае:

— Спыніся! Не бяжы!

А я бачыў толькі выратавальны трап, які ўсё набліжаўся і набліжаўся, пакуль, нарэшце, я не ўзбег на яго сходы.

«Хутчэй! Хутчэй да расчыненых дзвярэй!» — тахкала маё сэрца, адкуль ужо цягнуліся рукі, каб уцягнуць мяне на карабель, і тут я азірнуўся... Жудасная птушка вісела проста нада мною. Яе кіпцюры дакраналіся да майго скафандра, і я пахіснуўся, не знайшоўшы нічога лепшага, як ухапіцца за агромністую лапу пачвары. І о-о, дзіва! Я не адчуў гэтай лапы, але штосьці схапіў і яно заварушылася ў маіх сціснутых пальцах.

Не ведаю, як і ўтрымаўся я на трапе, як не зваліўся ўніз! Пэўна, мяне падтрымаў лабарант, які ўжо таксама падняўся на трап. І праз некалькі хвілін мы не ўвайшлі, а хутчэй, уваліліся ў дзверы карабля, дзе мяне адразу ж падхапіў Антон. Інакш я, напэўна, упаў бы. Тут я і расціснуў кулак і на далоні пабачыў страказу з блакітным брушкам. Крылы ў яе былі прымятыя. І ўсё ж яна затрапятала імі, адарвалася ад маёй далоні і паляцела ўглыб карабля...

— Мы ўжо ўсё ведаем, — сказаў Антон. — Доктар Савіч выводзіць твайго лабаранта са стрэсу, які пер-

шым прыбег сюды. Хм-м, ведаеш, з’ява проста-такі выключная. Незвычайная з’ява.

— Што ты маеш на ўвазе? Якая з’ява?! Вы ўсё бачылі. Мы перажылі кашмар.

— Не кашмар, а гіпноз, — Антон на імгненне задумаўся, быццам у тым, што сказаў сумняваўся, і дадаў упэўнена. — Фа-акт! Самы сапраўдны гіпноз, які выклікае галюцынацыі. Твой лабарант паспеў нам пра ўсё расказаць, і мы прыйшлі да такой высновы.

— Доктар Савіч даў такое тлумачэнне гэтай з’яве, — удакладніў наш бортмеханік. — Лабарант расказаў, што на яго накінулася драпежная птушка. Трэба думаць, што і на цябе таксама, а мы ж з карабля ніякай птушкі не бачылі.

— Ён праўду кажа, — пацвердзіў Антон. — Над вамі проста кружылі стракозы, дакладней, над тваімі лабарантамі. А над табою кружыла адна, самая вялікая з іх, з блакітным брушкам. Гэта мы добра бачылі на экране назірання.

— Вось табе і Планета Сапфіраў, — толькі і змог вымавіць я. Але ў мяне з’явілася шмат самых розных думак. Разабрацца ў іх дапамог мне доктар Савіч, калі ўжо на паверхню планеты апусцілася нязвыклае для нас, зямлян, бэзавае сутонне. І ў нізкім цяжкім небе загарэліся надзвычай буйныя бліскучыя зоркі. Адна з іх ззяла ліловым святлом і незвычайна заварожвала.

Мы стаялі ля ілюмінатара, і я даводзіў доктару:

— У нашым уяўленні гіпнозам валодаюць асобныя людзі там, у нас на Зямлі. Ну-у яшчэ асобныя паўзуны, той жа самы ўдаў. А тут страказа, маленечкая істота! І чаму толькі ў адной з іх такая ўласцівасць?!

— Своеасаблівы дар тутэйшай скупой прыроды, — пасміхнуўся доктар. — А, магчыма... Магчыма яна выпрацавала гэтую асаблівасць у сабе. Можа, яна страказа-

дазорац, вартаўнік, ахоўнік гэтай планеты, яе ўладар. І як ёй, такой маленькай, бараніць усю планету?

— Ад каго?

— Ды хаця б і ад нас!

— Атрымліваецца, што такім чынам яна наганяла жах, — з доктарам нельга было не пагадзіцца, і я працягнуў. — Ты маеш рацыю, мы для яе — чужынцы, прышэльцы з іншага свету. І хаця нічога кепскага ёй не зрабілі, яна як магла бараніла свой спакой.

— О-о, не толькі спакой! Яна ўсё тут бараніла. Гэта ж яе тэрыторыя. Планета — яе дом, — сказаў доктар. — Мне цікава паглядзець на астатніх стракоз. Заўтра спушчуся разам з табою на паверхню. Трэба ж будзе пасадзіць тыя сасонкі! Тады як след і разгледжу гэтыя мілыя стварэнні.

Доктар Савіч яшчэ не ведаў, як, зразумела, і я сам, што нам не давядзецца саджаць тыя сасонкі. І што разглядваць ён будзе не раі стракоз на паверхні планеты, а тую адну з блакітным брушкам, што выпырхнула з маёй далоні, ды так і засталася на нашым караблі.

## 3

Мы ўжо збіраліся адысці ад ілюмінатара і разысціся па сваіх адсеках, як раптам доктар Савіч сказаў:

— Сымон, табе не здаецца, што на нас нешта насоўваецца? Далягляд пацямнеў. Такое ўражанне, што там усчалася віхура.

А я ўжо і сам бачыў, што на даляглядзе штосьці віхурыцца, звіваецца ў клубкі, у агромністыя плямы, у слупы і імкліва набліжаецца да нас. Немагчыма было адвесці позірку ад ілюмінатара, такое гэта было відовішча. І я ўспомніў пра тое, што мне сказаў

доктар перад адлётам на нашым касмадроме за Раўбічамі. І цяпер нагадаў яму:

— Гэта, напэўна, і ёсць той самы пясчаны ўраган, пра што ты сам казаў мне, чаму мы і прывезлі сюды сасонкі. Але ж дзіва-дзіўнае, наўкол ніякага ветру! Уяўляеш, як бы ўжо ўсё гуло і шумела ў нас на Зямлі! А тут хоць бы адна пясчынка вакол карабля зварухнулася.

— Пойдзем да Антона. Мы не ведаем сапраўднай сілы гэтага ўрагану, — сказаў доктар Савіч. Але пайсці нам не давялося. Антон сам падышоў да нас. З ім быў астрафізік. На караблі ўмомант усё прыйшло ў рух. Адзін за адным успыхвалі пражэктары далёкага бачання. Мы міжволі затаілі дыханне. На нас сапраўды рухаўся пясчаны ўраган — суцэльная сцяна з пяску, пылу, друзу. Але, як толькі святло пражэктараў дасягнула гэтай сцяны, ураган пачаў аціхаць. Клубы пяску сталі асядаць. І тады ў святле пражэктараў мы пабачылі натоўп, і наш астрафізік не ўтрымаўся:

— Людзі! Там людзі! — ускрыкнуў ён.

— Не, гэта не людзі, — тут жа запярэчыў яму Антон.

— Хаця вельмі падобныя да людзей, — сказаў доктар Савіч.

І гэта было праўдай. Напаўголыя істоты, якія застылі ў святле пражэктараў, ад людзей адрозніваліся толькі конусападобнымі галовамі на тонкіх шыях. І на іх тварах замест носа былі самыя сапраўдныя хобаты. Не такія доўгія, як у сланоў, але і не кароткія. Хобаты варушыліся, быццам прынюхваліся да нечага. А потым пачалі раздзімацца і наўкол імкліва завіхурыўся пясок. Істоты зноў рушылі наперад, да нашага карабля.

— Божа, дык гэта яны сваімі хобатамі ўзнімаюць клубы пяску! — выдыхнуў я. — Якая ж магутная сіла тоіцца ў іх, якая энергія!

І тут мы пачулі ўдары. Штосьці загрукацела па корпусе карабля.

— Думаю, гэта ляціць каменне, — і ў голасе Антона чулася няўпэўненасць.

Але ён не памыляўся. Пясок хутка асеў, і мы пабачылі, як істоты ўцягваюць сваімі хобатамі камяні, якіх на паверхні было мноства, а потым бы выплёўваюць іх. І хаця яны стоўпіліся на даволі вялікай адлегласці ад нас, камяні даляталі да карабля.

— Глядзіце, глядзіце, — закрычаў доктар Савіч. — У кожнага з іх кляймо на плячы. Яны клеймаваныя!

— Племя гуманоідаў, — сказаў Антон. — Вось яны сапраўдныя жыхары гэтай планеты. А мы думалі, што яе насяляюць толькі стракозы.

— А ведаеце, чаму гуманоіды ўзнімаюць вакол сябе віхуры пяску? — раптам запытаўся доктар Савіч. — Я здагадваюся, яны гэтак бароняцца ад стракоз, ад іх гіпнозу. Мы сутыкнуліся з гэтай з'явай і вырашылі, што тут ёсць толькі адна страказа — Дазорац-Уладар, як мы яе назвалі, якой уласцівы гіпноз. Але такіх стракоз тут, напэўна, значна больш.

— З тваіх слоў вынікае, — заўважыў я, — што гэтыя істоты разумныя. Каб не падвяргаць сябе стрэсам, не змагацца з уяўнаю драпежнаю птушкаю, яны ўзнімаюць вакол сябе пясок і робяцца недасягальнымі для стракоз. Стракозы ў такой віхуры могуць загінуць. Ім застаецца адно: хавацца пад нейкія вялікія камяні.

— Чуеце, як стала ціха, — заўважыў Антон. І мы зноў пачалі ўзірацца ў ілюмінатар.

Ужо не віхурыўся пясок, наўкол ляжала маўклівая раўніна. Мы бачылі, што істоты адступаюць, хаваюцца ў цемры, куды не далятала святло нашых пражэктараў. Над усім уладарыла цёмна-бэзавая ноч, і паблісквалі яркія зоркі ў цяжкім небе. Але мы не спяшаліся

ў свае адсекі. Пайшлі ў хол, дзе цяпер сабраўся ледзь не ўвесь экіпаж нашага карабля. Уражаныя, маладыя лабаранты сустрэлі нас позіркамі, у якіх было шмат пытанняў. І Антон амаль весела прамовіў:

— Ну што, хлопцы, пабачылі, якімі могуць быць гуманоіды?!

— Але ж тут, на гэтай планеце, нідзе ніякага жыцтла няма, — сказаў адзін з лабарантаў. — Мы ж, калі віселі над ёю, усё тут вывучылі. Толькі некалькі ланцужкоў гор...

— Вось адтуль яны і прыйшлі, — адгукнуўся астрафізік. — Там яны і жывуць. Можа, у нейкіх падземных паселішчах.

І бортмеханік, які таксама быў у холе, з ім не пагадзіўся.

— Прыйшлі яны, напэўна, адтуль, — сказаў ён. — Але гэта не іх планета. Яны тут нядаўна і, мяркую, гэта — злачынцы. Яны ж усе клеймаваныя! Іх прывезлі сюды... Я паспеў шмат дзе пабыць у космасе і даводзілася сустракаць такія планеты-ізалятары, куды скідвалі злачынцаў.

— А што? — позірк у доктара Савіча ажывіўся. — У словах бортмеханіка штосьці ёсць! Але я думаю трошкі ў іншым накірунку. Дапускаю, што гэтая планета — ізалятар, але чаму абавязкова для злачынцаў? Гэтыя істоты могуць быць няўдалым эксперыментам нейкага надзвычай развітага розуму. Штосьці накшталт гамункулусаў.

— Гамункулусы? — перапытаў Антон. — Упершыню чую. Хто яны?

І доктар Савіч патлумачыў:

— Чалавечыя істоты, якіх на Зямлі ў глыбокай старажытнасці, у так званае Сярэднявечча, алхімікі марылі стварыць штучна ў лабараторных умовах. Тады ім гэта-

га зрабіць не ўдалося. І вось цяпер тут, у гэтай частцы Сусвету, на нейкай невядомай нам планеце гамункулусаў маглі стварыць, але... вопыт атрымаўся няўдалым.

— Хм-м, доктар Савіч у нас фантазёр, — пасміхнуўся бортмеханік. — Мы, вядома, гэтыя істоты можам назваць гамункулусамі. Але калі іх прыняць за няўдалы эксперымент, дык на нейкай той планеце павінны жыць нашы браты, калі не па розуме, дык па знешнім падабенстве. З самымі звычайнымі насамі. Ну а тыя хобаты, якія мы бачылі, — памылка эксперымента. Ты гэта меў на ўвазе?

— Чаму б і не? Чаму б і не? — некалькі разоў не сказаў, а прамармытаў доктар Савіч, і мы ўсе бачылі, што ён збянтэжыўся. І адразу ж пачаў развітвацца. Я таксама неўзабаве пайшоў у свой адсек і чамусьці мне хацелася называць гэтыя істоты з хобатамі гамункулусамі. Хай лепш яны будуць няўдалым эксперыментам, чым злачынцамі, для якіх прырода невядомага нам свету пашкадавала нават прыстойных твараў. Я цалкам пагаджаўся з меркаваннямі доктара Савіча. Безумоўна, пра кантакт з імі не думалася, але паназіраць за гэтымі істотамі яшчэ раз я быў бы не супраць. Таму пасля кароткага сну, назаўтра, як толькі пабачыў Антона, заспяшаўся спытаць у яго:

— Ну як там нашы гамункулусы?! Яны яшчэ не набліжаліся да карабля?

— Набліжаліся, — адказаў Антон. — І нават пасадзілі нашы сасонкі. Паглядзі ў ілюмінатар, ты ж не падумаеш, што гэта зрабілі стракозы?!

І калі я падышоў да ілюмінатара, сапраўды пабачыў пасаджаныя сасонкі, над якімі ўсё кружылі і кружылі чародкі стракоз. У мяне міжволі зашчымела сэрца — перад вачамі быў амаль беларускі краявід, але ў той жа момант падумалася пра істоты, якія я ўжо ніяк не

мог назваць інакш, як гамункулусы. Безумоўна ж, іх прывезлі сюды з планеты, дзе растуць дрэвы. Магчыма, нават сасонкі, такія ж самыя, як у нас на Зямлі. Інакш, ці сталі б яны саджаць іх?! Вось толькі шкада, ім не дадзена дазнацца, што тыя сасонкі, якія яны пасадзілі, з Беларусі.

Мы больш не сталі спускацца на паверхню – мэтай жа гэтага нашага падарожжа была Вега. Але ляцець туды нам не давялося.

З Асацыяцыі мы атрымалі паведамленне, што вярнулася адна з экспедыцый, якая паляцела да Вегі значна раней за нас. Аказалася, што сузор'е Ліры, дзе Вега з'яўляецца галоўнай зоркай, блакіравана чорнымі дзіркамі. І хаця на Зямлі ўжо даўно існуе меркаванне, што чорная дзірка – нішто іншае, як праход з аднаго сусвету ў другі, мы не сталі рызыкаваць... Далейшы наш палёт быў небяспечным. Праўда, само гэта паведамленне пра чорныя дзіркі выклікала шмат самых розных размоў на нашым караблі.

Бортмеханік пачаў расказваць, што падчас аднаго са сваіх падарожжаў у чужой галактыцы яму даводзілася бачыць на экране знешняга назірання, як з чорнай дзіркі вылятаў зоркалёт. Пасля чаго доктар Савіч сказаў:

– Асабіста я веру ў існаванне паралельных сусветаў... Што, калі чорныя дзіркі – шлях да іх? Вы толькі ўявіце, мы трапляем у паралельны сусвет і ўжо адтуль пачынаем вывучаць Зямлю, але з паралельным светам на ёй.

І пасля гэтых яго слоў наш бортмеханік, як і там, на планеце Пясчаных Ураганаў, назваў доктара фантазёрам. І доктар зноў збянтэжыўся. Можа нават пакрыўдзіўся, таму што нейкі час нікога не ўпускаў да сябе. А калі аднойчы сам запрасіў мяне ў свой адсек, я пабачыў на ілюмінатары страказу з блакітным брушкам. Было та-

кое ўражанне, што яна хоча штосьці разгледзець у глыбінях сусвету. Магчыма, ёй мроілася яе планета?

А доктар Савіч сказаў будзённа:

— Ты пашкодзіў тады ёй адно крылца, але лётае яна добра. Думаю, што ёй спадабаюцца нашы беларускія краявіды. — Доктар паглядзеў на страказу і дадаў: — Дарэчы, яна страціла тую сваю якасць. Здараецца, што я доўга гляджу ў яе лупатыя вочкі і, ты ведаеш, ніякага гіпнозу не адчуваю. Суму, праўда, там многа бачыцца, такога незямнога су-у-му!

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Дазорац-Уладар і на самой справе ўпадабаў нашы краявіды. Але яго не цікавяць лугі і лясныя палянкі. Ён любіць лётаць над рэчкамі ды азёрамі і, можа, толькі таму, што ў іх адбіваюцца аблокі, за якімі, ну, вядома ж, — глыбіні сусвету. І там, у гэтых глыбінях, сярод мноства самых розных планет знаходзіцца і яго планета, якую, дарэчы, ён ужо мог бы і не пазнаць... Там жа, напэўна, ужо шумяць прыгожыя гонкія сосны — адна ў адну, якімі любуюцца, хм-м... гамункулусы.

## Лён-Лянок, альбо Кампакт-дыск ад зялёнага Дрэйка

### ПАСТКА ДЛЯ ЗЯМЛЯН

Доктар Савіч затрымліваўся, і я пачаў нервавацца. Ён павінен быў заехаць па мяне хвілін дваццаць таму назад. Можа, здарылася штосьці непрадбачанае. А што магло здарыцца? Даўно ўжо мог звязацца са мной па мабільнай сувязі. Я сам спрабаваў гэта зра-

біць, але яго тэлефон быў адключаны. І мне заставалася толькі чакаць. Да старту ў нас яшчэ было гадзін шэсць, у любым выпадку мы не спазняліся. А ляцець мы павінны былі на Месяц, куды тэрмінова быў адпраўлены ўжо не адзін зоркалёт з Зямлі. Туды спяшаліся французы, рускія, амерыканцы...

Справа ў тым, што некалькі дзён таму назад на Месяцы пацярпеў катастрофу невядомы касмічны аб'ект. І, калі верыць інфармацыі, якую мы атрымалі ў Міжнароднай асацыяцыі зоркавых палётаў, гэта быў своеасаблівы міні-горад. Праўда, як гэта ні дзіўна, без гуманоідаў. Там былі толькі прадстаўнікі незямной фауны і флоры. І хоць яшчэ не прайшло і тыдня, як мы вярнуліся з даволі працяглага падарожжа ў сузор'е Рака, на Месяц вырашылі ляцець неадкладна. Я яшчэ раз паспрабаваў звязацца з доктарам Савічам, і ў гэты момант пазванілі ў дзверы. Пайшоў адчыняць, думаючы, што, нарэшце, з'явіўся доктар. Але гэта быў Арцём, той самы падлетак, які аднойчы разам з намі наведаў Зямлю-2 у сузор'і Дзевы. З ім былі яго сябры: Алік і Натка, з якімі я ўжо меў магчымасць пазнаёміцца раней. І хоць іх прыход быў нечаканым, я быў шчыра ўзрадаваны.

— Ну вось бачыце, дзядзька Сымон ужо вярнуўся, — сказаў Арцём сябрам і тут жа звярнуўся да мяне. — Раскажыце пра палёт, як там у вас усё было? Я лічыў дні і вось вылічыў... Вы — дома!

— Я ўжо амаль тыдзень на Зямлі, — адказаў я. — Праходзьце...

І трэба сказаць, што міжволі адчуваў сябе вінаватым. Перад адлётам у сузор'е Рака я запрашаў Арцёма да сябе, маўляў, як толькі вярнуся, абавязкова прыходзь з сябрамі, каб пачуць, якую ж інфармацыю мы адтуль прывезлі, на якой планеце былі і што бачылі.

І вось Арцём прыйшоў, а я ўжо гатовы адправіцца ў новае падарожжа.

— Вы зноў некуды сабраліся ляцець? — запытала Ната, як толькі мы прайшлі ў гасцёўню. — У вас напагатове рэчы.

— На жаль, адлятаю, — вымушаны быў сказаць я. — Непрадбачаны палёт на Месяц. Вы ўжо, напэўна, ведаеце, там пацярпеў катастрофу касмічны карабель незямнога паходжання. Вось-вось заедзе па мяне доктар Савіч.

Я бачыў, што мае словы засмуцілі Арцёма.

— Што нам тая катастрофа?! У мяне мама на некалькі дзён з'ехала пад Гомель, — сказаў ён. — На касмадроме за Раўбічамі мне ўжо стала нецікава. Думаў, пабуду тут з вамі.

Я лёгенька паляпаў яго па плячы.

— У нас яшчэ будзе шмат часу, Арцём, а цяпер ведаеш што? Я прывёз з сузор'я Рака цікавую рэч. Мяркую, там павінна быць штосьці нязвыклае для нас, зямлян!

Той рэччу, пра якую я ўспомніў, быў кампакт-дыск. У мяне не было часу расказваць, пры якіх абставінах ён да мяне трапіў, таму, як толькі я знайшоў яго на паліцы, заваленай касмічным хламам, абмежаваўся некалькімі фразамі:

— Вось, трымай! Яго мне даў самотны жыхар незвычайна змрочнай планеты. Наўкол быў толькі адзін шэры колер. Бясконца шэрая прастора. Праўда, дзе-нідзе горы яшчэ былі там, і чалавек… Усяго адзін! На ўсёй гэтай прасторы.

— Чалавек? — перапытаў Алік.

— Не ведаю, — і я на момант задумаўся. — Для мяне ён быў чалавекам. Увогуле, надта сумным было тое наша падарожжа.

— Дык раскажыце, — папрасіла Натка.

— Не-не, у двух словах пра яго не раскажаш. З хвіліны на хвіліну павінен з'явіцца доктар Савіч.

Я бачыў, як уважліва Арцём разглядвае з усіх бакоў дыск, і дадаў:

— Яго мне пасля вернеце, а калі на ім штосьці надзвычай цікавае, пакажыце яшчэ каму-небудзь з сяброў. І як толькі я вярнуся з Месяца, абавязкова заходзьце.

Падлеткі ўспрынялі мае словы як знак, што ім ужо трэба ісці. А, можа, карцела хутчэй паглядзець, што ж на тым дыску? Яны пачалі развітвацца, і я іх не затрымліваў. Зачыніў за імі дзверы і яшчэ раз паспрабаваў набраць нумар доктара Савіча. На гэты раз ён адгукнуўся:

— Вінаваты, Сымон. Затрымалі ў Асацыяцыі. Табе хіба не патэлефанавалі? Камандзір у трансе. Наш палёт адмяняецца! І не толькі наш. Усе рэйсы на Месяц адменены.

І далей доктар Савіч паведаміў мне, што над тым караблём на Месяцы з'явілася талерачка, якая, напэўна, радыёпультам падняла карабель. І калі ён завіс дзесьці за кіламетр ад паверхні, пайшла на стыкоўку з ім.

— Ты разумееш, што адбылося? — усхвалявана пытаўся ў мяне доктар Савіч. — Гэта пастка! Там жа паспелі папрацаваць дэзінфектары. Службы кантролю разбілі карабель на сектары, запусцілі туды астрафізікаў і іншых даследчыкаў. Там і механікі, і інжынеры, і батанікі... Хто адважыцца цяпер збіваць карабель з такою колькасцю зямлян?!

Я стаяў як аглушаны. У глыбокім космасе здаралася сустракацца з караблямі незямнога паходжання. Але тыя, хто знаходзіўся ў іх, як быццам і не бачылі

нас. На нашы караблі не звярталі аніякай увагі. Мы тлумачылі гэта па-свойму, маўляў, няма ніякіх прычын дзяліць Галактыку. Пры яе памерах месца хопіць усім. І раптам такі гвалтоўны захоп зямлян на паверхні нашага ўласнага спадарожніка! Цяпер ужо відавочна, што гэта не катастрофа. Іншапланецяне пасадзілі свой карабель на Месяцы, пачакалі, пакуль запоўняць яго зямляне, і паднялі. Потым стыкаваліся. Там ужо, напэўна, поўна гуманоідаў. Самая сапраўдная пастка, праўду сказаў Савіч. Але доктару я адказаў зусім іншае:

— Не будзем думаць пра горшае, калі застаецца толькі адно, чакаць, як там будуць разгортвацца падзеі.

— Ніякіх новых звестак адтуль няма. Уключай тэлевізар, — сказаў Савіч. — Па ім праз кожныя пятнаццаць хвілін ідзе трансляцыя з Месяца. Пазней сазвонімся. У мяне даўно на сёння быў запланаваны сеанс з Мымам. І калі мы ўжо не ляцім, давядзецца папрацаваць. Потым, можа, заеду да цябе.

Доктар Савіч развітаўся, і я пазайздросціў яго цярплівасці. Ён усё яшчэ працаваў з Мымам, іншымі словамі, праводзіў сеансы псіхатэрапіі, і я не верыў у станоўчы вынік гэтай яго працы. Справа ў тым, што Мыма падабраў на нейкім далёкім астэроідзе падчас аднаго са сваіх палётаў у космас саксонец Ганс Мюлер, які, здаралася, вылятаў разам з намі. «Спецыяльны экзэмпляр незямнога жыцця для доктара Савіча», — помніцца, сказаў тады саксонец. І калі мы пазнаёміліся з тым экзэмплярам, дык проста жахнуліся. Гэта было чалавекападобнае стварэнне, якое прамаўляла толькі два гукі: «М-ы, м-ы»... Давялося адразу ж і назваць яго Мымам. Але, пазнаёміўшыся аднойчы, сустракацца больш з Мымам не хацелася.

Ён меў два абліччы. З аднаго боку галавы ў яго быў мілы, сімпатычны твар, з якога не сыходзіла прыязная ўсмешка. І немагчыма было гэтак жа прыязна не пасміхнуцца ў адказ. Але варта было толькі Мыму павярнуцца, як тут жа даводзілася сустрэцца з позіркам, у якім было столькі агрэсіі і нянавісці, што міжволі дрыжыкі прабягалі па скуры. Гэта было другое Мымава аблічча, на якім нічога, акрамя звярынай раз'юшанасці, не было, інакш і не скажаш. Павернуты гэтым сваім бокам, Мым спрабаваў кідацца на людзей, таму яго і трымалі за кратамі. І праз краты доктар Савіч праводзіў свае сеансы, сэнс якіх зводзіўся да аднаго: зняць агрэсію з другога аблічча Мыма. І зрабіць гэта пакуль яму ніяк не ўдавалася.

Я ўключыў тэлевізар. Адразу зразумеў, што ідзе трансляцыя з Месяца. Карцінка на тэлеэкране мяне не ўразіла. У глыбокім космасе даводзілася сустракаць падобныя чужыя караблі, а што да талерачкі, дык такія праляталі міма нашага зоркалёта даволі часта. І навін асаблівых не было. Дыктарка паўтарыла тое, што я ўжо чуў ад доктара Савіча. Выключыў тэлевізар і хацеў было звязацца з Асацыяцыяй міжзоркавых палётаў, раптам у іх ёсць нейкая дадатковая інфармацыя, як тут званком азваўся мой хатні тэлефон. Зняў трубку і пачуў незнаёмы хлапечы голас:

— Дзядзька Сымон?! Як добра, што вы яшчэ дома! Гэта Алік, Арцёмаў сябра! У нас!.. У нас!.. — ён хваляваўся незвычайна і нарэшце вымавіў. — Адбылося штосьці страшнае, самы сапраўдны кашмар! Той, хто вам даў гэты кампакт-дыск у сузор'і Рака... Ён... Ён...

— Што ён? Я ж сказаў вам... Для мяне ён быў чалавекам. Мы яго звалі зялёным Дрэйкам. Скура ў яго была зялёная.

— І шланг!.. Шланг таксама быў зялёны!

— Які шланг? — запытаўся я, нічога не разумеючы.

І толькі калі даслухаў Аліка да канца, я зразумеў, што сапраўды здарылася страшная бяда, якая, не выключана, можа стаць непапраўнай.

— Чакайце мяне, я хутка буду ў вас, — сказаў я Аліку, паклаў трубку і адразу ж выйшаў з кватэры. Мяне гняла думка: «Як жа я мог?! Як мог, не праверыўшы, не паглядзеўшы, што там, аддаць Арцёму кампакт-дыск ад зялёнага Дрэйка?» Я быў не ў сабе. Не хацелася верыць у пачутае. Праз хвілін дваццаць я падыходзіў ужо да дома, у якім жыў Арцём.

## АБЛАСАКАР[1] У НЕВЯДОМАСЦЬ

Дзверы ў кватэру мне адчыніў Алік і адразу ж правёў у Арцёмаў пакой, дзе, прытуліўшыся да сцяны, стаяла перапуджаная Ната. Пабачыўшы мяне, кінулася насустрач:

— Дзядзечка Сымон, я баялася паварухнуцца! А раптам гэта зноў паўторыцца?! Бедны Арцём! Усё было так страшна! Шланг намерваўся схапіць мяне. Я і цяпер баюся, — позіркам паказала на стол, дзе стаяў камп'ютар. — Ён сам адключыўся.

— Нічога не трэба баяцца, паспрабуем разабрацца, што да чаго, — сказаў я, азіраючы пакой, і ў нейкі момант нават пасміхнуўся. На падваконні пабачыў гаршчок, у якім рос Ням-Ням — дзівосная расліна, якую я падарыў Арцёму пасля нашага падарожжа на Зямлю-2. Лісце Ням-Няма трапятала. Ён, відаць, таксама быў перапуджаны.

[1] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — тэлепартацыя.

Ната і Алік тым часам селі на канапу. Да іх падсеў і я. У мяне ўсё яшчэ не было поўнай карціны таго, што адбылося ў гэтым пакоі, і я папрасіў:

— Ну што ж? Давайце, расказвайце, толькі ўсё падрабязна, з самага пачатку... Я вам даў кампакт-дыск, вы прыйшлі з ім сюды.

— Я спачатку зайшла на кухню, — удакладніла Ната. — Там у халадзільніку былі бутэрброды. Потым мяне гукнуў Арцём, — яна паглядзела на Аліка.

— Ага-а, — пацвердзіў Алік. — Ён крыкнуў табе: «Ідзі глядзець, кіно пачалося!» А я засмяяўся... Арцём ужо ўключыў камп'ютар, паставіў дыск, і на экране замільгалі кадры...

— Якія? Згадайце ўсё да драбніц. Любая дэталь можа быць важнай.

— Нічога там асаблівага не было, — адказаў Алік. — Пячора была, самая сапраўдная, з вялікаю дзіркаю ў столі. Праз дзірку пранікала святло. Нейкі хлопец стаяў ля ўваходу ў пячору. Прыблізна наш аднагодак. Каля яго, размахваючы рукамі, бегала дзіўная жанчына.

— Яна была такая ваяўнічая, што, як толькі я ўвайшла ў пакой і зірнула на экран камп'ютара, — перапыніла Аліка Ната, — я адразу ж ускрыкнула: «Амазонка!» А Арцём засмяяўся: «Ну, якая ж гэта амазонка! Яна хутчэй нагадвае ведзьму!»

— Скура ў іх была зялёная? — запытаўся я.

— Не, такая, як і ў нас, белая.

— Чакай, Алік, чакай! Мы забыліся пра галоўнае. На іх было не адзенне, а матляліся нейкія шкуркі. Хлопец увогуле да пояса быў голы. І валасы ў яго былі вельмі доўгія.

— А ў жанчыны шкура была перакінута цераз плячо і падперазаная нейкім матузом, — дадаў Алік. Па-

глядзеў на мяне і працягнуў. — Потым у пячоры з'явіліся дзяўчына і барадаты дзядзька. Яны таксама былі ў шкурах. Дзяўчына ўкленчыла перад жанчынай.

— Тут і пачуўся нейкі трэск, — сказала Ната. — І ўсё на экране знікла. «Кіно скончылася!» — весела выгукнуў Арцём. І ў гэты момант на экране з'явіўся скручаны зялёны шланг.

— Як ён выглядаў?

— Звычайна! — адказаў Алік. — Як ад пыласоса.

— Вось-вось, я тады падумала пра пыласос, — сказала Ната. — Але тут усё і пачалося. Шланг вытыркнуўся з дысплея і пачаў хутка раскручвацца, як рулетка. Я закрычала...

— Не-е, ты дзіка заверашчала, — пасміхнуўся Алік. — А я ўскочыў з канапы. Шланг хістаўся з боку ў бок, бы гадзюка. Ён памкнуўся да Наткі, але яна замахала рукамі і шпурнула ў яго бутэрброд, які не паспела даесці. Шланг праглынуў яго і павярнуўся да Арцёма...

— Ён уцягнуў яго ў сябе, як уцягвае пыласос штосьці дробнае, — прамовіла Ната. — Усё адбылося імгненна. Арцём не паспеў нават крыкнуць. І адразу ж шланг знік, быццам нехта хутка ўцягнуў яго назад у дысплей, — яна запытальна паглядзела на мяне. — Паміж тым зялёным Дрэйкам, пра якога вы нам расказалі, і гэтым дыскам, напэўна, існуе нейкая сувязь.

Я маўчаў, добра разумеючы, што адбылося. Арцём перамясціўся з адной прасторы ў другую. Аказваецца, зялёны Дрэйк меў тое, над вынаходніцтвам чаго чалавецтва ўжо б'ецца не адно стагоддзе і ніяк не можа вынайсці. І я міжволі згадаў высокую худую постаць у чорным плашчы сярод шэрай бясконцай маўклівасці. Мы ўжо збіраліся пакінуць непрыветлівую, нікім не абжытую, змрочную планету, мяркуючы,

што больш не пабачым яе адзінага жыхара, але ён спусціўся з гары і шпарка ішоў да нашага зоркалёта. «Сыдзі на паверхню, развітайся з ім, — сказаў мне Антон, камандзір нашага карабля. — Прапануй, можа, ён пагодзіцца ляцець з намі». Але Дрэйк ад гэтай прапановы адмовіўся, і я не настойваў. Ён абраў для сябе адзіноту, а магчыма, у ім усё яшчэ жыло спадзяванне, што ён сустрэнецца з кімсьці са сваіх блізкіх. У апошнім я памыляўся, таму што Дрэйк, як толькі падышоў да мяне, адразу ж дастаў з кішэні дыск, і я пачуў ад яго словы, якія толькі цяпер сталі мне зразумелымі. Тады ж не ўдаваўся ў іх сэнс, палічыў іх нейкай бязглуздзіцай.

— Хм-м, Ната, сувязь... — я паглядзеў на яе, потым перавёў позірк на Аліка. Яны напружана чакалі, каб я растлумачыў ім тое, што адбылося. І я паўтарыў словы Дрэйка. — Ведаеце, я дакладна ўсё зараз успомніў: «Мне гэтая рэч ужо непатрэбная, вазьмі сабе. Але калі здарыцца абласакар, толькі з таго месца, куды прыбудзеш, вернешся назад». Гэтак мне сказаў зялёны Дрэйк, калі аддаваў дыск. Цяпер я разумею, што абласакар па-нашаму — тэлепартацыя. Значыцца, каб вярнуцца назад, Арцёму трэба быць абавязкова на тым самым месцы, дзе ён апынуўся, калі перамясціўся ў іншую прастору.

— Як гэта на тым самым месцы? — перапытала Ната. — Мне не зусім зразумела.

І я патлумачыў:

— Тут, у гэтым пакоі, як я здагадаўся, Арцём сядзеў на канапе. А ў той нейкай іншай прасторы, дзе ён цяпер знаходзіцца, тое, што вы назвалі шлангам, магло выштурхнуць яго з сябе на падлогу ў доме, ці, скажам, на дах нейкай будыніны, альбо на дрэва. Ён можа пакінуць тое месца і, канечне ж, пакіне, але,

каб мы яго выцягнулі, павінен вярнуцца менавіта туды, у тую першапачатковую кропку свайго перамяшчэння.

— Што значыць, каб мы яго выцягнулі?

— Вярнулі яго назад. Як я разумею, зрабіць гэта мы зможам з дапамогай дыска, — адказаў я.

— Гэта немагчыма! — У Натчыных вачах была трывога. — Як жа Арцём дазнаецца, дзе яму трэба быць?

— Зразумела, што ніяк! — Алік быў катэгарычным. — Можа, Арцём цяпер на той планеце, дзе застаўся зялёны Дрэйк?

— Якая розніца, — прамовіла з адчаем Ната. — Дзе б цяпер ён ні быў, мы нічога не зможам зрабіць, — і яна паглядзела на мяне з недаверам. — А як вы зразумелі, што вам сказаў той зялёны чалавек, перадаючы дыск? Хіба вы ведаеце яго мову?

— Не, не ведаю, але ён з большага валодаў нашай, беларускай мовай. Паўтараю, збольшага. Мы не заўсёды добра яго разумелі, таму я і не надаў ніякага значэння тым яго словам.

— Я вам не веру! — тут жа выгукнуў Алік. — З-за вас здарыўся з Арцёмам гэты... Ну, як вы сказалі, «абласакар»! І вы цяпер, каб неяк апраўдацца, прыдумляеце неверагодныя рэчы. Зялёны Дрэйк не мог ведаць нашай мовы.

— Чаму? — запытаўся я, і мне давялося ім расказаць, што даволі даўно да зоркі Паўночны Асёл, якая знаходзіцца ў суседстве з сузор'ем Рака, была паслана экспедыцыя. Той карабель да гэтага часу не вярнуўся на Зямлю. Але, як высветлілася падчас нашага падарожжа, на ім здарылася аварыя. І члены той экспедыцыі мусілі яго пасадзіць на бліжэйшую ад іх планету, на якой ім давялося затрымацца вельмі і вельмі доўга, пакуль яны не адрамантавалі свой карабель. Гэта ўсё

мы пачулі ад зялёнага Дрэйка. Ён жыў на той планеце і разам са сваімі сынамі дапамагаў рабіць рамонт карабля. Там былі сур'ёзныя непаладкі з рухавікамі, і, вядома ж, кантактуючы з беларусамі, Дрэйк меў магчымасць авалодаць нашай мовай. Мне хацелася сказаць, што адным з членаў той экспедыцыі быў якраз і Арцёмаў бацька, але я не стаў гэтага рабіць. Цяпер трэба было нейкім чынам вяртаць з поўнай невядомасці Арцёма.

— А куды падзеліся сыны зялёнага Дрэйка, і як там можна было ліквідаваць аварыю на караблі, калі вы самі сказалі, што планета была не абжытая? — запыталася Ната.

— А што потым сталася з тым караблём? — у Аліка ўзнікла сваё пытанне.

— Як толькі яго адрамантавалі, члены экспедыцыі паляцелі далей, да Паўночнага Асла, — адказаў я. — І што з імі там здарылася, ніхто не ведае. Ніякай сувязі з імі няма да гэтага часу. А на планеце зялёнага Дрэйка адбылася глабальная катастрофа. Мы сустрэліся з ім на іншай планеце, дзе я атрымаў ад яго гэты кампакт-дыск.

— А можа, ён вам яшчэ нешта сказаў, — задумліва прамовіў Алік, — калі перадаваў яго? Можа, вы забыліся і вам яшчэ раз трэба ўсё вельмі добра ўспомніць, каб знайсці падказку як мы цяпер можам звязацца з Арцёмам?

— Вы сказалі пра глабальную катастрофу, а ці давялося вам пабыць на той планеце, дзе раней жыў зялёны Дрэйк? — і Ната дадала прыцішаным голасам. — Разумееце, вельмі многа ў нас узнікла пытанняў, дык, можа, вы раскажаце пра той свой палёт у сузор'е Рака? Паспрабуйце аднавіць у памяці, як усё адбывалася, і магчыма, сапраўды, як кажа Алік,

мы разам зможам знайсці адказ, дзе цяпер Арцём і як з ім звязацца?

Я быў няўпэўнены, што адказ знойдзецца, бо паспеў ужо аднавіць у памяці многае і многае з таго свайго палёту, але не стаў адмаўляцца і, можна сказаць, яшчэ раз перажыў тое наша няпростае падарожжа.

## КАТАСТРОФА НА ПЛАНЕЦЕ ГУСЛЯР

Мы ляцелі ў сузор'е Рака, але само сузор'е нас мала цікавіла. У ім, як вядома, няма вялікіх яркіх зорак. Але, калі глядзець у зямныя тэлескопы, дык можна заўважыць у ім ледзь бачную зіхатлівую пляму, якая складаецца з агромністай колькасці самых розных зорак, і якую даўно, у глыбокай старажытнасці назвалі адным словам: Яслі. Туды, да гэтых Ясляў, мы і ляцелі са спадзяваннем, што адкрыем там шмат новых планет, дзе мы, беларусы, будзем першапраходцамі.

У мяне быў прыгнечаны настрой, я баяўся, што пачынаю хварэць на касмічную дэпрэсію, таму запрасіў да сябе ў адсек доктара Савіча, каб ён зрабіў запіс маіх пачуццяў і адключыў небяспечныя. Гэтую электронную прыладу, якую заўсёды доктар Савіч насіў з сабою, мы называлі дэтэктарам адчуванняў.

— Ніякай касмічнай дэпрэсіі ў цябе няма, — сказаў доктар. — Я гэта бачу і без расшыфроўкі тваіх пачуццяў. Проста мы ўсе стаміліся ад гэтага доўгага падарожжа. Чаму ты не ўключаеш экран знешняга назірання? Камандзір мяркуе зрабіць кароткую пасадку на планеце, дзе ёсць вада. Яе ўжо можна пабачыць на экране. Антон занёс яе ў нашы карты і пазначыў пад назвай Гусляр.

— Чаму Гусляр?

— А ты ўключы экран і паглядзі. Там два мацерыкі, абкружаныя, трэба думаць, акіянам. Адзін з гэтых мацерыкоў мае форму чалавечага цела, а другі, значна меншы, нагадвае самыя сапраўдныя гуслі. Нават нейкія каналы праходзяць праз яго, бы струны. Антон, як толькі пабачыў усё гэта, адразу ж выгукнуў: «Глядзіце, усё роўна бы гусляр, схілены над гуслямі!» Тут я і падказаў яму, маўляў, дык давай і назавём гэтую планету Гусляр. Ён пагадзіўся. Ты ж помніш, як мы аднойчы адзін астэроід у сузор'і Валапаса назвалі Дранікам?

Я кіўнуў галавой і міжволі пасміхнуўся. Назва Дранік так і замацавалася за тым астэроідам. Успомнілася, як неяк на нашым касмадроме за Раўбічамі прызямліліся англічане. «Адкуль вы вярнуліся?» — запытаўся ў іх наш бортмеханік, і англічане адказалі: «З Драніка!» Магчыма, і назва Гусляр прыжывецца, калі ўжо Антон занёс гэтую планету ў свае карты.

Тым часам я ўключыў экран знешняга назірання, доктар Савіч папрасіў павялічыць відарыс нейкай пэўнай мацерыковай часткі. І, як толькі я гэта зрабіў, мы міжволі затаілі дыханне, уважліва ўзіраючыся ў карцінку на экране. Калі б не ведалі, што знаходзімся ў глыбокім космасе, на адлегласці мільёнаў і мільёнаў кіламетраў ад Зямлі, можна было б падумаць, што перад намі густанаселены квартал зямнога горада. Адно дамы мелі форму незвычайна высокіх вежаў. Я нават не стаў лічыць паверхі, каб не збіцца з ліку.

— Вельмі развітая цывілізацыя, — нарэшце першым парушыў маўчанне доктар Савіч. — Але чаму такія непамерна шырокія вуліцы? На іх жа няма ніводнага аўтамабіля!

— Затое ёсць талерачкі, — я ўжо здагадаўся, што гэтыя шырокія вуліцы нішто іншае, як аэрадромы ці

нават касмадромы. — Глядзі, ледзь не ля кожнай вежы стаіць нейкі лятальны апарат.

— Павяліч відарыс яшчэ трошкі, — і доктар Савіч незвычайна ажывіўся, як толькі я гэта зрабіў. — Ну вось, нарэшце мы можам бачыць і тых, хто насяляе гэтыя мацерыкі. Чалавецтва памылялася, калі ў сваім уяўленні малявала гуманоідаў, прышэльцаў з іншых светаў у выглядзе пачвар.

— Дазволю сабе зазначыць, пачвар разумных, — сказаў я.

— І ўсё ж мы, зямляне, уяўлялі іх страшыдламі, а яны ў сваёй большасці, у чым мы пераконваліся неаднойчы, маюць з намі аднолькавую прыроду. Мы з невялікімі адхіленнямі — аднатыповыя. Ну вось яны, перад намі — ходзяць ля сваіх дамоў-вежаў, сядзяць за столікамі пад парасонамі ў адкрытых кавярнях, маці шпацыруюць з дзіцячымі калясkамі. І наўкол адзін бетон: ні газонаў, ні кветнікаў, ні фантанаў. Рэкламныя шчыты, стракатасць самых розных шыльдаў на сценах вежаў. Глядзі, ледзь не перад кожнаю з іх — скульптуры. Калі ў такой колькасці ёсць каго ўшаноўваць, гэта надзвычай высокаразвітая цывілізацыя.

— У іх дзве расы, ты заўважыў? Беласкурая пераважае.

— Ага-а, зялёнаскурых значна менш, — і доктар Савіч паглядзеў на мяне. — Сымон, табе не здаецца, што там нешта пачало адбывацца? Штосьці накшталт панікі.

Я не паспеў адказаць доктару, таму што ў гэты момант пачуўся голас Антона, камандзіра нашага карабля: «Увага! Уключаем абарончыя сістэмы і ўваходзім у атмасферу аб'екта пад умоўнай назвай Гусляр. Жадаючых запрашаю да галоўнага ілюмінатара!»

Мы бачылі, як на экране ў тым далёкім і чужым для нас свеце ўсё прыйшло ў неймаверны рух. Бела-

скурыя і зялёнаскурыя насельнікі квартала, відарыс якога застыў на нашым экране, то забягалі, то выбягалі са сваіх дамоў-вежаў, утвараючы натоўп на непамерна шырокіх вуліцах, адкуль у паветра адзін за адным падымаліся лятальныя апараты самай featureпрознай геаметрычнай формы.

— Можа, яны рыхтуюцца атакаваць нас? Нездарма ж Антон сказаў што ўключаюцца абарончыя сістэмы? — цяпер ужо я запытальна паглядзеў на доктара Савіча.

— Не думаю. Наш карабель не мог выклікаць у іх такі перапуд. Мы яшчэ дастаткова далёка ад іх, нават не ўвайшлі ў атмасферу планеты. Ты паглядзі, яны ўсе ахопленыя самым сапраўдным жахам. Так паводзяць сябе толькі перад вялікай бядой, не ведаючы, як уратавацца. Лятальныя апараты не могуць умясціць усіх жадаючых. Хм-м, цікава! Яны паднімаюцца, як і мы, без разгону. Збаў павелічэнне, давай зірнём на панараму ўсёй паверхні.

І як толькі гэтая панарама адкрылася нам, мы міжволі жахнуліся, прыўзняліся са сваіх месцаў, падаліся бліжэй да экрана, быццам не верылі таму, што бачылі. Было ўражанне, што ўся мацерыковая паверхня ўсмоктваецца, укручваецца ў агромністы вір, утвораны высозным валам вады, што бушаваў наўкол. Акіян, які акружаў мацерыкі, уздыбіўся, стаяў вакол іх сцяною, і мацерыкі павольна асядалі ў яго глыбіні, аддаючы сваю паверхню раз'ятраным хвалям. На экране вымалевалася невялікае паселішча, на якое імкліва накатвалася вада, — пяць-шэсць жалезабетонных вежаў і натоўп, які ў літаральным сэнсе штурмаваў тры лятальныя апараты ў выглядзе талерак.

— Пераключы, — змрочна сказаў доктар Савіч. — А лепш выключы зусім. На нашых вачах гіне жыц-

цё, – ён павярнуўся да мяне, і ў яго позірку я ўбачыў боль. Разам з тым доктар запытаўся: – А ты заўважыў што нідзе наўкол не было відно ніякай жыўнасці? Як вядома з нашай зямной, вельмі і вельмі даўняй гісторыі, Ной у свой каўчэг падчас сусветнага патопу браў і хатнюю жывёлу, і птушак... А-а? Цікава, чым жа яны харчуюцца?

– Харчаваліся! З сабою яны і скарбу ніякага ў свае талерачкі не бяруць, ратуюць толькі самае каштоўнае – сваё жыццё, – з гэтымі словамі я выключыў экран.

Яшчэ ніколі нічога падобнага нам не даводзілася бачыць падчас нашых падарожжаў, і мы з доктарам Савічам не знаходзілі слоў, каб выказаць сваё шкадаванне. Лепш бы ўсяго гэтага не бачылі. Але вось доктар запытальна паглядзеў на мяне:

– Ты не супраць, калі я зноў уключу экран? Не хочацца верыць, што хвалі, гэты раз'юшаны вал вады накрыў усю паверхню.

Я не паспеў адказаць, як пачуўся голас Антона, і тое, што ён сказаў, было міжвольным адказам доктару Савічу.

– Увага! Няма ніякага сэнсу вісець над гэтай планетай. Там, унізе, паўсюдна адна вада і цяпер ужо, напэўна, спатрэбяцца мільёны гадоў, каб на Гусляры зноў адрадзілася жыццё. Будзем шукаць паверхню для пасадкі ў іншым месцы. Пры такой колькасці зорак, як у Яслях, наўкол павінна быць шмат планет.

– Слухай, доктар, а чаму спатрэбяцца мільёны гадоў, каб на Гусляры адрадзілася жыццё? – Я не пагаджаўся з Антонам. – Вада можа адхлынуць, і тыя, хто паспеў ўратавацца, зноў вернуцца сюды.

– Не думаю, – запярэчыў доктар Савіч. – Штосьці адбылося ў нетрах гэтай планеты. Яе паверхня бы

правалілася, — і ён уключыў экран. Я зірнуў на бясконцы акіян, што распасціраўся далёка ўнізе, і адвярнуўся з адной думкай, ці не прымроілася ўсё тое, што мы бачылі на паверхні планеты з гадзіну таму назад? А доктар Савіч ускрыкнуў:

— Глядзі, Сымон! Вунь там, бачыш, мільгаюць дзве талерачкі. Я зноў павярнуўся да экрана і пабачыў два лятальныя апараты, не падобныя на нашы караблі. Надта ўжо былі яны пляскатыя, самыя сапраўдныя талеркі, зялёныя па краях.

— Вярнуліся, каб развітацца са сваёю планетай назаўсёды, — зазначыў доктар. — Не пазайздросціш тым, хто знаходзіцца ў іх. Куды цяпер паляцяць, дзе знойдуць новы прытулак?

Нашы позіркі сачылі за талеркамі. Я думаў, што яны вось-вось завіснуць, як і мы, над планетай. Але талеркі не завіснулі. Яны пачалі імкліва зніжацца і на ўсёй сваёй неверагоднай хуткасці ўрэзаліся ў паверхню ўжо супакоенага, сцішанага акіяна, які імгненна выбухнуў двума вадзянымі слупамі такой вышыні, што, здалося, на нейкі час засланілі Свяціла, вакол якога абарачаўся Гусляр. Пырскі разляталіся, мяркую, на дзясяткі кіламетраў. І на нашым экране былі толькі яны адны.

— Што ты на гэта скажаш? — губы доктара Савіча ледзь варухнуліся.

Я маўчаў, аднак у думках быў упэўнены, што тыя, хто знаходзіўся ў тых талерачках, пажадалі вярнуцца да сваіх родных, каго пахаваў пад сабою акіян, каб назаўсёды застацца разам з імі ў яго глыбінях. І я не памыляўся.

Мае думкі блыталіся. Было адчуванне душэўнай спустошанасці ад усяго, што давялося пабачыць. Відаць, тое ж самае адчуваў доктар Савіч, таму што паспяшаўся мяне пакінуць. І як толькі я застаўся адзін, адразу ж схацелася забыцца, правалiцца ў глыбокі сон, каб распаволіцца, зняць гнятлівае напружанне, якое быццам скавала мяне. Але перад тым, як гэта зрабіць, я падключыўся да шматсерыйнага дакументальнага фільма «Мая Радзіма — Беларусь», каб у сне зноў і зноў палюбавацца роднымі краявідамі, усім тым, што на працягу многіх стагоддзяў здзяйснялася ў мілай майму сэрцу частцы зямнога свету. Як ніколі раней я хацеў думаць, што на Зямлі ўсё добра, і кадры гэтага фільма маглі толькі ўмацаваць мае думкі.

Сон быў вельмі доўгім, але некалькі апошніх серый я ўсё ж не паспеў дагледзець, падхапіўся, як толькі пачуў Антонаў голас. Камандзір паведамляў, што мы зніжаемся. Пад намі была паверхня невялікай планеты, якую мы неўзабаве, калі на яе апусціўся карабель, назвалі Шэрай Непрыветлівасцю. Там мы і сустрэліся з зялёным Дрэйкам, але не адразу.

Тая планета амаль нічым не ўражвала. Мы ўсе ўжо некалькі разоў выходзілі з карабля, і цешыла толькі адно: на планеце было паветра і была вада. Але гэта была не рака і не возера, а хутчэй за ўсё штучны канал, невядома кім пракапаны. Ён падзяляў планету на дзве роўныя часткі, гэта мы бачылі са сваіх ілюмінатараў, калі набліжаліся да паверхні.

— Безумоўна, тут хтосьці быў да нас, — казаў мне доктар Савіч, калі мы з ім, як заўсёды ў пары, што стала ўжо традыцыяй, крочылі па пульхнай, быццам перасохлы торф, глебе. — Ты спаў, а я сядзеў ля свай-

го экрана і добра бачыў гэты канал. Ён роўненькі-роўненькі, вада ў ім блакітная...

— Ну, а дзе ж расліны, дзе дрэвы? — пытаўся я ў яго. — Дзе ёсць вада, там заўсёды ўсё зелянее. Такі ўжо закон прыроды.

— Э-э, дазволь удакладніць. Зелянее на Зямлі і ў пэўную пару года, а тут не Зямля, — і чамусьці са ўздыхам доктар дадаў: — Я стаміўся ад гэтага шэрага колеру. Дойдзем вунь да той адзінокай невялікай гары і вернемся.

— Я гатовы хоць зараз вярнуцца на карабель.

У мяне сапраўды было такое жаданне, але Савіч адмоўна пахітаў галавой, і да гары мы ўсё-такі дайшлі.

Не хаваючы расчаравання, глядзелі на яе: гара як гара — панурая шэрая каменная глыба. Мы селі на невялікі выступ у ёй.

— У мяне ёсць ідэя, Сымон, — адазваўся доктар. — У тваіх лабараторных прабірках захоўваецца самае рознае насенне. Давай засеем лапінку тутэйшай глебы, і ажывіцца гэтая планета. Толькі шкада, што ўжо больш ніколі не давядзецца сюды прыляцець. Квітнення на ёй мы так і не пабачым.

Якраз у гэты момант і пачуўся за нашымі спінамі голас:

— Тутэйшую глебу не трэба засейваць. Яна ажывае, але цяпер тут півар[1].

Мы баяліся азірнуцца. Больш за ўсё ўразіла, што ўсё, што мы пачулі, было прамоўлена па-беларуску. І ўсё ж мы азірнуліся...

Гара бы расступілася за нашымі спінамі, і ў чорнай адтуліне стаяў ён — зялёны Дрэйк. Скура на ягоным твары была колеру ранняй веснавой лістоты. Вялікія

---

[1] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — зіма.

выразныя вочы нагадвалі дзве масліны, толькі зрэнкі былі ярка-жоўтымі. Доўгі чорны плашч падкрэсліваў стройнасць ягонай постаці, і ва ўсім абліччы адчувалася нейкая ўрачыстасць. Мы міжволі падняліся, але Дрэйк павёў рукою, гэта быў ледзь заўважны рух, і мы зноў апусціліся на выступ у гары. Ён сеў побач з намі. Маіх каленяў краналася крысо яго чорнага плашча. Тонкія губы Дрэйка варухнуліся:

— Крыснар з Зямлі?[1]

Мы яго не зразумелі. Але гэтая наша першая сустрэча зацягнулася, і, паколькі ў ягонай гаворцы пракідвалася шмат беларускіх слоў многае з таго, пра што ён нам расказваў, мы маглі зразумець, як і тое, што яго завуць Дрэйк. Тады ж мы пачулі ад яго і пра аварыю на караблі, які ляцеў да Паўночнага Асла, чым Дрэйк і патлумачыў веданне нашай мовы. І калі нарэшце ён прамовіў: «Жыццё на Пурнасе стала небяспечным. На дне акіяна ўтварылася расселіна. Яна пашыралася і пашыралася. Узнікла пагроза, што некалі расселіна ўцягне ў сябе мацерыкі, зрушыўшы іх нетры», — мы ўжо не сумняваліся, што ён з Гусляра.

— Значыцца, твая планета называлася Пурнас? — запытаўся ў Дрэйка доктар Савіч. — А мы далі ёй назву Гусляр.

— Вы наведвалі Пурнас? — і зялёны Дрэйк надзвычай ажывіўся. — Туды цяпер паляцелі мае сыны. Мы атрымалі сігнал небяспекі. Яны павінны вярнуцца сюды са сваімі жонкамі і дзецьмі, таму што рана ці позна на Пурнасе здарыцца баўмік[2], і для свайго новага жытла мы абралі гэтую планету.

---

[1] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — даўно з Зямлі?
[2] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — катастрофа.

— З такім невясёлым пейзажам? — мне падумалася, што ў Яслях можна было адшукаць нешта больш прывабнае.

— Пейзаж піварны[1], — адказаў Дрэйк. — Але пройдзе дзевяць міёраў[2] і тут усё ажыве. З'явяцца трава, кветкі, карлікавыя дрэвы, праўда, на вельмі кароткі тэрмін. Мы даўно назіралі за гэтай планетай. Я разам з сынамі прылятаў сюды шмат разоў, пакуль, нарэшце, не вырашылі абраць яе для жыцця. Праўда, перад гэтым доўга ваганіся. Ёсць яшчэ адзін варыянт.

Я да гэтага часу не магу растлумачыць, чаму менавіта ў гэты момант запытаўся ў Дрэйка:

— А ў тваіх сыноў лятальныя талерачкі былі з зялёнымі краямі?

— Ты іх бачыў? — і ў голасе Дрэйка пачулася непрыхаваная трывога.

— Мы шмат чаго бачылі, — адказаў за мяне доктар Савіч і падняўся з выступу. — Калі шаноўны Дрэйк жадае, дык мы запрашаем на свой карабель, дзе можна будзе пазнаёміцца з астатнімі членамі нашага экіпажа.

— Дзякуй, — адказаў ён. — Вы ж не заўтра адсюль адлятаеце? Я яшчэ паспею з усімі пазнаёміцца. Цяпер жа мне трэба выходзіць на сувязь з сынамі. Раблю гэта штодня і ўсё безвынікова. Сувязі няма. Ад трывожных прадчуванняў у мяне халаднее дыханне.

У гэты момант мне здалося, што ён сапраўды дыхнуў холадам. Відаць, тое ж самае адчуў і доктар Савіч, ён пачаў развітвацца.

— Тады бывай... Будзем чакаць цябе на сваім караблі. І замест слоў развітання Дрэйк прамовіў:

---

[1] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — зімовы.
[2] З мовы зялёнага Дрэйка на бел. — дзевяць месяцаў.

— Калі на Пурнасе здарылася бяда, сыны сюды не вернуцца. Яны застануцца там, дзе іх жонкі і дзеці.

З гэтымі словамі ён і пакінуў нас. Мы рушылі назад, у напрамку, дзе знаходзіўся наш зоркалёт, і калі ў нейкі момант азірнуліся, доктар Савіч сказаў:

— Глядзі, адтуліна ў гары знікла, але ў ёй з'явілася акно. Відаць, Дрэйк назірае за намі. Я ўпэўнены, што ў тых талерачках з зялёнымі краямі былі яго сыны.

— І цяпер яны на дне акіяна, там, на Гусляры, дакладней, на Пурнасе, але хіба яму раскажаш пра такое?

— Можам і расказаць, калі прыйдзе да нас на карабель. Думаю, заўтра ён з'явіцца.

Але зялёны Дрэйк не з'явіўся ні заўтра, ні пасляззаўтра. І нават калі ў адзін з тых дзён, якія мы правялі на Шэрай Непрыветлівасці, мы яшчэ раз падышлі да яго гары, ён не выйшаў да нас. Мы ўжо сабраліся пакінуць тую планету і якраз у дзень нашага адлёту пабачылі ў нізкім небе талерачку з зялёнаю палоскаю па краях. Яна апусцілася на паверхню планеты дзесьці за гарою, той самай, дзе мы і сустрэліся з зялёным Дрэйкам.

— А сюды прыляцелі госці, нам трэба рыхтавацца да сустрэчы, — занепакоена сказаў тады нехта з членаў нашага экіпажа. А доктар Савіч запрасіў мяне ў свой адсек, дзе я і пачуў ад яго:

— Што ты думаеш, Сымон, пра гэтую талерачку? Асабіста я мяркую, што гэта Дрэйк злётаў да Пурнаса і вось цяпер вярнуўся назад сюды.

І я пагадзіўся з доктарам, хоць ніхто з нас не бачыў, як і калі ён пакідаў Шэрую Непрыветлівасць. А праз некалькі гадзін, калі ў нас ужо ўсё было гатова да адлёту, мы пабачылі зялёнага Дрэйка, які спяшаўся да нашага карабля. Тады і сказаў мне камандзір: «Сыдзі на паверхню, развітайся з ім...», — што я і зрабіў.

Пакуль я гэта ўсё расказваў, а таксама яшчэ раз пераказваў усё тое, што пачуў ад зялёнага Дрэйка, калі атрымліваў ад яго кампакт-дыск, Алік і Ната слухалі мяне моўчкі, і ў нейкі момант я падумаў: «Ну вось, яны ўсё пачулі ад мяне і цяпер у іх, напэўна, з'явіцца шмат пытанняў». Але, як ні дзіўна, яны ні пра што не запыталіся, толькі Ната, уздыхнуўшы, сказала:

— Нешта вельмі сумнае вы нам расказалі. Але яшчэ больш сумна ад таго, што ў пачутым няма ніякай падказкі, як нам звязацца з Арцёмам. Гэты зялёны Дрэйк сказаў вам пра «абласакар»...

Ната не паспела дагаварыць. Якраз у гэты момант званком адазваўся мой мабільнік. Тэлефанаваў доктар Савіч, і я не мог не адгукнуцца, раптам ёсць нейкая інфармацыя з Месяца? Інфармацыя, сапраўды, была. Я слухаў доктара і не верыў таму, што чую.

— Ты разумееш, гуманоіды забралі выключна ўсё з таго вялікага карабля на сваю талерачку: усе расліны, усіх звяроў — і зноў пасадзілі карабель на паверхню Месяца. Па нейкіх прычынах ён ім стаў непатрэбным. А можа, гэта і не іхні карабель? Яны проста зрабілі пірацкі налёт і, што называецца, разжыліся такім незвычайным грузам. Можа, яны жывуць на планеце, дзе няма ніякай фауны і флоры. — Доктар зрабіў кароткую паўзу і, як мне здалося, нават неяк весела працягнуў. — Талерачка, зразумела, адляцела, а нашы зямляне ўсе ў поўным недаўменні. Яны і тых гуманоідаў як след не пабачылі. Адно і было, што мільганне нейкіх стракатых ценяў. Выпадак выключны! Гэта ўсё я пачуў у Асацыяцыі. Дарэчы, там мне сказалі, што для цябе ёсць паведамленне ад саксонца.

Ганс, аказваецца, там, на Месяцы. І ён просіць, каб ты тэрмінова з ім звязаўся. У яго для цябе падарунак ад бортмеханіка. Ну, памятаеш, таго самага, якога мы падабралі ўсё на тым жа Месяцы, калі ляцелі да Крабападобнай туманнасці, і які на зваротным шляху, калі мы зноў прыпыняліся на Месяцы, там і застаўся. Ты сам у парадку?! Тады ўсё, звязвайся з Мюлерам! — І доктар Савіч адключыўся.

Я нават не паспеў у яго запытацца, як даўно Ганс Мюлер на Месяцы і ці быў ён на тым караблі, які паднялі гуманоіды? Але доктар гэтага мог і не ведаць, таму лепш за ўсё мне трэба звязацца з саксонцам і ўсё пачуць ад яго самога. Тым больш, што надта ж карцела пачуць, пры якіх абставінах ён сустрэўся з бортмеханікам, таму я і сказаў Аліку і Натцы:

— Хвіліну пачакайце, я зараз патэлефаную на Месяц аднаму добраму знаёмаму, з кім даводзілася даволі часта вылятаць у Космас. Ды вы ж пра яго неаднойчы чулі. На Месяцы — саксонец Ганс. Гэта зойме не шмат часу. А потым мы нешта прыдумаем. Я ўпэўнены, што Арцёма мы выцягнем, дзе б ён цяпер ні быў.

— Вы зараз будзеце тэлефанаваць на Месяц? — здзівіўся Алік. — Як вы гэта зробіце?

— Звычайна! Набяру патрэбны нумар, у мяне ж мабільнік класны. Яго падарыў мне адзін рускі вынаходнік, астранаўт з Варонежа. Па ім я магу звязацца нават з чужой Галактыкай, — і я пачаў набіраць нумар саксонца.

— Хвілінку не набірайце пакуль! — папрасіла Натка. — Калі ў вас сапраўды такі незвычайны мабільнік, што сігнал ад яго можа пранікнуць нават у нейкую іншую Галактыку, дык трэба паспрабаваць паслаць SMSку Арцёму. Раптам ён яе атрымае?! А ваш знаёмы на Месяцы пачакае.

— Ну-у... Ты малайчына, Ната! — толькі гэта і засталося мне сказаць дзяўчынцы. — Вось бачыце, штосьці ўжо намацваецца. Як я сам пра гэта не падумаў? Сапраўды, чаму б і не паспрабаваць адаслаць SMSку Арцёму! Помню, мы былі немагчыма далёка, у чужой Галактыцы, і ў нас адмовіла сувязь. Мы не маглі звязацца з Зямлёю. А тут на шляху малюсенькая-малюсенькая планета. Наблізіліся да яе паверхні, а яна ўся пакрыта пагоркамі — пагорак за пагоркам, нідзе ніякай роўнай пляцоўкі. Толькі ў адным месцы пабачылі больш-менш прыдатную нізінку, куды можна было пасадзіць зоркалёт. Але там ужо стаяў нечы карабель і ля яго былі людзі. Самыя сапраўдныя людзі ў скафандрах, якія выраблялiся толькі на Зямлі. Калі мы апусціліся зусім нізка, пабачылі сцяжок на борце карабля. Аказваецца, гэта быў рускі карабель. Мы, вядома, і селі на тую планету. Паспрабавалі пасадзіць зоркалёт на адзін з пагоркаў. Вось там Павел, так звалі вынаходніка, і падарыў мне гэты мабільнік.

— А што было на той планеце, яна была незаселенай? Вы там не сустракаліся з абарыгенамі? — запытаўся Алік.

— Я раскажу пра яе, але трошкі пазней, — адказаў я. — Спачатку пашлём SMSку Арцёму. Давайце думаць, што паведамім, вельмі коратка, але каб ён зразумеў нас.

— А тут і прыдумляць няма чаго, — адазвалася Ната. — Пашлём тое, што вам сказаў зялёны Дрэйк: «Стань на тое ж самае месца, куды ты перамясціўся, у першапачатковую кропку і мы цябе выцягнем». — Натка паглядзела на мяне і дадала. — З дапамогай дзядзькі Сымона.

Толькі дапішыце: «У цябе на гэта ёсць гадзіна часу», — сказаў Алік. — Праз гадзіну і паставім кампакт.

— Правільна, Алік! Гэтую тваю фразу трэба дадаць абавязкова, — і я пачаў хутка набіраць тэкст SMSкі.

— А калі раптам Арцём не атрымае наша паведамленне, — засумнявалася Ната. — Што будзем рабіць тады?

— Не панікуй загадзя, — і Алік звярнуўся да мяне. — Дзядзька Сымон, у нас ёсць ажно цэлая гадзіна. Вы абяцалі расказаць пра планету, дзе сустрэліся з рускімі астранаўтамі.

— Зараз раскажу, толькі спачатку звяжуся з саксонцам.

Але звязацца з Гансам мне не ўдалося. Яго мабільнік быў чамусьці адключаны. Я цяжка ўздыхнуў, але не адсутнасць магчымасці звязацца з саксонцам мяне трывожыла. Прызнацца, я не надта верыў у тое, што Арцём атрымае SMSку. Адна справа паслаць электронны сігнал, хай сабе на неверагодна далёкую адлегласць, і зусім іншая — у часавую прастору. Гэта штосьці зусім іншае. Я чамусьці быў перакананы, што перамяшчэнне Арцёма было перамяшчэннем менавіта ў часе. Аднак спадзявацца заўсёды трэба, калі нават здаецца, што справа марная. І, каб прыглушыць сваё трывожнае хваляванне, я пачаў расказваць Аліку і Натцы пра тое, ужо амаль забытае, падарожжа ў чужую Галактыку.

## ПЛАНЕТА ЧАРАПАХ

На Зямлі даўно было вядома, што ў той Галактыцы сотні гадоў таму назад адбыўся грандыёзны выбух. Узарвалася адна з самых яркіх зорак, якая знаходзілася найбліжэй да нашай Галактыкі. Зразумела, што нам, зямлянам, было цікава даведацца, як жа паўплы-

ваў гэты выбух на развіццё планет, якія маглі быць недалёка ад той зоркі. Час ад часу ў тым накірунку адпраўляліся з Зямлі зоркалёты. Паляцелі аднойчы і мы, беларусы. Мы ж былі шукальнікамі сенсацыйнай інфармацыі, і нас маглі там чакаць самыя неверагодныя адкрыцці.

Тое наша падарожжа, вядома ж, было вельмі доўгім. Мы не адрываліся ад сваіх экранаў: на шляху было шмат яшчэ нікім не адкрытых планет, асабліва на самым краі нашай Галактыкі. На некаторых з іх, відавочна, было жыццё. Але ў большасці гэтыя планеты высвечваліся ў сваёй некранутай нічыйным розумам першароднасці. На іх шумелі магутныя лясы, дзе праглядваліся дзівосныя дрэвы, бурлілі рэкі, ішлі дажджы, а здаралася, усё засцілася снегам. Снег падаў і падаў, і не было ніякіх прыкмет жыцця на бясконцай снежнай раўніне. Сусвет — агромністы, і многае, многае ў ім паўтараецца. Мы ж шукалі загадак і, магчыма, для некага, хто пазіраў на нас з паверхняў сваіх планет у тэлескопы ці бачыў наш зоркалёт няўзброеным вокам, мы таксама былі загадкай. Але кантактаў ні з кім у нас не здаралася. Мы не апускаліся на паверхні планет. А тым часам пакідалі ўжо межы нашай Галактыкі. Вось тут і перапынілася сувязь з Зямлёю, і наладзіць яе не ўдавалася.

Мы ўжо блукалі па чужой Галактыцы, калі трапілі пад моцны метэарытны дождж. Тут Антон, наш камандзір, і вырашыў пасадзіць карабель на адну з бліжэйшых планет. Але, калі наблізіліся да яе паверхні, пабачылі, што гэта зрабіць цяжка: пагорак за пагоркам. Яшчэ ніколі нідзе не даводзілася бачыць такой бугрыстай паверхні. І, напэўна, мы не селі б на тую планету, каб наш астрафізік не звярнуў увагу на нізінку, дзе мы і заўважылі касмічны карабель рускіх.

І, калі ўжо селі на адзін з пагоркаў, перакаваліся, што выйсці з карабля адразу не зможам. На планеце быў моцны радыяцыйны фон. Трэба было зрабіць замеры радыяцыі, а да таго паміж пагоркамі былі такія яміны, што ні прайсці, ні пераскочыць, а мы ж, калі выйдзем, будзем абцяжараныя скафандрамі і герметычным адзеннем. Заставалася адно: скарыстаць для выхаду паветраныя шлюпкі. Але рускія нас апярэдзілі. Мы яшчэ не вырашылі, хто застанецца на караблі, а хто паляціць да іх, як іхні невялікі лятальны апарат ужо закружыў над намі. І неўзабаве, даволі ўдала стыкаваўшыся з нашым зоркалётам, яны ўвайшлі ў наш утульны хол, дзе і адбылося наша знаёмства.

Іх было трое: Павел, Андрэй і Васіль — два пілотыастранаўты і навуковец-даследчык, які, як аказалася, быў яшчэ і выдатным вынаходнікам. Маю на ўвазе Паўла, ад якога я і атрымаў у падарунак мабільнік. Ён чамусьці падарыў яго менавіта мне.

— Цяпер у вас адновіцца сувязь з Зямлёю, — сказаў Павел, перадаючы мабільны тэлефон. — Адрамантаваць свае сігнальныя сістэмы вы наўрад ці зможаце. У вас на гэтай планеце не шмат часу. Па-першае, тут усё засыпана солямі ўранавай кіслаты, а па-другое, навошта прымушаць пакутаваць жывую істоту?! Невядома, як доўга вытрымае зоркалёт яе панцыр.

Пасля гэтых яго слоў увесь наш экіпаж быў у шоку: якая жывая істота?! Які панцыр?! І рускія астранаўты нам патлумачылі, што гэта — планета чарапах. Але з-за моцнага радыяцыйнага фону адбылася мутацыя, і ўсе тыя пагоркі, якія мы пабачылі на паверхні, не што іншае, як агромністыя чарапахі, такіх памераў, што і ўявіць цяжка. На адну з іх мы і пасадзілі свой зоркалёт. Пачуўшы такое, нам усім стала зразумела, што трэба рыхтавацца да адлёту, каб як мага хутчэй

выслабаніць чарапаху ад шматтоннай вагі нашага зоркалёта. Але адкуль тут радыяцыя? Вынік выбуху зоркі, ці штосьці іншае?

— Вось гэта мы і высвятляем, — сказаў адзін з рускіх пілотаў-астранаўтаў. — Сюды, на гэтую планету, мы прылятаем ужо другі раз. Першы раз толькі даследавалі, а цяпер прыляцелі з грузапад’ ёмнікамі.

— Для чаго? — не адразу скеміў я. І другі рускі пілот патлумачыў:

— У гэтай планеты ёсць спадарожнік, вы маглі яго бачыць на сваім шляху. Паспрабуем хаця б палову чарапах перавезці туды.

— Дык мы вам дапаможам, — жыва адгукнуўся наш камандзір.

— Не, — запярэчыў Павел і на момант задумаўся. — У нас тут спецдоследы. Калі першы раз прыляталі сюды, тое-сёе знайшлі цікавае. Магчыма, часткова прыадкрыем загадку Вялікага сусветнага выбуху, але для гэтага тут давядзецца правесці дзясяткі і дзясяткі гадоў.

У яго голасе мы чулі сум. І пачувалі сябе не лепшым чынам: дзясяткі гадоў на планеце, засыпанай солямі ўранавай кіслаты! Гэта не жартачкі. А Павел праз невялікую паўзу яшчэ раз паўтарыў сваё катэгарычнае «не» і дадаў:

— Вам трэба ляцець адсюль.

Мы сапраўды неўзабаве пакінулі тую планету. Таму што, як толькі звязаліся з Зямлёю, адразу атрымалі прапанову ад Асацыяцыі міжзоркавых палётаў даследаваць планету, спрэс усланую снежным покрывам. Перад намі стаяла пытанне: што пад снегам? І як ні дзіўна, пад снегам не было нічога. Гэта быў гіганцкі снежны камяк, які абарачаўся вакол свайго Свяціла і нават меў спадарожніка. А тым часам у нас на зоркалёце здарылася дзіва. У адсеку, дзе жыў камандзір,

з'явілася шэсць маленькіх чарапашак. Яны вылупіліся з яец, адкладзеных у адсеку, безумоўна ж, на планеце чарапах. Але як гэта ўдалося зрабіць, мяркую, той агромністай чарапасе, на якую мы там пасадзілі свой зоркалёт?! Ніхто з нас на гэтае пытанне не мог даць пэўнага адказу, і доктар Савіч у рэшце рэшт сказаў:

— А якая розніца, як гэта ёй удалося? Галоўнае: зрабіла! І цяпер чарапашкі разам з намі ляцяць на Зямлю. Калі вы ўсе не супраць, я іх забяру з сабою. Ля маёй сядзібы ёсць балотца... Хай там жывуць.

Па нашым вяртанні на Зямлю ўсё так і адбылося. Да гэтага часу пераважна ў паўднёвай частцы Беларусі ля сажалак ды завадзяў рэчак, дзе спакойная вада, жывуць чарапахі. І называюць іх балотнымі.

## АРЦЁМ ВЯРТАЕЦЦА

— Мне вельмі шкада чарапах, што засталіся на той планеце, — сказала Натка, як толькі я скончыў свой расповед, і запытальна паглядзела на мяне. — А можа ўсё-ткі не палову, а ўсіх іх вывезлі на спадарожнік той планеты?

— Не ведаю, Ната, — я развёў рукамі, і тут жа адгукнуўся Алік:

— Мне таксама шкада чарапах, але, напэўна, час падумаць і пра Арцёма. Думаю, ужо гадзіна прайшла.

Я зірнуў на гадзіннік, у нас яшчэ было хвілін восем, але я падышоў да камп'ютара. Чамусьці выцягнуў з CD-ROMа дыск, пакруціў яго ў руках... І міжволі перад вачамі ўсплыла самотная высокая постаць у доўгім чорным плашчы. І згадаліся словы зялёнага Дрэйка, якія ён прамовіў на Шэрай Непрыветлівасці, калі мы сядзелі разам на каменным выступе:

«Я разам з сынамі прылятаў сюды шмат разоў, пакуль, нарэшце, не вырашылі абраць яе для жыцця. Праўда, перад гэтым доўга вагаліся. Ёсць яшчэ адзін варыянт». Цяпер стала зразумелым, што пад гэтым варыянтам ён меў на ўвазе. Безумоўна, тэлепартацыю, як ён сказаў, абласакар! У іншы свет. У тую самую пячору, што з'явілася тут на дысплеі, да тых людзей, апранутых у шкуры дзікіх звяроў. І што ж іх стрымала? Зялёны колер скуры, ці штось іншае?! Гэта ж было не толькі перамяшчэнне ў часе, а, можна сказаць, касмічны палёт з адной планеты ў глыбокае мінулае другой, у яе пячорнае стагоддзе. І тут я ўвесь скалануўся, як жа я раней не дадумаўся?! Арцём, безумоўна, перамясціўся ў тую пячору. Тое, што здалося кадрамі нейкага фільма, было ні чым іншым, як месцам, куды адбылося перамяшчэнне. Ён у мінулым! Але чаму я думаю, што гэта мінулае менавіта зямной цывілізацыі? А можа, гэтая пячора калісьці знаходзілася там, на Пурнасе, які мы назвалі Гусляром? Можа, гэта адзін з самых ранніх перыядаў жыцця на той планеце? Мне стала горача. Не хацелася разважаць далей і я адкінуў ад сябе ўсе думкі. Хутка ўставіў дыск у CD-ROM і ўключыў камп'ютар. І ў той жа момант на дысплеі паплылі кадры...

— Глядзіце! Глядзіце, там Арцём! — закрычала Натка.

Мы сапраўды пабачылі Арцёма. Ён стаяў ля груваскага драўлянага стала, за якім сядзела надзвычай расхваляваная жанчына ў шкуры, перакінутай цераз плячо, і штосьці здымаў з рукі той жанчыны.

— Што ён робіць? — Алік запытальна паглядзеў на мяне.

— Ды свой гадзіннік з яе рукі здымае, хіба не бачыш? — адказала Ната і працягнула. — У пячоры

толькі Арцём, жанчына і барадаты дзядзька. А дзе ж дзяўчынка і хлопец з доўгімі валасамі? Куды падзеліся яны?

— Ты ў Арцёма потым пра гэта запытаешся, — пачуўся голас Аліка.

А на экране тым часам Арцём зашпільваў бранзалетку гадзінніка на сваёй руцэ. І барадаты мужчына, сагнуўшыся, тыцкаў пальцам у земляную падлогу пячоры недалёка ад выхаду з яе.

— Глядзіце, глядзіце! Дзядзька, напэўна, паказвае Арцёму тое месца, куды ён апусціўся, як толькі адбылося перамяшчэнне. Арцём атрымаў нашу SMS-ку! — І Натка радасна запляскала ў ладкі. — Вунь, вунь Арцём ідзе туды!

Я глядзеў, як Арцём ішоў да таго месца, на якое паказваў яму барадаты мужчына, і думаў, дзе ж гэта ўсё адбываецца? Зямля гэта ці ўсё ж Пурнас? Там жа была не толькі зялёная, а і белая раса. Я адвёў позірк ад Арцёма, пачаў уважліва разглядваць пячору і пабачыў ступу. Самую сапраўдную ступу — старажытную прыладу для апрацоўкі зерня на крупы. Амаль такую ж калісьці, даўно-даўно, у сваім дзяцінстве я бачыў у этнаграфічным музеі ў Мінску. Ступа, трошкі больш за метр вышынёю, зробленая з кавалка тоўстага ствала дуба ці граба, стаяла ў зацемненым кутку пячоры. У яе былі ўваткнуты два таўкачы.

Мне згадаўся Пурнас. На імгненне ў памяці аднавілася паверхня тых двух мацерыкоў, дзе мы бачылі жалезабетонныя высокія дамы-вежы, пляцоўкі для пасадкі лятальных апаратаў ля іх і мноства-мноства скульптур... Згадаліся і пурнасцы, так нечакана для сябе ў думках я назваў жыхароў Пурнаса, але хоць бы дзе мы пабачылі жытнёвае поле! Там не было палёў. Значыцца, не магло быць і ступы. «Не, гэта, мабыць,

усё-ткі Зямля», — зрабіў я выснову. Значыцца, ужо тады, калі нашы далёкія прашчуры яшчэ былі апрануты ў шкуры, у іх ужо была ступа. Вялікае вынаходніцтва таго часу! А вунь, каля ступы, і саж — плеценая з лазы ёмістасць для захоўвання мяса. У ім у старажытнасці нярэдка прасушвалі сыры, трымалі грыбы, зёлкі. Саж я таксама бачыў у этнаграфічным музеі, а цяпер бачу яго вунь там, у пячоры. Ён запоўнены нейкімі сухімі раслінамі. Мае думкі перапыніў Натчын крык:

— Не спрацавала! Глядзіце, не спрацавала! Вас падмануў зялёны Дрэйк! Арцём стаіць на тым месцы, якое паказаў яму барадаты дзядзька, і нічога не адбываецца!

Я міжволі ўздыхнуў. Арцём сапраўды стаяў на тым месцы, куды з хвіліну таму назад тыцкаў пальцам барадач. А Ната ледзь не плакала:

— Мы яго не выцягнем! Арцём застанецца там назаўсёды!

— Ціпшэй, ціпшэй, не хвалюйся, — пачаў супакойваць я дзяўчынку а сам напружана глядзеў на экран камп’ютара. Вось з-за стала паднялася жанчына, кінулася да барадача і замахала перад ім рукамі. Было падобна, што яны спрачаюцца. Потым яна скіравалася ледзь не да самага выхаду з пячоры і там падняла з земляной падлогі нейкую трэску, пачала размахваць ёю, звяртаючыся, відавочна, да Арцёма і паказваючы на тое месца, дзе ляжала трэска. Арцём кіўнуў галавою, маўляў я ўсё зразумеў, і пайшоў да таго месца, куды цяпер ужо рукою паказвала жанчына. І як толькі ён стаў туды, вакол яго адразу ж з’явілася зіхатлівае зялёнае кола. Барадач і жанчына адбегліся ў кут, да ступы, а з зіхоткага кола пачаў вытыркацца зялёны прамень. Спачатку замаруджана, быццам штосьці на-

мацваў, да нечага прымерваўся, а потым вытыркнуўся імкліва, як джала, і ўваткнуўся ў Арцёма. У тое ж імгненне дысплей пагас...

— Вось і тады рыхтык гэтак усё было, мільгалі кадры, усё роўна як фільм які, — нібыта нечага баючыся, ледзь не шэптам прамовіў Алік, які да гэтага моманту ўвесь час маўчаў не адрываючы позірку ад экрана. — Вось... Вось, глядзіце!.. З'яўляецца шланг!

На дысплеі сапраўды з'явіўся скручаны зялёны шланг. Адзін з яго канцоў варухнуўся, ён нагадваў жывую істоту і тут жа вытыркнуўся з дысплея. Да мяне данеслася перапуджанае Натчына: «Ах!» А шланг пачаў хутка раскручвацца, нібыта рулетка. І вось ужо ён захістаўся ў пакоі на ўсю сваю даўжыню ад сцяны да сцяны. Потым у нейкі момант знерухомеў і... выштурхнуў, бы выплюнуў, з сябе Арцёма. Проста на падлогу да маіх ног. У тое ж імгненне ён пачаў скручвацца, быццам хтосьці хутка ўцягваў яго назад у дысплей. І вось ужо толькі зялёная кропачка, згасаючы, замільгала на дысплеі. І, як толькі яна зусім згасла, камп'ютар адключыўся.

Натка, Алік і я, як зачараваныя, глядзелі на экран камп'ютара, а тым часам Арцём падняўся з падлогі. Ён пазіраў то на мяне, то на Аліка, то на Натку, нарэшце, пасміхнуўся, быццам з ім нічога такога і не здаралася, і сказаў:

— А вы здорава прыдумалі з SMSкай!

Тут Ната і Алік кінуліся да Арцёма, сціснулі яго ў сваіх абдымках. Дзяўчынка, наогул, павіснула ў яго на шыі, а я, як толькі сустрэўся з ім позіркам, адчуваючы, як спадае нервовае напружанне, папрасіў:

— Ну, цяпер, Арцём, сядай і расказвай...

## ПРА ЛЯНКА, КУДЛУ І ІНШЫХ

*(Са слоў Арцёма)*

Ён пачаў свой расповед з таго моманту, калі зялёны шланг памкнуўся да яго, і ён адчуў, як да рукі даткнулася штосьці прыемна-цёплае...

— Было такое ўражанне, што я на імгненне заснуў, — сказаў Арцём. — А калі прачнуўся і расплюшчыў вочы, дык замест свайго пакоя, Наткі і Аліка пабачыў пячору, тую самую, што з'явілася на дысплеі, калі я ўставіў у CD-ROM дыск і ўключыў камп'ютар. І людзі ў ёй былі тыя ж самыя, апранутыя ў шкуры, хоць адзеннем гэта было назваць цяжка. Нейкія акраўкі матляліся. Я бачыў, што ўсе яны вельмі перапуджаныя. Баяліся зірнуць у мой бок, а жанчына ўвогуле стаяла адвернутая да сцяны і хутка-хутка прамаўляла: «У цябе, лячэ, воўчая галава, аклочаная барада, саламянае чэрава, канапляныя ногі. Згінь! Згінь! Згінь!» І праз невялікую паўзу яна ціха запыталася:

— Ён згінуў, Янук?

Арцём зразумеў, што словы адрасаваліся барадатаму мужчыну, які стаяў і ўвесь тросся.

— Я ў цябе пытаюся, Янук, ён згінуў?

— Мяне карачун скандрычыў, — адказаў Янук. — А ён не-а, не згінуў. Ён сядзіць. На чалавека вельмі падобны.

— Я сапраўды сядзеў на халоднай земляной падлозе, — працягваў Арцём. — Хацеў было падняцца, ды не ведаў, што будзе далей, і проста разглядваў людзей у шкурах. Дзіўна, але я зусім не баяўся, нават хацелася засмяяцца. Сапраўды, было вельмі смешна, калі жанчына падышла да мяне і ўтаропіўшыся, спачатку з боязззю, а потым нават ваяўніча, запыталася:

— Ты — хлеўнік[1]? Малако ў маёй каровы ссеш, а я думала, яго вужака высмоктвае.

— Не, Кудлачка, гэта не хлеўнік, — адазваўся мужчына. — Ён не з хлява. Гэта, напэўна, пячурнік[2]. З коміна вываліўся.

— З кооміна?! Яшчэ што напрыдумляйце, — запярэчыў хлопец з доўгімі валасамі, які трымаў за руку дзяўчынку. — Ён з зялёнага промня зваліўся, вы ж самі гэта добра бачылі. Да чаго комін? Тут яшчэ вакол яго пляма зялёная свяцілася.

— Значыцца, паветрык[3]! У-у, — гнеўна паглядзела на Арцёма жанчына. — Ты навошта ўчора, калі навальніца была, снапы на нашым палетку параскідаў?! Не Пярун жа гэта зрабіў. А цяпер, во-о, і ў хату ўлез, шкоду тут ужо чыніць будзеш! — Жанчына заплюшчыла вочы і хутка-хутка пачала зноў шаптаць замову. — У цябе, лячэ, воўчая галава, аклочаная барада, саламянае чэрава, канапляныя ногі. Згінь! Згінь! Згінь.

Арцём слухаў жанчыну і думаў, як яму быць. Пачаць ім усім расказваць, што з ім адбылася вялікая неверагоднасць? Што ён не хлеўнік, не пячурнік і не паветрык, а звычайны падлетак, які трапіў да іх, у гэтую пячору з далёкай будучыні? Праўда, сам не ведае, як гэта атрымалася?! Але, напэўна, яны не зразумеюць яго. Застаецца проста сядзець і назіраць за ўсім, што адбываецца, а калі раптам спатрэбіцца, — дзейнічаць, сыходзячы з абставін. У пячоры было душна і ён зняў сваю куртачку. І ў тое ж імгненне жанчына адскочыла ад яго, закрычала:

---

[1] Міфалагічная істота.
[2] Таксама.
[3] Таксама.

– Янук! Янук! Хадзі, сюды, хутчэй... Глядзі, вунь на руцэ ў яго вока Люцыпара[1].

Янук падышоў да жанчыны, яго вочы акругліліся, як толькі ён зірнуў на Арцёмаў наручны гадзіннік.

– В-вока! Ага-а... вока! – пацвердзіў ён.

І тут да жанчыны кінулася дзяўчынка, прыціснулася да яе, зашаптала:

– Мамачка, у мяне ногі трасуцца. Пойдзем да старой Паланеі, хай з воскам ляк вылье.

– Я табе сама яго мякішам хлебным выкачаю, ды не цяпер жа! – Жанчына адштурхнула ад сябе дзяўчынку, на імгненне задумалася, зірнула на Арцёма і павярнулася да Янука. – Ён сам адсюль не сыдзе, для нечага ж Люцыпар сваё вока сюды прыслаў?! Трэба ісці да Паланеі.

– Ага-а, да ведзьмы пойдзеш, дык можаш і не вярнуцца! Сурокаў нашле, – адгукнуўся Янук.

– Я залашчу яе, зёлак занясу, а яна няхай нячысціка ад нас выведзе, – жанчына зноў паглядзела на Арцёма. – У-у, чурылка[2], – замахнулася на яго. – Ведзьма з табою разбярэцца!

– Гэта, напэўна, кладнік[3], – адазваўся хлопец. – Калі кветку папараці на Купалле хто знаходзіць, дык зямля ў тым месцы пачынае свяціцца, скарбы ў сваіх нетрах паказвае. І нячысцікі вакол скачуць, каб першымі скарб ухапіць. Вакол яго таксама ўсё свяцілася, пляма зялёная была, ага-а? Пад тваім долам скарб, цётка Кудла.

– Для каго Кудла, а для цябе – Агата! Стой тут! – і жанчына тут жа загадала. – Янук, вынось саж у двор,

[1] Люцыпар – галоўны нячысцік.
[2] Міфалагічная істота.
[3] Міфалагічная істота.

зёлак для Паланеі адбяру. Там у мяне разрыў-трава ёсць, і баркун, і расакіля, і блёкат. Бяры саж, а я ў стойла да жывёлы зайду, гляну, ці шкоды не нарабілася. Гэты, — кіўнула на Арцёма, — псоту на яе мог наслаць, — і жанчына выйшла. За ёю рушыла і дзяўчынка. Янук падаўся ўглыб пячоры да ступы, туды, дзе стаяў саж з зёлкамі. У гэты момант Арцём падняўся з долу і падышоў да хлопца, які адразу ж закрычаў:

— Не падыходзь да мяне! Не падыходзь, нячысцік!

Янук, які ўжо было падхапіў саж, каб несці, прысеў за ступаю, а Арцём сказаў хлопцу:

— Ну які ж я нячысцік! Ці ж ты не бачыш? На мне проста адзенне іншае, таму што я не адсюль. Выгляд інакшы. Я з другога часу. Паміж гэтаю пячораю і горадам, дзе я жыў дасюль, безумоўна, тысячы і тысячы гадоў, але табе гэтага не зразумець, як бы я не тлумачыў. Мяне не трэба баяцца, я такі ж самы, як і ты, — і тут Арцёму стала вельмі самотна. Ён паспеў ужо добра ўсвядоміць сваё становішча і не бачыў ніякага выйсця, як яму вярнуцца назад, у сваю мінскую кватэру, пра што і сказаў. — Я ніколі не змагу вярнуцца ў свой час, давядзецца застацца тут назаўсёды. Я хацеў бы з табою пасябраваць. А каб мне не быць белаю варонаю сярод вас, знайдзі мне такую ж шкуру. Гэта ўсё, што на мне, я скіну.

— Дзе я табе шкуру знайду, звера трэба забіць, — і хлопец абвёў позіркам сцены пячоры, потым зірнуў на Арцёма. — Для мяне ты ўсё роўна нячысцік, а гэта — не пячора. Жытло з бярвення складзена. У пячорах прадзеды нашы жылі.

Арцём ужо і сам бачыў, што сцены складзены з бярвення, праўда, гэта нічога не мяняла. Пабудова ўсё роўна нагадвала пячору, але не гэта хвалявала яго цяпер.

— Ты бачыў, як я апынуўся тут? — запытаўся ён у хлопца.

— Бачыў. З промня зялёнага злез, людзі на такое няздатныя. «Хм-м, зялёны прамень, — падумаў Арцём. — А там жа, дома, у маім пакоі з дысплея вытыркнуўся зялёны шланг... Ніякага промня не было», — і тут жа адагнаў ад сябе гэтыя думкі, сказаў хлопцу:

— Ну чым я табе магу даказаць, што я не дух, не нячысцік! Мова ў нас з табою аднолькавая. Мы разумеем адно аднаго. Ты... Ты — мой далёкі прашчур. Я сапраўдны чалавек.

— Кудла! Кудлачка! — пачулася з дальняга кутка, з-за ступы. І адтуль выбег Янук. Ён падскочыў да Арцёма і схапіў яго за руку. — Дык ты чалавечай пароды? Ты проста нетутэйшы, не з нашага краю! — і адразу ж звярнуўся да Кудлы, якая ўжо з'явілася на крык у пячоры. — Кудлачка, ён — не паветрык! Ён — чужаніца. Шкуру для сябе прасіў.

— Сказаў, адкуль?

— Не, яшчэ не сказаў, але скажа. Кудлачка, скажа.

Кудла падышла да Арцёма, уважліва паглядзела на гадзіннік на яго руцэ, запыталася:

— Вока гэтае, а лепш сказаць, бяльмо, чаго на руцэ яно?

— Гэта не вока, а звычайны гадзіннік, чалавецтва ішло шляхам прагрэсу, — і тут жа спахапіўся, трэба патлумачыць неяк прасцей, але як? І ён не знайшоў нічога іншага, як паўтарыць па складах. — Га-дзін-нік... Га-дзін-нік... Ён час адмервае. — Потым нечакана для самога сябе зняў гадзіннік з рукі, працягнуў яго Кудле. — Прыгожая рэч, можаце пачапіць яго сабе на руку. Будзе як упрыгажэнне.

Кудла запытальна паглядзела на Янука, трошкі павагалася і нясмела працягнула руку:

— Сам пачапі.

І калі Арцём пачапіў ёй на руку гадзіннік, яна пачала хутка абмацваць Арцёма ўсяго — ад пятак да галавы. Намацала ў кішэні лёгкай Арцёмавай курткі мабільнік і запытальна паглядзела на яго, маўляў, што гэта там у цябе? Арцём хутка засунуў руку ў кішэню. Яму не хацелася паказваць мабільнік, каб зноў не напалохаць іх.

Пакуль Кудла абмацвала Арцёма, Янук хадзіў вакол яго, уважліва разглядваючы, нарэшце спыніўся:

— Ён зубтэльны[1] надта, малалетні яшчэ. Да працы не здатны будзе. На ловы[2] хадзіць не зможа, звер задзярэ яго.

— Галдоўнікам[3] сваім ужо яго палічылі, — адазваўся хлопец, які ўсё стаяў і стаяў на адным і тым жа месцы, — быццам і не бачылі, як ён тут з'явіўся. Не пешшу ж прыйшоў, ляк выганялі.

І Кудла, і Янук на некалькі крокаў адышлі ад Арцёма. Ён бачыў, што яны зноў пазіраюць на яго з недаверам і сказаў:

— Я таксама спалохаўся, калі нада мною завіс зялёны шланг, — і тут жа зразумеў, што сказаў нешта не тое.

Невядома, як бы далей павялі сябе Кудла і Янук, калі б не з'явілася дзяўчынка, якую Арцём ужо бачыў у пячоры. Яна спынілася ля ўваходу, кіўнула галавой:

— Там дзядзька з селішча, што за лесам, прыйшоў. Нехта мусіць да яго выйсці. Ён двух зайцоў прынёс, памяняць іх на крупы хоча.

---

[1] Слабы, далікатны. — Пераклад са старабеларускай мовы.
[2] Паляванне. — Пераклад са старабеларускай мовы.
[3] Падданым. — Пераклад са старабеларускай мовы.

— Мала ў нас крупаў, — буркнуў Янук. — Не памяняем.

— І ўсё ж два зайцы, падумай, не абы-што, а мяса! — разважыла Кудла. — Хай заходзіць. Мо на штосьь іншае памяняць пагодзіцца.

— А гэтыя? Яны не для чужога вока, — Янук кіўнуў на Арцёма і хлопца з доўгімі валасамі. — Што з імі рабіць? Так тут і будуць стаяць?!

— Не, не будуць. Вядома, не будуць, — Кудла на імгненне задумалася і загадала Януку: — Ты іх у камору завядзі, а я да чалавека выйду...

І потым, калі яны ўжо сядзелі ў цёмнай каморы, Арцём з роспаччу думаў пра безвыходнасць свайго становішча. З ім ужо аднойчы здаралася штосьці падобнае. Калі разам з Алікам яны паехалі на касмадром за Раўбічы, каб паглядзець на Вуха, прывезенае з сузор'я Шаляў. Тады яны ўзялі ды і ўлезлі ў тое Вуха і нечакана для сябе апынуліся ў старажытным Вавілоне — цудоўным горадзе Бабілу! І ўсё ж там у іх была надзея, што яны вернуцца назад, у свой час, таму што за гарадскімі сценамі ў гарачых пясках ляжала тое самае Вуха, праз якое яны і насамрэч вярнуліся ў Мінск, на касмадром за Раўбічамі. А тут выключна іншы выпадак. Ніякага спадзявання на вяртанне ў яго не было. Заставалася адно: сядзець у гэтай цёмнай каморы, дзе цяжка было што-небудзь разгледзець. Але ён чуў, як хлопец, якога Янук прывёў сюды разам з ім, штосьці, відавочна, перацягвае з месца на месца. Відаць, адгароджваецца ад яго, і ён запытаўся ў хлопца:

— Ты ўсё яшчэ не верыш, што я не нячысцік? Добра, не вер, гэта твая справа. Але хаця б скажы, як цябе завуць? Я — Арцём, а якое ў цябе імя?

Хлопец перастаў цягнуць штосьці цяжкое і праз невялікую паўзу адказаў:

— Каб ты быў нячысцікам, дык імя маё ведаў бы. Відаць, усё ж не нячысцік. Лён я, але найчасцей мяне называюць Лянком.

— Ну і імя ж табе далі, — здзівіўся Арцём. — Там, у тым часе, адкуль я тут з'явіўся, лён расце на палетках. Расліна такая, з якой тканіну вырабляюць. Потым з гэтай тканіны шыюць адзенне.

— Што ты сказаў?! Ты ведаеш расліну, з якой можна вырабіць адзенне?!

І штосьці загрукацела, пападала долу. Гэта Лянок пераскочыў праз сваю барыкаду і ўмомант апынуўся ля Арцёма.

— Скажы яшчэ раз! Там, у тваім часе ёсць такая расліна?!

— Чаго ты так расхваляваўся? Я ж сказаў, з лёну вырабляюць тканіну... А ў цябе імя — Лён. У нас там такіх імёнаў няма, але ёсць такая расліна.

Хлопец хутка сеў побач з Арцёмам, пагладзіў калматую поўсць шкуры, якою быў абкручаны, потым сказаў:

— Гэта ваўчыная шкура, новая зусім. А ў Дамінічкі, ты ж бачыў яе, яна — дачка Кудлы, шкура старая, дзіравая. Я пасмяяўся з гэтага, і Кудла разгневалася. Паабяцала, што галдоўнікам мяне сваім зробіць, калі я расліны такой не знайду, з якой можна было б адзенне вырабіць. У нашым селішчы Кудле ніхто не пярэчыць. Я сапраўды стану галдоўнікам. Няма тут у нас такой расліны, а Кудла кажа, што павінна быць. Жыта — корміць, зёлкі — лечаць, значыцца, і апранацца з расліны павінны, каб не хадзіць у шкурах.

Арцём слухаў Лянка і са шкадаваннем думаў: каб жа ён ведаў, што з ім здарыцца такое, што аднойчы ён апынецца ў гэтай цёмнай каморы ў немаведама якім стагоддзі, ён бы там, у Мінску, насіў бы ў сваіх кішэ-

нях насенне лёну і цяпер бы аддаў яго Лянку. І якраз у гэты момант Арцём міжволі ўздрыгнуў: ён пачуў, што мабільнік прыняў сігнал. І гэта не прымроілася, хоць у такое і цяжка было паверыць. Як? Якім чынам з будучыні ў глыбіню стагоддзяў магло прабіцца чыёсьці паведамленне?! Ён выхапіў мабільнік з кішэні і прачытаў SMSку і ўжо не мог стрымаць сваёй радасці.

— Мяне адсюль выцягнуць! Мяне выцягнуць! — крычаў Арцём.

А Лянок надзвычай спалохаўся. Разам з тым з цікавасцю пазіраў на мабільнік. І Арцём патлумачыў яму:

— Гэта мабільны тэлефон. Прылада для сувязі. Тут, у вас, калі трэба звязацца з кімсьці з суседняга селішча, ганца туды пасылаюць, праўда? Ці самі ідуць. А ў нас там па тэлефоне звязваюцца. Вось бачыш, са мною звязаліся сябры. SMSку мне прыслалі, іншымі словамі, паведамленне, — і тут жа задумаўся, а ці вызначыць дакладна ён сам тое месца, куды перамясціўся? Здаецца, сядзеў пасярэдзіне пячоры? Але ён можа і памыляцца, тое памяшканне было даволі вялікім і цемнаватым. І Арцём запытаўся ў Лянка:

— Ты добра памятаеш месца, куды я злез, як ты сказаў, з зялёнага промня? Толькі адтуль я змагу вярнуцца назад. Пакажаш мне яго?

І Лянок адказаў адразу:

— Паказаў бы! Усё адбылося недалёка ад уваходу ў жытло. Але ж мы тут можам праседзець немаведама колькі часу. Можа, пра нас і забыліся ўжо.

— Дык мы зараз пастукаем у сцяну, тут жа дошкі. Нас пачуюць, — сказаў Арцём і падняўся. Яму хацелася як мага хутчэй выйсці з каморы.

— Чакай, сядзь, — папрасіў Лянок. — Спачатку раскажы мне пра тую расліну, з якой вырабляецца адзен-

не. Можа, яна і ў нас тут ёсць, толькі ніхто пра гэта не ведае, што яна расліна не простая.

Арцём сеў, задумаўся і міжволі пашкадаваў, што сам ніколі не бачыў ільну на палетках, ён — дзіця горада, асфальту і бетону. Толькі ў кніжках даводзілася чытаць пра лён. І ён расказаў Лянку тое, што ведаў.

— Расліна высакаватая, думаю, мне па лытку будзе. Лісце дробненькае. Кветкі таксама дробныя, блакітнага колеру. Калі лён зацвітае, у нас там кажуць, што нібыта мора наўкол разліваецца.

— Раслін з блакітнымі кветкамі ў нас тут многа, — уздыхнуў Лянок. — Як дазнаюся, што гэта менавіта тая расліна?

У гэты момант за невялікімі дзверцамі пачуліся крокі. Арцём і Лянок міжволі сцішыліся. Дзверцы расчыніліся, і ў камору зазірнуў Янук.

— Гэ-эй, чужаніца, выходзь хутчэй! — гучна загадаў ён. — А ты, Лён, заставайся ў каморы. З табою Кудла пасля разбірацца будзе.

— Ідзі, — падштурхнуў Арцёма Лянок. — Помні пра месца, яно недалёка ад уваходу.

І Арцём у адказ дакрануўся да яго пляча. Гэта было знакам развітання.

— Ты нас падмануў, — сказаў Янук, як толькі Арцём выйшаў з каморы. — Кудла думала, што чапляеш ёй на руку ўпрыгажэнне. А гэта штосьці іншае, яно жывое. Зараз сам усё пабачыш.

Яны прайшлі праз нейкі завалены розным рыззём закутак і выйшлі ў тое прасторнае памяшканне, куды перамясціўся Арцём са сваёй мінскай кватэры. Кудла сядзела за сталом, руку з гадзіннікам трымала на адлегласці і, як толькі пабачыла Арцёма, ускочыла, затрэсла рукою, закрычала:

— Здымай хутчэй! Здымай! Яно жывое, там нешта рухаецца! «Стрэлак спалохалася», — здагадаўся Арцём, і яму адразу падумалася, што ён можа скарыстаць гэтую сітуацыю, таму і сказаў Кудле:

— Я здыму, але спачатку хай ён, — паглядзеў на Янука, — пакажа мне тое месца, куды я апусціўся з зялёнага промня.

— Ён пакажа, — запэўніла Кудла і тут жа загадала. — Янук, пакажы! А ты здымай, хутчэй здымай! Яно рухаецца, і рухаецца ў сярэдзіне бяльма гэтага!

Кудла з бояззю пазірала на гадзіннік. Янук адышоў бліжэй да выхаду з пячоры, паўглядаўся ў падлогу потым сказаў:

— Ты спачатку непрытомны ляжаў, потым сеў, — і зараз жа запытаўся з хітрынкаю ў позірку: — А для чаго табе трэба гэтае месца ведаць?

Арцём ужо зняў гадзіннік з рукі Кудлы, пачапіў яго на сваю руку і цяпер уважліва сачыў за Януком. Гэтае пытанне міжволі насцярожыла яго: «А раптам возьме і не пакажа тое месца?» І тут прыйшла нечаканая думка, якую Арцём і выказаў услых:

— Мне хочацца расказаць вам, адкуль я з'явіўся і, увогуле, хто я такі. Ды пакуль быў непрытомны, штосьці здарылася з маёй памяццю. Я пра ўсё забыўся. Але, як толькі стану на тое месца, дзе страціў прытомнасць, адразу ўсё ўспомню.

— Хадзі сюды, — сказаў Янук. — Вось тут ты ляжаў.

І Арцём пайшоў, але як толькі стаў туды, куды паказваў Янук, зразумеў што гэта не тое месца. Гэта пацвердзіла і Кудла. Яна замахала рукамі, закрычала:

— Не туды! Не туды паказаў! Вочы табе засляпіла. Ён ляжаў вунь там, каля трэскі!

Арцём назіраў, як яна кінулася да выхаду з пячоры і недалёка ад яго спынілася, падхапіла трэску, паказала ёю:

— Ідзі сюды, станавіся тут, дзе яна ляжала. Мо і праўда прыйдзеш да памяці.

Арцём зрабіў крок, другі, трэці і адчуў, як яго ахутвае цяпло. Потым ён пабачыў зіхоткае зялёнае кола вакол сябе, якое пачало звужацца. Яму здалося, што ён трапіў у паветраны вір, штосьці ўцягвала, бы ўсмоктвала яго ў сябе. І тут імкліва з кола вытыркнуўся зялёны прамень. Арцём адчуў як да яго даткнулася штосьці прыемна-цёплае — і ўсё... Больш ён нічога не памятаў.

У пакоі ўсталявалася цішыня. Арцём зірнуў на мяне і ў яго вачах я прачытаў пытанне: «Што ж такое са мною адбылося? Патлумачце мне гэтую неверагодна-фантастычную з'яву».

— Усё добра, Арцём, — сказаў я. — Цікавыя рэчы ты тут нам расказаў, але галоўнае, што ты — дома! Табе трэба цяпер як след адпачыць, а пазней мы пагаворым пра гэтае тваё падарожжа ў часе. Я сёе-тое ў цябе яшчэ ўдакладню, перапытаю і мы разам усё асэнсуем.

— А што асэнсоўваць? Я быў у нашым далёкім мінулым, — і ў голасе Арцёма чулася расчараванасць. Ён, напэўна, чакаў ад мяне іншых слоў.

— Ага-а, з табою здарыўся абласакар, — сказаў Алік і яго вочы ззялі вялікай цікаўнасцю. Яму, відавочна, пра нешта хацелася распытаць у Арцёма. А той у сваю чаргу запытаўся:

— Як ты сказаў? Абласакар?

— З мовы зялёнага Дрэйка — тэлепартацыя, — патлумачыла Натка. — Ты перамясціўся з адной прасторы ў іншую.

– Хіба я сам пра гэта не ведаю?! Лепш скажы, хто такі зялёны Дрэйк?

І ўсе трое паглядзелі на мяне. Я адчуў, што быў ужо сярод іх лішнім. Не расказваць жа цяпер яшчэ раз пра зялёнага Дрэйка? Хай пра яго ён пачуе ад сяброў. Таму я і сказаў Арцёму:

– Табе пра зялёнага Дрэйка раскажуць Алік і Ната. Яны шмат пачулі ад мяне пра яго. А я зараз звяжуся з доктарам Савічам. Ён ужо з гадзіну шле мне SMSку за SMSкай. Мне ж хацелася даслухаць цябе да канца, не перапыняючы.

І я набраў нумар доктара Савіча, які імгненна адгукнуўся, і голас яго быў надзвычай узрушаны.

– Тэрмінова прыязджай да мяне! Не паверыш, у мяне ўсё атрымалася з Мымам. Яго другое аблічча сцерлася, знікла! Ён цяпер амаль зямны хлопчык.

Мне сапраўды ў гэта не паверылася. На нейкі момант я ўявіў тое, другое, жахлівае Мымава аблічча, поўнае агрэсіі. Хм-м, сцерлася? Не намаляванае ж яно было! І, даслухаўшы доктара да канца, паабяцаў сёння ж быць у яго.

Арцём, Алік і Натка ўжо пра нешта шапталіся паміж сабою і я паспяшаўся развітацца. Мне карцела хутчэй сустрэцца з доктарам Савічам, але не пра Мыма я думаў. Хацелася як мага хутчэй расказаць яму пра ўсё, што адбылося з Арцёмам. І, магчыма, нават заўтра ж пра гэтае яго падарожжа ў мінулае паведаміць у нашу Асацыяцыю міжзоркавых палётаў. Гэта ж грандыёзная сенсацыя!

Быў ужо позні вечар, але як толькі я апынуўся ў сваёй кватэры, адразу ж выклікаў паветранае таксі, каб ужо праз нейкую гадзіну сустрэцца з доктарам Савічам на яго сядзібе пад Мінскам.

Праўда, паспеў яшчэ звязацца з саксонцам. Ганс ужо збіраўся пакінуць Месяц. З'явіліся на Зямлі нейкія тэрміновыя справы, і яго пагадзіліся ўзяць на свой зоркалёт шведы, якія адляталі на Зямлю. У нейкі момант саксонец спахапіўся:

— Ты, напэўна, хочаш пачуць пра бортмеханіка? Загадкавая асоба! Яму аднаму ўдалося скантактавацца з эльфамі. Гэта быў іхні карабель, як і тая талерачка, што падняла яго. Пра эльфаў я пачуў ад бортмеханіка. Яны перадалі яму ў знак прыязнасці напаўдрэвападобную папараць. Ён у сваю чаргу перадаў яе табе. Атрымаеш у падарунак чыставуста каралеўскага.

Эльфы!? Чыставуст каралеўскі!? Як гэта ўсё разумець? У мяне ўзнікла шмат пытанняў. І калі Ганс коратка адказаў на іх, я быў у вялікім недаўменні. Усё пачутае здавалася самаю сапраўднаю казкаю, а саксонец сказаў на развітанне:

— Шкада, што на Зямлі ў тое, пра што ты пачуў, ніхто не паверыць. Гэтага не пацвердзяць нават тыя з зямлян, хто, як і я, апынуўся тут, на Месяцы, на гэтым чужым касмічным аб'екце. Але адраўнелую папараць я вязу, ты яе атрымаеш!..

І я сапраўды праз некаторы час атрымаў яе, але цяпер распавяду пра іншае.

## ЦУДОЎНЫ, АМАЛЬ ЗЯМНЫ ХЛОПЧЫК

Доктар Савіч ужо чакаў мяне. Я яшчэ не паспеў разлічыцца з таксістам, як ён ужо падхапіў маю дарожную сумку і зашаптаў мне на вуха:

— Абавязкова скажы Мыму, што ён цудоўны! Дарэчы, гэта мы назвалі яго Мымам. А ён на самой справе не Мым, а Мыквік.

І вось ужо мы ідзём з доктарам па амаль начной лугавіне. Ногі ахутвае лёгкі туман, а вочы цешаць яркаасветленыя вокны доктаравай двухпавярховай будыніны, настолькі старой, што яна ўжо даўно глядзіцца сапраўдным рарытэтам. Хочацца хутчэй адчуць яе цяпло, але ў нейкае імгненне я насцярожыўся. На ганку мільгануў нечы лёгкі цень, зарыпелі і зачыніліся дзверы...

— Бельгійцы праз некалькі тыдняў ляцяць да Вегі, ты ведаеш? — нечакана сказаў доктар. — Гэта ж трэба, колькі было памылковых гіпотэз! Стагоддзі чалавецтва думала, што вакол Вегі толькі пачынаецца працэс фарміравання планетнай сістэмы. А сістэма даўно сфарміравалася. Абалонка вакол яе нішто іншае, як ланцужок планет і астэроідаў. Не пяць, не дзесяць, а сапраўднае скопішча!

— Гэта ж, здаецца, дзесьці адтуль саксонец прывёз Мыма, — зазначыў я.

— Не Мыма, а Мыквіка, я ж табе сказаў. Буду прасіць бельгійцаў, каб узялі яго з сабою. А раптам хлопец патрапіць на сваю планету?!

Я запытальна паглядзеў на доктара. Хм-м, хлопец! Ганс, помніцца, пра яго сказаў: «Экзэмпляр незямнога жыцця!» Але ўслых я прамовіў зусім іншае:

— Як ты з ім паразумеўся?

— Праз камп’ютар. Аказалася, што ў сусветным слоўніку ёсць і яго мова. Ён нашчадак вельмі старажытнай іншапланетнай цывілізацыі. — Доктар хутка ўзбег на ганак і, адчыняючы дзверы, гукнуў: — Мыквік!

І як толькі Мым, дакладней Мыквік, выйшаў да нас, я не мог не адзначыць, што выраз ягонага твару стаў яшчэ больш прыязным. Вочы ззялі цікаўнасцю і такой цеплынёй, што мне адразу ж згадалася

просьба доктара сказаць яму штосьці прыемнае, што я і зрабіў.

— О-о, які цудоўны, амаль зямны хлопчык! А мы ўжо, здаецца, знаёмыя. Ты пазнаў мяне?

Безумоўна ж, Мыквік нічога не зразумеў з маіх слоў, ва ўсякім выпадку так я думаў, але інтанацыю майго голасу ён, відаць, дакладна ўлавіў, таму што засаромеўся, як дзяўчынка, нават пачырванеў і, апусціўшы галаву, адвярнуўся. Я, напэўна, быў бы менш здзіўлены, калі б раптам пабачыў перад сабою тут, на доктаравай сядзібе, зялёнага Дрэйка. Майму здзіўленню не было межаў. Я не пабачыў другога аблічча Мыквіка, поўнага ваяўнічасці і нечалавечага гневу. Яно, сапраўды, як раней і сказаў доктар, нібыта сцерлася. Замест жудаснага аблічча былі доўгія пышныя валасы, сабраныя ў хвосцік. «А можа, гэта звычайны парык, — мільганула думка, — і пад ім хаваецца тое не для чалавечых вачэй аблічча?»

— Ты пераканаўся? — звярнуўся да мяне Савіч. — Амаль цудоўны зямны хлопчык! — і кіўнуў Мыквіку. — Наш батанік з табою прывітаўся, і цяпер ты ідзі да сябе наверх. А мы з батанікам трошкі яшчэ пасядзім каля тэлевізара...

І калі мы ўвайшлі ў гасцёўню, Мыквік адразу ж пакінуў нас, нейкім чынам зразумеўшы тое, што яму сказаў доктар, а мы селі да тэлевізара, дзе ўсё яшчэ з кароткімі перапынкамі ішла трансляцыя з Месяца.

— Дзесьці там і наш саксонец, — доктар прапанаваў мне каву і падсунуў бліжэй да мяне сваё крэсла. — Ты з ім ужо звязаўся?

— Вядома, але хопіць, Савіч, — абарваў я яго. — Не хітруй, у Мыквіка на галаве парык?

Доктар пакруціў галавою, хмыкнуў:

— Аднак ты мяне здзіўляеш! Ён жа не зямны, а амаль зямны хлопчык! У яго энергетыка незямная.

Аднойчы ён зрабіў такія высілкі, такое намаганне, што парушыў свой генетычны склад, сваю генетычную схему. А цяпер... Цяпер толькі тое і зрабіў, што аднавіў яе.

«А ці ўсё добра з доктарам Савічам?» — міжволі падумаў я, але ўслых сказаў яму іншае:

— Наколькі я зразумеў, пры нейкіх абставінах Мыквік змог парушыць сваю генетыку і ў яго ззаду на галаве з'явілася жудаснае аблічча, дык ён свой генетычны склад можа парушыць яшчэ раз. І да нас з твайго другога паверха спусціцца не цудоўны, амаль зямны хлопчык, а, скажам, дыназаўр!

— Ты кепска жартуеш, Сымон, — сказаў доктар Савіч. — Ты ўжо чуў, што ён належыць да вельмі старажытнай іншапланетнай цывілізацыі. Я магу табе расказаць, што з ім здарылася там, у сістэме зоркі Вегі, адкуль яго прывёз саксонец.

Мне засталося толькі кіўнуць галавой у знак згоды, маўляў, расказвай, і тое, што я пачуў, захапіла і ўразіла мяне.

Планета, на якой жыў Мыквік, існавала мільярды і мільярды гадоў, пакуль, нарэшце, не здарылася тое, што можа здарыцца з планетай у любой зоркавай сістэме. Яе прыродныя рэсурсы вычарпаліся, жыць на ёй стала цяжка, і пачаўся пошук іншага месца для жыцця. Ён працягваўся датуль, пакуль жыхары той планеты не натрапілі на астэроід, у нетрах якога было шмат нафты. З гэтым радасным паведамленнем на планету вярнулася першая экспедыцыя, а вось другую напаткала няўдача. На караблі, які трымаў курс да таго астэроіда, распаўсюдзілася невядомая касмічная інфекцыя. Члены экіпажа пачалі гінуць адзін за адным, і ніякага паратунку не знаходзілася. Лекі, што былі на караблі, не дапамагалі. І калі нарэшце ён быў

пасаджаны на паверхню астэроіда, на ім заставаўся цяжка хворы пілот і Мыквік. Ён быў сынам пілота. І праз колькі часу яму давялося пахаваць бацьку.

— У Мыквіка было безнадзейнае становішча, — доктар ужо з паўгадзіны вёў свой расповед, і я не перапыняў яго. — Але яно стала яшчэ больш пакутлівым, калі высветлілася, што на астэроідзе Мыквік не адзін. Яго насялялі пачвары — гнюсныя лысыя карлікі, якія жылі ў глыбокіх норах і пакідалі іх толькі дзеля таго, каб паздзекавацца з Мыквіка, ведаючы, што заступіцца за яго няма каму. Яны цікавалі за ім і накідваліся звычайна ззаду, чапляючыся за доўгія валасы, сабраныя ў хвосцік, які, напэўна, больш за ўсё цікавіў і раздражняў іх. Карлікі ж былі лысыя! Ад іх немагчыма было схавацца і падсцерагалі яны яго на кожным кроку. Бараніцца Мыквік нічым не мог. Ён быў адзін, а карлікаў было мноства! І вось аднойчы, калі трываць ужо было немагчыма, калі нахабныя карлікі сталі нападаць гуртом, дзясяткамі, чапляючыся за хвосцік, пры гэтым раздзіраючы скуру плячэй, шыі, галавы, у Мыквіка і з'явілася ззаду на галаве тое жудаснае аблічча. Зло спарадзіла зло.

— Штосьці ад саксонца я нічога не чуў пра карлікаў, — сказаў я і паспрабаваў уявіць самотнага Мыквіка на тым астэроідзе, што стаў для яго, напэўна, самым жахлівым месцам ва ўсім Сусвеце.

— А Ганс іх і не мог бачыць. Яны, вядома ж, не вылазілі са сваіх нораў, не паказваліся на вочы прышэльцам, адчуваючы перавагу ў сіле. А Мыквік узрадаваўся іншапланетнаму караблю, які стаў для яго выратаваннем. — І доктар Савіч задаволена заўсміхаўся. — Я, відаць, някепскі доктар, ва ўсякім выпадку, доктар-псіхолаг. Мімікай, рухамі рук змог пераканаць Мыквіка, што на Зямлі яму нічога не пагражае, і ён

пазбавіўся ад цяпер ужо непатрэбнага яму аблічча. Вось такая гісторыя цудоўнага, амаль зямнога хлопчыка! – Доктар выключыў тэлевізар, дзе ўжо даўно скончылася трансляцыя з Месяца і экран стракацеў рэкламай. Зірнуў на мяне, пазяхнуўшы. – Як ты наконт адпачынку? Падобна, світае. Дарэчы, а што там саксонец? Калі збіраецца на Зямлю?

– Хутка, – адказаў я. – Ён са шведамі, магчыма, ужо стартаваў. Слухай, доктар, як даўно ты ўспамінаў зялёнага Дрэйка?

– Дрэйка? – доктар на імгненне задумаўся, быццам аднаўляў у памяці высокую худую постаць у чорным плашчы. Потым запытаўся. – А чаго гэта раптам ты згадаў пурнасца?

– Ведаеш, той кампакт-дыск, які ён перадаў мне, рэч вельмі і вельмі няпростая!

І я пачаў расказваць доктару Савічу ўсё, што здарылася з Арцёмам. Ужо сонца даўно асвяціла лугавіну ля доктаравай сядзібы і некалькі разоў спускаўся да нас Мыквік і тут жа паднімаўся назад на другі паверх, а я ўсё расказваў і расказваў... Мы забыліся на ўсё. Было, што доктар перапыняў мяне, і тады мне даводзілася штосьці ўдакладняць, але нарэшце я дайшоў да таго моманту, калі Арцём зноў апынуўся ў сваёй мінскай кватэры, і бачыў, што доктар ледзь стрымлівае хваляванне. Ён ужо даўно падняўся з крэсла і то падыходзіў да акна, слухаючы мяне, то праходжваўся туды-сюды па гасцёўні. Я зрабіў паўзу, і доктар спыніўся ля мяне.

– Дай сюды, пакажы мне дыск! – яго перапаўняла нецярплівасць. – Нам трэба зараз жа паехаць у Асацыяцыю. Хай збіраюць навукоўцаў, прэсу! Не марудзь, хутчэй паказвай!

Я, напэўна, у той момант выглядаў ідыётам. Дыск... Дыск... Ён там! Ён застаўся ў Арцёма. Мне хацелася

як мага хутчэй сюды, да доктара, каб распавесці пра ўсё, што здарылася, і я забыўся пра галоўнае: узяць з сабою дыск! Але доктару адказаў вельмі спакойна:

— Яго няма ў мяне. Я не ўзяў яго. Ён у Арцёма.

— Ты ненармальны! — Савіч схапіўся за галаву. — Ды яму цаны няма. Чалавецтва адразу ўступіць у новую эру! Зараз жа едзем... — І доктар раптам асекся. — Не-е, што гэта я? Ты паедзеш адзін. Возьмеш маю машыну, каб туды і адразу назад. А я... Я не магу пакінуць Мыквіка аднаго. Ён можа наш такі раптоўны ад'езд вытлумачыць па-свойму.

— Ага-а, раззлуецца... І ў яго зноў з'явіцца тое жахлівае аблічча!

— Не да месца жартуеш, Сымон, — у голасе доктара ўжо не было ранейшай узбуджанасці. — Збірайся. Праз некалькі хвілін я падганю да ганка машыну, — і доктар Савіч пакінуў мяне аднаго ў гасцёўні.

«І чаго ён так расхваляваўся? — думаў я. — Што можа здарыцца з дыскам? Арцём пасля ўсяго, што з ім адбылося, можа, яшчэ дасюль прыходзіць у сябе альбо адсыпаецца, як гэта бывае пасля моцнага стрэсу». Я надзіва быў спакойны ў тую хвіліну, але, як паказалі далейшыя падзеі, мне трэба было трывожыцца.

## НАСЕННЕ ЛЁНУ ДЛЯ ЛЯНКА

Ужо хвілін дваццаць я стаяў ля дзвярэй Арцёмавай кватэры і раз-пораз націскаў на кнопку званка. Міжволі пачаў нервавацца: быў бы Арцём дома, ужо даўно адчыніў бы. Можа, з Алікам паехалі на касмадром за Раўбічы?! Яны любілі распытваць астранаўтаў, якія вярталіся з далёкіх падарожжаў, і тыя ахвотна расказвалі ім пра свае палёты. «Не, на касмадром наўрад

ці яны паехалі, — думаў я, — у маршрутным раскладзе на сёння няма прызямлення. А раптам? Раптам падлеткі ўзялі дыск і пайшлі да каго-небудзь з сяброў, каб прадэманстраваць, якім дзівам яны валодаюць?» Ад гэтай думкі стала горача. Я яшчэ раз націснуў на кнопку званка, і тут дзверы адчыніліся. Я пабачыў перад сабою Натку Яна відавочна стушавалася, адвяла позірк, быццам знячэўку яе заспелі за чымсьці непрыглядным.

— А-а? Гэта вы? Арцём і казаў, што можаце заехаць.

— А дзе ён сам?

Замест адказу дзяўчынка запрасіла мяне прайсці ў кватэру, дзе ў Арцёмавым пакоі я пабачыў Аліка. Ён стаяў ля акварыума і карміў залатых рыбак. На маё прывітанне адказаў, не паднімаючы вачэй, і выгляд у яго быў збянтэжаны.

— Ну дык дзе ж Арцём? — я павярнуўся да Наты, якая паспела ўжо сесці на канапу і штосьці засяроджана адкалупвала пальцам з маленькай скураной падушачкі, што ляжала на канапе.

— Вы, напэўна, прыйшлі, каб забраць дыск, — нарэшце сказала дзяўчынка, але позірку не падняла. — Давядзецца пачакаць. Вы сядайце, — і, зірнуўшы на Аліка, дадала: — Арцём сёння раніцай купіў насенне лёну. Здаецца, ажно цэлы кілаграм.

І я пра ўсё здагадаўся: Арцём — зноў у той пячоры, у мінулым. Ён вырашыў скарыстаць дыск, цяпер ужо наўмысна, каб перадаць насенне лёну Лянку. Які адчайны ўчынак! А раптам штосьці не спрацуе? Гэты дыск — вынаходніцтва чужога незямнога розуму і толькі той, чужы незямны розум, усё ведае пра яго. Тут не проста рызыка, гэта — небяспека!

— Ды вы не хвалюйцеся, — Ната быццам прачытала мае думкі. — Усё было, як і ў мінулы раз: тая ж пячо-

ра, тыя ж самыя людзі ў шкурах. У нас дамоўленасць з Арцёмам. Ён ужо з паўгадзіны там. Праз гадзіну нам трэба ўстаўляць дыск у CD-ROM.

— А?.. А?.. А?.. — у маёй галаве круцілася шмат пытанняў. — А вы не падумалі пра тое, што абласакар, ну... тэлепартацыя можа быць абмежаванай. Скажам, туды і назад, а потым — толькі туды!

Алік перастаў карміць рыбак. Я бачыў, што ён захваляваўся, але голасам гэтага не паказаў:

— Мы пра гэта не падумалі, і вы не думайце. Арцёму і SMSку не трэба пасылаць. Ён узяў з сабою крэйду, каб дакладна пазначыць тое месца, куды апусціцца.

— А яшчэ ліхтарык[1] узяў, — бадзёра дадала да Алікавых слоў Натка, але на яе твары чыталася трывога. — Ліхтарык ён хоча падарыць Лянку. А калі раптам там здарыцца штосьці небяспечнае, ён яшчэ і газавы балончык з сабою прыхапіў. Будзе бараніцца.

«Ага-а, у стагоддзе, дзе яшчэ не скінулі шкуры, з газавым балончыкам, — думаў я. — Што заўгодна там можа адбыцца!» І я сеў побач з Наткай. Алік таксама падышоў да нас, апусціўся ў крэсла, што стаяла побач з канапай, і сказаў:

— Гэта была Арцёмава ідэя: з будучыні перадаць насенне ў мінулае. І ён гэта зробіць, калі цяпер лён называецца імем таго, каму Арцём хоча перадаць насенне. Таго ж хлопца ў шкуры з доўгімі валасамі звалі Лянок.

---

[1] Некалькі гадоў таму назад археолагі пры раскопках адной са стаянак першабытных людзей сярод рэчаў хатняга ўжытку знайшлі выключна незразумелую рэч, якая чымсьці нагадвала сучасны ліхтарык. Тая рэч засталася загадкай. А раптам гэта і на самай справе быў ліхтарык, які Арцём падарыў Лянку?!

— Ну, канечне ж, — сказаў я. — Арцём перадасць насенне, калі ўжо ён перамясціўся туды, у тую пячору, але, каб з лёну вырабіць тканіну, трэба ведаць, як яго апрацоўваць. Існуе спецыяльная тэхналогія.

— Не хвалюйцеся, — Натка падхапілася з канапы, хутка падышла да стала і зашамацела нейкімі паперамі, раскладзенымі на ім. — Вось глядзіце, Арцём усё прадугледзеў. — Яна ўзяла ў рукі аркуш, амаль ватман, і пачала чытаць. — Валакно гэтай расліны служыла асноўнай сыравінай для вырабу тканін. Для атрымання валакна саломку лёну рассцілалі на лузе, альбо на пожні, звычайна ў канцы жніўня ў час вялікіх рос. Потым яе замочвалі, сушылі, мялі церніцай, трапалі траплом, часалі грэбенем. Атрыманую кудзелю пралі пры дапамозе прасніцы і верацяна ці на калаўроце. — Натка паглядзела на мяне, маўляў, ну што, чулі? І сказала. — Гэта ўсё Арцём выпісаў з этнаграфічнай энцыклапедыі. Ксеракопію ўзяў з сабою, будзе Лянку ўсё гэта тлумачыць. Тут на стале і шмат самых розных чарцяжоў ляжыць. Зірніце...

«Вось дык Арцём! — думаў я. — І калі толькі паспеў збегаць у бібліятэку! Наўрад ці ў яго дома была этнаграфічная энцыклапедыя. Пасля наведвання Зямлі-2 ён толькі і жыў марамі пра падарожжы да далёкіх планет, а тут аказваецца, што веданне этнаграфіі роднага краю справа далёка не апошняя. Цікава, што ж там за чарцяжы ў яго?!» І я падняўся з канапы, падышоў да стала, узяў у рукі адзін аркуш паперы, другі... І міжволі ацаніў Арцёмавы стараннi. З цікавасцю разглядаў кросны з падрабязным апісаннем бёрдаў, нітоў, асновы, панажоў... Тут жа былі чарцяжы, апісанне і малюнкі церніцы, трапла, грэбеня, верацяна. І ўсё было зроблена надзвычай дэталёва. Я міжволі згадаў ступу, якую пабачыў у тым жытле, калі ўчора пачалі

мільгаць кадры на дысплеі, перад з'яўленнем зялёнага шланга. Несумненна, там, у тым далёкім мінулым стагоддзі ёсць майстры. І калі яны змаглі зрабіць ступу, то яны змайструюць і кросны, і церніцу, маючы наглядныя дапаможнікі, якія Арцём перадасць Лянку. Напэўна, перадаў ужо! І я зірнуў на гадзіннік. Алік заўважыў гэты мой позірк і заспакоіў:

— Не бойцеся, яшчэ Арцёма выцягваць рана. Я сачу за гадзіннікам.

— І я таксама сачу, — адгукнулася Ната. — Ён яшчэ будзе там цэлых трыццаць пяць хвілін. — І тут жа звярнулася да мяне, складваючы аркушы паперы на стале ў роўненькі стосік. — Можа, вас гарбатай пачаставаць?

І, калі я адмовіўся ад гарбаты, Алік згадаў Ганса Мюлера.

— Вы да яго датэлефанаваліся на Месяц?

— Яшчэ ўчора, — адказаў я і дадаў: — Вы надзвычай цікавую трансляцыю з Месяца прапусцілі. Там усё абышлося, ніякай пасткі для зямлян не было.

— А што было? — адразу ж пацікавілася Натка. — Саксонец вам, напэўна, штосьці расказваў.

І я зразумеў, што давядзецца расказаць падлеткам тое, што я пачуў ад саксонца. Адно, ці павераць яны ў праўдзівасць майго расповеду?

## ЧЫСТАВУСТ КАРАЛЕЎСКІ

Тое, пра што я пачаў расказваць, канечне ж, са слоў саксонца, адбылося на зусім маленечкай планеце і, напэўна, у нашай галактыцы, мяркуючы па тым, што невядомы касмічны карабель зрабіў пасадку на Месяцы.

На той планеце было ўсяго толькі адно каралеўства — з жыхарамі і, вядома, з каралём. У караля была дачка — прынцэса прыгажосці незвычайнай, але наколькі яна была прыгожай, настолькі і зласлівай, з халодным сэрцам і не надта вялікага розуму. Прынцэсе ўсё было не даспадобы і толькі на маладога рэферэнта караля яна звяртала сваю ўвагу. Больш таго, захаплялася ім. Ён валодаў аратарскім майстэрствам, яго гаворка была поўная далікатных і ўзвышаных слоў, таму кароль толькі яму аднаму даручаў зачытваць ягоныя загады і распараджэнні, і нават рабіць прамовы ад яго імя. І ён гэта рабіў настолькі бездакорна, вытанчана і пераканаўча, што ўсе называлі яго Чыставустам каралеўскім, а сапраўднага яго імя ніхто і не ведаў.

Жыхары той планеты былі істотамі вельмі разумнымі. Іхнія таленты і працавітасць дазволілі ім пабудаваць цудоўныя гарады і ва ўсім дасягнуць такога росквіту, калі жыццё здаецца нічым іншым, як раем. Кароль таго каралеўства вельмі любіў на сваім зоркалёце вандраваць па шматлікіх касмічных трасах, а прынцэса любіла слухаць Чыставуста. І паколькі яна сама ўжывала пераважна грубыя, нетактоўныя словы, падчас размоў з ім яна найчасцей маўчала. У яе выглядзе з'яўлялася штосьці накшталт мілай сарамлівасці, той сціпласці і цнатлівасці, якія надзвычай падабаюцца маладым людзям. Рэферэнт лічыў яе анёлам, што спусціўся з вышыняў Сусвету, каб дарыць яму хвіліны замілавання і шчасця.

Пра гэтую захопленасць Чыставуста прынцэсай шмат хто ведаў у каралеўстве. Толькі не маглі зразумець, як ён не бачыць, што яна зусім не такая, якой прыкідваецца. Таму аднойчы, калі прынцэса ў каралеўскім садзе накінулася на садоўніка з жахлівым крыкам з-за таго, што ён не паспеў падстрыгчы кусты

нейкіх дзівосных кветак пад яе акном, хтосьці з акружэння караля сказаў Чыставусту:

— Ты абагаўляеш прынцэсу, ты лічыш яе чароўнай маўклівіцай, трапятлівай маўчухай, але ты памыляешся. Выйдзі ў сад і ты пабачыш, якая яна на самой справе.

І малады рэферэнт — Чыставуст каралеўскі выйшаў у сад...

Магчыма, ён быў надзвычай уражлівы, а, можа, быў і сапраўды вельмі і вельмі закаханы ў прынцэсу таму што, як толькі ён пачуў тыя словы, якія зляталі з яе вуснаў, ён... ён у адно імгненне адзеравянеў. Яго прыродная вытанчанасць, відаць, не дазволіла яму стаць магутным дрэвам, і ён стаў адраўнелай папараццю. Пасля гэтых слоў я зрабіў паўзу, і Натка адразу ж запыталася:

— Ну, а што прынцэса?

— А як ты думаеш, Ната? Пасля ўсяго, што здарылася, яна ўзненавідзела выключна ўсё, што расло на той планеце. А яшчэ і звяроў, і птушак, таму што нават птушкі пераставалі спяваць, калі надаралася ім чуць Чыставуста каралеўскага.

Мой адказ не ўразіў дзяўчынку, больш таго, яна скептычна пасміхнулася і сказала:

— Я так і думала, што прынцэса ўсё ўзненавідзіць. Ваш расповед — самая сапраўдная казка, вельмі падобная да зямных. Нічога касмічнага ў ёй няма. У саксонца, відаць, на Месяцы было шмат вольнага часу і ён гэта ўсё прыдумаў

— Э-э, не скажы, — запярэчыў я. — Ты даслухай да канца. — І я павёў далей свой расповед.

Тая планета была маленькая, але на ёй можна было шмат чаму падзівіцца. Справа ў тым, што паралельна з жыхарамі планеты на ёй жылі эльфы — вельмі жыццярадасныя, добразычлівыя да ўсяго духі прыроды. І ў іх таксама, як і ў жыхароў той планеты, было там

сваё каралеўства, свае паветраныя гарады і самыя сапраўдныя зоркалёты.

Эльфы бачылі, як прынцэса стала глуміцца над дрэвамі і над кустамі, — яна ламала, здзірала з іх кару, секла іх і найбольш здзекавалася з Чыставуста каралеўскага. Адраўнелая папараць пачала засыхаць. А яшчэ прынцэса паўсюдна ставіла пасткі на звяроў і на птушак. Іх усё менела і менела. Сэрцы эльфаў проста разрываліся ад жалю. Усё, што было іхнім чароўным светам, гінула на вачах. І яны вырашылі ўратаваць гэты свой свет, вывезці дрэвы і кусты, а таксама звяроў і птушак на нейкую іншую планету. Што яны і зрабілі. Яны загрузілі ўсё, што ім было дарага, у зоркалёт, вядома, і Чыставуста каралеўскага таксама. І адны эльфы паляцелі ў зоркалёце ў напрамку Месяца, каб там зрабіць часовую пасадку, а другія ў больш лёгкай талерачцы пачалі расшукваць у Галактыцы найбольш прыдатную планету для свайго далейшага жыцця. І, напэўна, знайшлі, таму што прыляцелі на Месяц, паднялі свой груваскі зоркалёт,стыкаваліся з ім і ўсё, што там было, перамясцілі на талерачку. А зоркалёт пакінулі. Ён для іх быў, напэўна, залішне вялікім.

— Чаму вы не адказваеце? — пасля гэтых маіх слоў запытаўся Алік. — У вас жа проста разрываецца мабільнік!

Ён сапраўды разрываўся, і гэта быў доктар Савіч. Напэўна, яму карцела хутчэй дазнацца, ці забраў я ў Арцёма дыск? А што я мог адказаць яму? Тое, што Арцём зноў у мінулым і я чакаю, каб ужо праз некалькі хвілін выцягнуць яго адтуль? Сказаць такое — значыцца прымусіць доктара хваляваццa! Не-е, трэба сказаць, што дыск ужо ў мяне. Але ж пры падлетках такога не скажаш, і я вырашыў выйсці ў суседні пакой.

— Я на хвілінку, — сказаў Аліку і Натцы. — Гэта доктар Савіч. У нас важная размова.

І ўжо там, у другім пакоі, набраў доктараў нумар і адразу ж заспакоіў яго:

— Я яшчэ ў Арцёма, але хутка буду выязджаць. Дыск у мяне!

У доктара змяніўся голас і ён радасна паведаміў, што да яго прыехаў Антон, наш камандзір, каб паглядзець на Мыквіка, таму што, як і я, не паверыў, што яго жахлівае аблічча знікла. А яшчэ Антон сказаў доктару, што карпарацыя з Жодзіна[1] па вытворчасці зоркалётаў прапанавала нашай Асацыяцыі ажно тры новенькія караблі, і адзін з іх збіраюцца перадаць нам.

— Рыхтуйся да чарговага падарожжа, — сказаў доктар Савіч. — Думаю, дзесьці праз нейкіх паўгода зможам на суперталерцы паляцець да Вегі. Цяпер пераконваю Антона, што трэба, нарэшце, і нам, беларусам, пазнаёміцца з тым мноствам планет...

У гэты момант у суседнім пакоі пачуўся трывожны Натчын крык: «Арцём! Арцём!» І я паспяшаўся развітацца з доктарам Савічам. І як толькі — не ўвайшоў, а літаральна ўбег у Арцёмаў пакой, пабачыў, што Арцём сядзіць на падлозе. Ён увесь скурчыўся, ці то ад перапуду, ці то ад болю, але пабачыў мяне і заўсміхаўся. Мне здалося, што цераз сілу.

— Стукнуўся каленам аб падлогу, — сказаў ён. — Шланг выкінуў мяне на шафу і я адразу ж зваліўся з яе.

Я бачыў, што Арцём расцірае калена, і кінуўся да яго, аднак паспеў заўважыць, што на дысплеі яшчэ свеціцца зялёная іскрынка — ледзь заўважны след ад шланга.

— Мы не сталі вас чакаць, — пачаў тлумачыць Алік. — Ужо трэба было выцягваць Арцёма, і я ўставіў дыск у CD-ROM. І ўсё паўтарылася, як і ў мінулы раз...

---

[1] Цэнтр беларускага машынабудавання пазней спецыялізаваўся па вырабе зоркалётаў.

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але ў гэты момант пачуўся даволі гучны трэск, быццам штосьці надламалася ў камп'ютары, і ў тое ж імгненне на дысплеі з'явілася постаць зялёнага Дрэйка. Мне здалося, што яго позірк працяў мяне, а вочы, што нагадвалі дзве масліны, свяціліся такой глыбінёй, быццам яны ўвабралі ў сябе ўсю неабсяжнасць Сусвету. І зараз жа пачуўся яго голас. Дрэйк прамовіў выключна пяць слоў на сваёй пурнаскай мове і знік з экрана. Камп'ютар сам па сабе адключыўся.

— Вы бачылі! Бачылі? — закрычала Натка. — Гэта быў зялёны Дрэйк?! Ага-а?! Дрэйк?

— Штосьці, напэўна, здарылася з дыскам! — затрывожыўся Алік.

Я падбег да камп'ютара, выцягнуў дыск з CD-ROMa, пакруціў яго ў руках, потым зноў уставіў і ўключыў камп'ютар...

— Што вы робіце?! — Арцём ужо стаяў каля мяне. — Зараз замільгаюць кадры і з дысплея вытыркнецца зялёны шланг!

Але кадры не замільгалі і ніякага зялёнага шланга не з'явілася. Затое зноў у камп'ютары штосьці суха трэснула, пасля чаго на экране вымалевалася постаць зялёнага Дрэйка. Ён прамовіў усё тыя ж пяць слоў на сваёй, невядомай нам мове...

Я стаяў бы аглушаны. Што ўсё гэта можа значыць? І адказ быў толькі адзін: перамясціцца ў іншую прастору з вяртаннем назад можна было толькі два разы. Відаць, пра гэта і паведамляў зялёны Дрэйк, але каму?! Падлеткі стаялі як зачараваныя, пазіралі на камп'ютар, быццам чакалі яшчэ нечага, а я выказаў уголас свае думкі:

— Вось яна і разгадка, чаму Дрэйк і яго сыны не скарысталі магчымасць перамясціцца ў іншае месца. У Дрэйка было два сына, але ў сыноў былі жонкі і дзе-

ці. А абласакар, як гэта ўсё назваў зялёны Дрэйк, быў разлічаны толькі на дваіх.

— І атрымалася, што пашчасціла Арцёму, — быццам падвяла рысу пад усім, што здарылася, Натка. — Ён не толькі перамясціўся ў мінулае, да нашых прашчураў, але яшчэ і перадаў туды насенне лёну.

Арцём зірнуў на мяне, і ў яго позірку была нейкая вінаватасць, маўляў, прымусіў вас хвалявацца! І тут жа ён сказаў, быццам апраўдваўся:

— Калі б я гэтага не зрабіў, магчыма, цяпер у нас на Беларусі і не рос бы лён.

І з ім нельга было не пагадзіцца.

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Доктар Савіч яшчэ доўга запэўніваў мяне, што ў яго было надта вялікае жаданне перанесціся ў мінулае, але што зробіш... І ўсё ж, калі я прыязджаю да яго на сядзібу, я заўжды бяру з сабою дыск, каб разам з доктарам па мажлівасці сесці да камп'ютара... І як толькі на дысплеі з'яўляецца постаць зялёнага Дрэйка, мне пачынае ўяўляцца блакітнае мора квітнеючага лёну. І як шкада, што дзесьці там, на Шэрай Непрыветлівасці, сам Дрэйк, безумоўна ж, нават не здагадваецца, што міжволі з яго дапамогай мы можам бачыць гэты цуд — лён цвіце! І нават выраблять з яго тканіну.

## Прыгоды бульбінкі Адрэты

### ПАЛЁТ НА ЦЭНТАЎРУ

*Адна з сямі планет зоркавай сістэмы а-Цэнтаўра была названа намі Цэнтаўрай...*

З нататніка астранаўта.

## 1

Ужо тры тыдні мы ляцелі да Пояса жыцця. Гэтак яшчэ ў старажытнасці зямляне назвалі арбіту ў зоркавай сістэме а-Цэнтаўра, на якой знаходзіліся тыя сем планет, дзе, безумоўна, было жыццё. Ва ўсякім выпадку, магло быць. Пра гэта сведчылі шматлікія доследы. Туды нават пасылаліся касмічныя экспедыцыі. Але вярталіся на Зямлю яны ні з чым. Планеты хаваліся ў аблоках невядомага паходжання, дзе было зразумела адно: яны своеасаблівы абарончы шчыт. Як толькі караблі падляталі да іх, усе сістэмы кіравання пераставалі працаваць, а астранаўты пачыналі страчваць прытомнасць. Жыццё на караблях паралізавалася. І нічога іншага не заставалася, як вяртацца назад на Зямлю.

Гэтую частку Сусвету нярэдка параўноўвалі з зямным Бермудскім трохкутнікам, але назву арбіты не мянялі. Разумелі, што зрабіць такі абарончы шчыт вакол сваіх планет маглі толькі надзвычай разумныя істоты. На Зямлі з цягам часу яго пачалі называць непраходным Морам Аблокаў. І вось сенсацыя! З беспілотнага лятальнага апарата, які быў пасланы да сістэмы а-Цэнтаўра, атрымалі здымкі, на якіх праглядвалася адна з тых сямі планет, і вакол яе не заўважалася ніякіх аблокаў. Шлях да планеты быў адкрыты. Тады мы, беларусы, і рызыкнулі адправіцца да яе — у адно са сваіх самых працяглых падарожжаў...

## 2

Я сядзеў перад экранам знешняга назірання, дзе высвечваўся кавалак халоднай зоркавай бездані, і раптам у мяне ўсё паплыло перад вачыма... Экран

сам па сабе адключыўся. А я адчуў, як па ўсім целе разлілася такая слабасць, што цяжка было паварушыць рукою. І ўсё ж я змог дацягнуцца да кнопкі ў сцяне адсека, пад якою значыўся немудрагелісты надпіс: доктар Савіч. І ў тое ж імгненне пачуўся голас Антона — нашага камандзіра:

— Доктар Савіч — непрытомны! У яго штосьці накшталт цеплавога ўдару. — І праз кароткую паўзу загадаў: — Усім падключыцца да стымулятараў! Пілота-робата нумар два давялося замяніць. Яго з'ядае невядомы від карозіі. Астрафізік мяркуе, што мы патрапілі ў поле яшчэ не адкрытых таемных касмічных энергій.

Я паспрабаваў падняцца з крэсла і не змог. Нейкая сіла бы прыклеіла мяне да яго. У галаве шумела, скроні пранізваў страшэнны боль, здавалася, вось-вось пачнуць лопацца сасуды мозгу. Раптам я пабачыў перад сабою доктара Савіча. Ён як быццам выплыў з маіх думак, таму што якраз у гэты момант я падумаў пра яго. Паведамленне Антона, што доктар страціў прытомнасць, мяне ўстрывожыла, а цяпер яшчэ больш тое, што ён з'явіўся тут, перада мною — з паветра, з ніадкуль!

— Доктар Савіч, ты мяне напалохаў, — прашаптаў я, і ў маім голасе чуўся калі не перапуд, дык вялікае здзіўленне. Але прывід доктара Савіча як з'явіўся, так і расплыўся ў паветры. У галаве закруцілася думка: «Гэта — трызненне! Я трызню!» І раптам мяне ўсяго скаланула, па целе прабегла сутарга, нейкая сіла падняла мяне ўверх і апусціла назад у крэсла, пасля чаго я адчуў палёгку. Жыццёвыя сілы вярталіся да мяне, і я хутка ўскочыў з крэсла. Падумалася, што трэба зараз жа падключыцца да стымулятараў, але тут зноў пачуўся Антонаў голас:

— Батаніка, лабаранта і астрафізіка тэрмінова прашу да сябе ў адсек. Бортмеханіку загадваю падрыхтаваць зонд для вывучэння паверхні.

«Няўжо мы ўжо знаходзімся над Цэнтаўрай? – мільганула думка, і я зірнуў на экран знешняга назірання. Ён па-ранейшаму быў цёмны. – Ну, што ж? Трэба ісці да Антона!»

І як толькі я выйшаў з адсека ў доўгі вузкі калідор, адразу пабачыў нашага астрафізіка.

– Як ты? – запытаўся ён. – Мы патрапілі ў нейкую касмічную калдобіну. Падлятаем да аднаго са спадарожнікаў Цэнтаўры. Я ўжо бачыў яго на экране ў Антона. Мой не працуе. Самаблакіроўка.

– У мяне тое самае, – махнуў я рукою і пацікавіўся: – Ну а што спадарожнік?

– Па памерах амаль як Цэнтаўра, а па форме – самая сапраўдная бульбіна. Зараз сам пабачыш...

Астрафізік хацеў яшчэ штосьці сказаць, але ў гэты момант карабель трасянуўся ўсім сваім шматтонным корпусам, і мы не ўтрымаліся на нагах – пападалі на падлогу. Чулася, як у адсеках штосьці рушылася, грукацела, звінела. Калі б мы былі ў гэты момант на зямным моры, можна было б падумаць, што пачаўся страшнай сілы ўраган. Але мы былі ў космасе, і тут магло быць адно: катастрофа! Мы церпім катастрофу! Ва ўсякім разе, гэтак думалася мне, і я чакаў, што вось-вось карабель распадзецца на часткі. Яго трэсла, кідала з боку на бок, і мы з астрафізікам лёталі ад сцяны да сцяны.

– Рухаемся па спіралі, ты адчуваеш?! – ледзь не ў самае вуха пракрычаў мне астрафізік, і яго кінула да сцяны. Я тут жа зваліўся на яго, і ён зноў крыкнуў: – Чуеш мяне? Нас зацягнула ў касмічны віхор!

Я чуў астрафізіка, але ў гэты момант яго зноў адкінула ўбок, а на мяне наязджала вялізная скрыня, якая немаведама адкуль узялася ў гэтай частцы карабля. І ў тое ж імгненне я страціў прытомнасць...

Калі апрытомнеў, пазнаў свой адсек. Я ляжаў у раскладзеным крэсле-ложку, і мая рука адчувала цяпло пальцаў доктара Савіча. Ён намацваў мой пульс. А я паглядзеў на экран знешняга назірання. Ён зноў працаваў. І тут я міжволі прыўзняўся... Ад таго, што пабачыў, у мяне перахапіла дыханне. На экране быў гай маладога бярэзніку. І частка паверхні, трэба думаць, таго спадарожніка Цэнтаўры, пра які мне сказаў астрафізік, нагадвала лагчыну, дзе паўсюль ружовым покрывам слаўся верас і зелянела трава ўся ў расе...

— Што з маім экранам?! Доктар Савіч, даражэнькі, я не веру сваім вачам — бярозы, верас, трава... Я быў непрытомны, ага-а? Але нешта такое круцілася ў галаве вельмі цьмяна: узлесак, дрэвы, магчыма, там рос і верас. І вось цяпер яны тут, на экране. Мы ўжо на спадарожніку Цэнтаўры? Слухай, доктар, на ім ёсць жыццё?

— Наконт жыцця не ведаю, — паціснуў плячыма доктар Савіч. — Гуманоідаў ніхто на сваіх экранах не бачыў, а вось раслінны свет ідэнтычны з зямным. Праўда, на паверхню ніхто не спускаўся. А ты яшчэ, бачу, як след не ачуняў. Табе трызняцца бярозы...

— Трызняцца? Ніякага трызнення ў мяне няма!

— Магчыма, магчыма, — усё роўна як сам сабе прамармытаў доктар і тут жа засмяяўся: — На тваім экране — рачулка, Сымон. Яна мне нагадвае Нёманец, на беразе якога я калісьці вырас.

Я не ведаў, што адказваць доктару, хутка падняўся і стаў насупраць экрана, дзе па-ранейшаму трапяталі сваім тонкім веццем бярозы. Павярнуўся да доктара Савіча і нічога не паспеў яму сказаць, таму што дзверы адсека расчыніліся і на парозе з'явіўся Антон.

— О-о, ты, гляджу, ужо ў норме, — звярнуўся ён да мяне. — Трэба ж, якая трасучка была! Дзякуй Богу,

удала селі... Як толькі апусцяцца прыцемкі, зможам паназіраць адсюль за Цэнтаўрай.

— Хто-небудзь будзе спускацца на паверхню? — запытаўся ў Антона доктар Савіч.

— Я спушчуся, вазьму пробы грунту. І вось, чаго я прыйшоў, — Антон паглядзеў на мяне. — Ты казаў, што ўзяў з сабою дзве бульбіны.

— Узяў! — адказаў я. — Іх перад самым нашым адлётам дала мне мая пляменніца. Заехаў да брата развітацца, а яна іх якраз выбрала з каша для нейкага школьнага конкурсу. Бульбіны — во-о, як тры кулакі разам! Такія не часта сустрэнеш. Гатункі розныя: «Адрэта» і «Скарб». Пляменніца папрасіла, каб пасадзіў іх на Цэнтаўры.

— Хм-м, мы яшчэ не ведаем, што нас там чакае, — сказаў Антон. — А тут, на гэтым яе спадарожніку... Мы ўжо зрабілі замеры паветра. Яно нічым не адрозніваецца ад зямнога. І ўвогуле, вунь на тваім экране, якое возера! Выключна наш краявід! Дзе-небудзь паблізу яго і пасаджу твае бульбіны. Сюды, напэўна, нехта прылятае. Мы селі на такую роўненькую пляцоўку і яна тут не адна. Бульба, вядома ж, узыдзе. Там, дзе пасаджу, пакіну дошчачку: «Бульба беларуская. Тут былі беларусы».

Я слухаў Антона, а думкі мае круціліся вакол аднаго: «Ён сказаў, што на маім экране — возера. Я ж бачу на ім бярозавы гай, а доктар Савіч — рачулку, якая нагадвае яму Нёманец. Такога не можа быць, каб кожны з нас бачыў нейкую сваю карцінку. Значыцца... Значыцца, на гэтым спадарожніку Цэнтаўры мы можам сутыкнуцца з самымі рознымі нечаканасцямі».

Мне схацелася спусціцца на яго паверхню, і я сказаў Антону:

— У прынцыпе, я згодны, што бульбіны лепш пасадзіць тут. Але хацелася б гэта зрабіць самому. Усё ж

пляменніца прасіла мяне, я і павінен выканаць яе просьбу.

— А што скажа доктар? — пасміхнуўся Антон. — Ён табе дазволіць выйсці з карабля? — і паглядзеў запытальна на Савіча.

— Дазволіць, дазволіць, — за доктара адказаў я, і Савічу толькі засталося кіўнуць галавой, маўляў, у мяне наконт гэтага ніякіх пярэчанняў няма.

— Тады рыхтуй спецадзенне, — сказаў Антон. — У цябе ёсць адна гадзіна. Нам трэба спусціцца на паверхню да прыцемкаў.

І калі Антон пакінуў адсек, доктар Савіч устрывожана паглядзеў на мяне.

— Ты чуў? — запытаўся ён. — Антон пабачыў на тваім экране возера, а на ім жа толькі невялікая рачулка...

— Ніякай рачулкі, доктар! На ім — бярозавы гай, вось таму я і хачу спусціцца на паверхню. Тут нас могуць падсцерагаць самыя неверагодныя сюрпрызы.

Гэтак яно і здарылася. У чым мы з Антонам пераканаліся, як толькі сышлі з трапа на паверхню спадарожніка Цэнтаўры.

## 3

Антон спускаўся ўніз па трапе першым. Я ішоў следам, ледзь не дыхаючы яму ў патыліцу, і азіраў наваколле чужога свету. Яно добра праглядвалася са сходняў. Наўкол, як зірнуць, ляжала раўніна, дзе ўсімі колерамі вясёлкі стракацелі незнаёмыя кветкі. «Ну, а дзе ж той бярозавы гай, які бачыў я на экране? — само сабою ўзнікала пытанне. — Можа, ён па другі бок карабля?» Я намацаў бульбіны ў кішэні камбінезона і пашкадаваў, што не ўзяў з сабою сцізорыка, каб разрэзаць іх на пала-

вінкі. Тады тут вырасла б не два, а чатыры бульбяныя корчыкі. І мне раптам стала сумна да слёз. «А калі ніхто не прыляціць на гэты спадарожнік Цэнтаўры, што стане з бульбаю?! Але ж, калі нават і прыляціць нехта, ці заўважаць істоты з чужога незямнога свету яе сярод гэтых кветак? Ці здагадаюцца выкапаць?! Божа, якое наіўнае жаданне зямной дзяўчынкі!» Я і сам выглядаў наіўным дзіваком, таму што пагадзіўся яго выканаць. І мне міжволі згадалася пляменніца там, на Зямлі, у Мінску, у братавай кватэры... А тым часам Антон ужо саскочыў на грунт і спыніўся, быццам перад ім была нейкая заслона. Я дакрануўся да яго пляча, маўляў, не замінай мне, адыдзі трошкі ўбок, і ў гэты момант ён кінуўся назад і закрычаў:

— Не сыходзь з трапа, Сымон! Вяртайся назад! Паднімайся на карабель!

Але я ўжо саскочыў са сходняў і... апынуўся ў мінскай братавай кватэры. Мы стаялі з братам у пярэднім пакоі і ён мне паказваў, як трэба правільна завязваць гальштук, што ў мяне ніколі не атрымлівалася. З гасцёўні, дзе нас ужо чакаў стол, застаўлены рознымі стравамі, выглянула братавая.

— Ды кіньце вы гэты гальштук! — сказала яна. — Ужо ўсё даўно астыла. У нас сёння не ўрачыстасць, а развітальная вячэра. Можна сесці за стол і без гальштука!

— Добра, ужо ідзём, — сказаў брат.

І тут са свайго пакоя з'явілася мая васьмігадовая пляменніца Каця. Яна ўзяла мяне за руку і стала цягнуць за сабою.

— За стол паспееце сесці, — зашчабятала яна. — Спачатку зойдзем на кухню. Там у мяне дзве бульбіны: Адрэта і Скарб. Я іх адабрала для паказу на конкурсе гародніны, а цяпер вырашыла, што трэба іх аддаць

табе, дзядзечка Сымон. Возьмеш іх з сабою на Цэнтаўру. Яны там будуць частачкай зямнога жыцця...

І мы пайшлі з ёю на кухню. Там Каця дастала з каша, сплеценага з лазовых дубчыкаў, тыя дзве бульбіны, пра якія казала, і я не стрымаў свайго здзіўлення:

— Ого-о, якія гіганты! На конкурсе гародніны за табою было б першае месца!

У гэты момант падлога на кухні загайдалася, быццам пачаўся моцны землятрус. Кухня раптоўна пашырылася. Яна стала набываць выгляд вялікай залы, запоўненай гледачамі. Невядома адкуль з'явіўся самы сапраўдны подыум, і я пабачыў, як на яго паднялася, о-о, дайце веры, бульбінка ў выглядзе прыгажуні ў шыкоўнай святочнай сукенцы і ў туфліках на высокіх абцасах. І адразу ж з усіх бакоў пачуліся радасныя крыкі:

— Адрэта! Мы любім цябе, Адрэта! Ты — Князёўна бульбянога палетка!

На подыум, да ног бульбінкі паляцелі кветкі, а ў першым радзе з крэсла паднялася яшчэ адна бульбінка. На ёй быў строгі чорны гарнітур, белая кашуля і гальштук-бабачка. І адразу ж Адрэта ўсхвалявана закрычала:

— Скарб! Мой мілы Скарб! Паднімайся да мяне на подыум! І тут я адчуў як чыесьці дужыя рукі абхапілі мяне і быццам выхапілі з гэтай глядзельнай залы. Я зноў пабачыў перад сабою раўніну, усыпаную кветкамі незямнога свету, і зразумеў, што стаю на трапе. Тут жа на сходнях стаялі Антон і астрафізік. На іхніх тварах была вялікая ўзрушанасць.

«Д'ябальшчына нейкая!» — падумаў я, а Антон тузануў мяне за руку, поўны нецярплівасці.

— Што ты там бачыў? Хутчэй кажы, што бачыў? Я паціснуў плячамі і сказаў няўпэўнена:

— Яшчэ раз пабыў у свайго брата на развітальнай вячэры ў Мінску.

— А, калі сыходзіў з трапа, пра што ты думаў? — настойліва пытаўся Антон.

— Якраз пра той вечар і згадваў... Успомніў, як пляменніца давала мне дзве бульбіны, якія мы збіраліся з табою пасадзіць тут.

— Дык ты цяпер разумееш, — Антон ужо звяртаўся да астрафізіка. — Пагібельнае месца... Гэтага ніхто ніколі не зможа вытлумачыць. Але гэта — факт! — Антон паглядзеў на мяне і працягнуў: — Ты яшчэ не здагадаўся?! Тут, на гэтым спадарожніку Цэнтаўры матэрыялізуюцца думкі. Я, калі сыходзіў па сходнях, глядзеў на роўнядзь перад вачыма і думаў: «Вось бы тут дамок які пабудаваць... Штосьці накшталт гатэля для зямлян». І ўявіў залу для адпачынку на Месяцы. У яе і зайшоў, калі саскочыў на паверхню, нават некалькі знаёмых твараў там пабачыў. Добра, што руку з парэнчы не адняў, тут жа назад рынуўся... І цябе своечасова на трап уцягнулі.

— А калі б не ўцягнулі? — запытаўся я.

Антон уздыхнуў, а наш астрафізік сумна пасміхнуўся.

— Твая вячэра ў брата зацягнулася б, — сказаў ён. — І ў нейкі момант ты ўспомніў бы пра наш карабель. І тут жа апынуўся б на ім, але гэта быў бы карабель уяўны. І мы ўсе, члены экіпажа, таксама былі б на ім уяўнымі.

— Акрамя цябе, вядома, — дадаў Антон.

Пасля гэтых яго слоў мы пачалі паднімацца па сходнях трапа на карабель, дзе нас ужо нецярпліва чакалі астатнія астранаўты. У той момант я злавіў сябе на думцы, што ўпершыню ў мяне ў чужым свеце не ўзнікла жаданне азірнуцца...

На караблі мы амаль адразу разышліся па сваіх адсеках. Антон нават не стаў адказваць на пытанні, што ж там з намі адбылося? На хаду сказаў усім: «Рыхтуйцеся

да адлёту!» І гэтая яго фраза прагучала як сігнал небяспекі. Астрафізік таксама не ўдаваўся ў падрабязнасці, абмежаваўся словамі: «Для доўгага расповеду няма часу, а коратка пра ўсё не раскажаш». Я ж увогуле маўчаў. Толькі, калі да мяне падышоў доктар Савіч і запытаўся, калі зайсці ў мой адсек, я прамовіў: «Ды хоць зараз!»

Доктару, напэўна, хацелася як мага хутчэй пачуць, што нас стрымала, з-за чаго мы вярнуліся назад на карабель? А я нечакана пацікавіўся:

— Фіксатар думак у цябе ці ў камандзіра?

Гэтае маё пытанне яго насцярожыла. Ён затрымаў доўгі позірк на маім твары, быццам хацеў прачытаць на ім, што ж такое магло са мной здарыцца: пачынаецца касмічная дэпрэсія ці проста я перажываю моцны стрэс? Потым сказаў:

— Фіксатар у мяне. Я здымаў дэпрэсію ў лабаранта. Навошта ён табе?

І адказаў на гэтае пытанне доктара я ўжо ў сваім адсеку. Але спачатку расказаў яму пра ўсё тое, што адбылося са мной і Антонам там, унізе, калі мы сышлі на паверхню спадарожніка Цэнтаўры. Доктар слухаў мяне ўважліва, але не надта паверыў у мой расповед, бо, як толькі я сказаў яму пра матэрыялізацыю думак, ён адразу запярэчыў:

— Не-не, тут штосьці іншае! Хм-м... Адрэта на подыуме! Ты ж, спадзяюся, не думаў пра гэта? Ды і як мог падумаць пра такое!

— Вядома, не думаў! Але пра подыум магла думаць бульбінка. Яе думкі матэрыялізаваліся і ўклініліся ў маю «карцінку». У яе, напэўна, і цяпер ёсць нейкія думкі. Іх можна зафіксаваць на фіксатары. Ты гэта зробіш, доктар? Ну а потым прапусціш іх праз камп’ютар і выведзеш тэкст: думкі бульбінкі Адрэты. Затым зафіксуеш і выведзеш думкі Скарба...

Доктар Савіч глядзеў на мяне, як на вар'ята.

— Ну ты і сказаў!.. Ха-ха... Бульбінка ўявіла сябе мадэллю! Гэтую казачку раскажаш сваёй пляменніцы па вяртанні на Зямлю.

Пасля гэтых сваіх слоў доктар доўга смяяўся, але, калі я прапанаваў яму ўзяць у мяне гэтыя дзве бульбіны, каб правесці сапраўды амаль казачны дослед, ён не адмовіўся і, пакідаючы мой адсек, сказаў вельмі нават сур'ёзна:

— Мне не цяжка прапусціць бульбіны праз фіксатар. Калі штосьці такое запішацца, я прыйду да цябе з тым тэкстам.

І доктар Савіч праз нейкі час на самой справе прыйшоў з ім да мяне, але гэта ўжо было пасля таго, як мы пакінулі спадарожнік Цэнтаўры, і ўжо ляцелі да гэтай планеты.

**4**

Я вельмі добра помню той момант, калі доктар Савіч аддаваў мне белы аркуш паперы, на якім былі запісаны думкі бульбінак Адрэты і Скарба. Ён нават працытаваў радок нейкага невядомага мне філосафа: «Усё, што мае прагу да жыцця, — дыхае і мысліць»! І я адразу ж увесь затрапятаў: дослед удаўся! Тут жа хутка пачаў чытаць тое, што было напісана на аркушы.

АДРЭТА

Як цяжка, як цяжка мне падумаць, што ўжо ніколі не вярнуся ў свой кош... І ўжо ніколі, ніколі не стану Князёўнай бульбянога палетка! А як мне хацелася выйсці на

подыум у найлепшай з найлепшых сукенак, у туфліках на тонкіх абцасах! Мой мілы Скарб! Мілы Скарб! Я ўжо ўяўляла цябе ў строгім чорным гарнітуры ў агромністай зале і гукала да сябе, на подыум. Але гэта ўсё засталося толькі ў маіх думках, як і тое, што сказала сваёй бабулі бульбіна Санта, калі пачула, што дзяўчынка бярэ нас на конкурс. Ты, вядома ж, гэтага не чуў, а я пачула. Яна сказала: «Бабулечка, фу-у, якая несправядлівасць! Гэтую задаваку Адрэту бяруць на конкурс! А ў тваім жа дупле, якое пратачыў чарвяк Драцянік, затаіўся Каларадскі жук. Выгані яго з дупла, бабулечка! Хай ён накінецца на Адрэту, хай сапсуе ёй твар! І тады... Тады, хто ж возьме на конкурс пагрызеную бульбіну?!»

О-о, мой дарагі Скарб, як жа я ўся затрапятала пасля гэтых слоў зайздросніцы Санты! Але тут... Тут дзяўчынка вырашыла аддаць нас свайму дзядзьку каб ён пасадзіў нас на нейкім палетку на Цэнтаўры, куды мы цяпер ляцім. Мне страшна, Скарб, вельмі страшна. Мы, напэўна, — першыя бульбінкі, якіх людзі вывезлі за межы Зямлі, і што з намі будзе на той невядомай планеце? Нас ужо ледзь не пакінулі ў нейкім жудасным месцы, дзе астранаўты не схацелі доўга затрымлівацца.

Скарб, мілы Скарб, я так часта ўяўляю сваю баразну, дзе ўпершыню пабачыла сонца і ўвесь навакольны зямны свет. А яшчэ я пабачыла там цябе... Ты ляжаў у суседняй баразне і, напэўна, мяне не заўважаў, ад чаго мне рабілася вельмі сумна. І як жа я ўзрадавалася, калі мы трапілі ў адзін мех, а потым і ў адзін кош! А яшчэ мы маглі быць побач на подыуме, дзе я была б самай прыгожай з усіх бульбінак! У мяне зараз пацякуць слёзы, і я не хачу, каб ты іх бачыў. Навошта, навошта нас узялі ў гэтае доўгае трывожнае падарожжа?! Але гэта ўсё толькі мае думкі, таму што, калі мы зноў апынёмся ў чорнай шкляной скрынцы

ў сваім адсеку, на тваё такое частае пытанне: «Ну, як табе, Адрэтачка, падабаюцца гэтыя прыгоды?» я, вядома ж, адкажу: «Усё надзвычай цікава, мой цудоўны Скарб! Вельмі цікава. Асабліва, калі дзядзька Сымон з доктарам Савічам пачынаюць весці свае доўгія размовы пра Сусвет. Мы ўжо столькі часу ляцім у ім! Напэўна, Цэнтаўра зусім блізка, і вялікая боязь ахоплівае мяне. Скажы, мілы Скарб, што ты заўсёды будзеш са мною побач. Я хачу, каб ты гэта паабяцаў мне, каб пакляўся нашым бульбяным палеткам».

## СКАРБ

Напэўна, я не знаходжу патрэбных слоў, каб супакоіць Адрэту. Яна аказалася такой палахліўкай і так часта згадвае пра наш кош! А мне ў тым кашы было цесна, няўтульна і змрочна. З якой цікавасцю я пазіраў на Поўню, якая з'яўлялася ноччу ў акне, і пачынаў ненавідзець свой кош! Я нават не ўзрадаваўся таму, што дзяўчынка бярэ нас на конкурс. Гэта такая дробязь для сапраўднай бульбінкі! Іншая справа, Адрэта... Ей хацелася пабачыць сябе ў бліскучай сукенцы, і хіба можна за гэта дакараць такую мілую бульбінку! Ды я і не дакараю... Я... Я... Захапляюся Адрэтай і баюся ёй у гэтым прызнацца. І зусім не ўмею яе суцешыць. А як мне хочацца ёй сказаць: «Мая чароўная Адрэта, ты нічога, нічога не бойся. Дзяўчынка хацела ўзяць нас на конкурс, каб там захапляліся намі. Дык, магчыма, мы выклічам у некага захапленне і на Цэнтаўры, куды цяпер ляцім! І не проста выклічам захапленне, а і зможам там даць пачатак свайму роду, будзем заўсёды, заўсёды побач. Там будзе ў нас цэнтаўравая баразна, дзе мы, любуючыся маленькімі ад-

рэткамі, ласкавым шэптам раскажам ім пра баразну зямную, і пра зямны наш палетак, і пра наш кош, і нават пра тое, як зямная дзяўчынка Каця хацела ўзяць нас на конкурс».

Калі ты пачуеш гэтыя мае словы, ты, напэўна, уздыхнеш і адкажаш: «Хацелася б, каб так яно і было. Каб мы змаглі камусьці перадаць памяць сваіх сэрцаў». А я ў гэты момант падумаю пра тое, што маё сэрца належыць табе, мая ні з кім непараўнаная Адрэта!

## 5

На экране знешняга назірання ўжо даўно празліва-блакітным шарам зіхацела Цэнтаўра. І можна было бачыць зеленаватыя плямы, ну, вядома ж, яе мацерыкоў над адным з якіх мы неўзабаве завіснем. А я надзвычай уражаны тым, што прачытаў, усё яшчэ не мог адарвацца ад аркуша і ў мяне нават мільганула думка: «А ці не прыдумаў гэта ўсё доктар Савіч?» І ён нібыта прачытаў гэтую маю думку, таму што сказаў:

— Ты ў нечым сумняваешся, Сымон? Не сумнявайся! Мой фіксатар спраўны! Праз яго я яшчэ раз прапушчу бульбінкі, таму і пакінуў іх у сябе. Хай яны паразмаўляюць паміж сабою. Я пакінуў экран уключаным, і яны, вядома ж, пабачаць на ім гэты шарык, дзе ўжо хутка можна будзе штосьці разгледзець. Цікава, пра што яны будуць думаць? Якім будзе іх першае ўражанне? Думаю, яны здагадаюцца, што перад імі — Цэнтаўра.

— Дарэчы, пра ўражанне, доктар, — сказаў я. — Трэба ўключыць лазернае вока. Мы, напэўна, на такой адлегласці ад Цэнтаўры, што яно ўжо можа выхапіць нешта з яе паверхні і перадаць на экран.

— Уключы, я не супраць, — ажывіўся Савіч, і ў яго позірку свяцілася цікавасць.

Я націснуў на патрэбную кнопку, і Цэнтаўра пачала павялічвацца ў памерах. Але вось экран на нейкае імгненне пагас і зноўку ўспыхнуў, далі бог жа, нечаканай карцінкай. На экране мы пабачылі паўліна, самага сапраўднага. Ён стаяў на ганку вялікай будыніны і пер'е яго веерападобнага хваста пераліваласся дзівоснымі колерамі. У мяне не знайшлося слоў, каб нешта сказаць, а вось доктар Савіч глыбакадумна зазначыў:

— Усё разумнае можа мець самую непрадказальную форму. Я дапускаю, што такі выгляд маюць тамтэйшыя гуманоіды.

Наконт гуманоідаў мне схацелася яму запярэчыць, але ў гэты момант пачуўся голас камандзіра. Антон запрашаў усіх членаў нашага невялікага экіпажа да сябе ў адсек. І, калі мы прыйшлі туды, астрафізік сустрэў нас пытаннем:

— Лазернае вока вы ўключалі?

Я кіўнуў галавой, маўляў, ага-а, і міжволі пасміхнуўся:

— Яно прадэманстравала нам паўліна.

Адзін з нашых лабарантаў хіхікнуў, а ў голасе Антона пачулася раздражненне.

— Пра паўлінаў цяпер не будзем, — сказаў ён. — На ўсіх мацерыках Цэнтаўры, а іх там тры, — мёртвыя гарады. Ніякіх прыкмет жыцця, паўсюль адно запусценне. Мой лазер прамацаў усю паверхню, — тут ён паглядзеў на доктара Савіча і дадаў: — Мяркую, гэта вынік нейкай страшнай эпідэміі. Таму спускацца будзем выключна ў спецадзенні і ў скафандрах.

Доктар Савіч з непрыхаваным сумам паглядзеў на мяне і сказаў тое, пра што я ў гэты момант падумаў:

— Ты адважышся ў забруджаную глебу пасадзіць свае бульбінкі?

Ён чакаў адказу, а я палічыў, што на гэтае пытанне яму не варта адказваць, толькі папрасіў доктара:

— Нікому не расказвай пра нашы доследы... Падобна, нам не паверылі, што мы пабачылі на экране паўліна. А калі пачнеш расказваць пра фіксатар і пра тыя думкі Адрэты і Скарба, якія ён зафіксаваў, нас проста засмяюць. У такое ніхто не паверыць.

— А я, ведаеш, у эпідэмію на Цэнтаўры не веру, — нечакана сказаў доктар Савіч. — Калі б там была нейкая эпідэмія, на тваім экране мы не пабачылі б паўліна.

І ў думках я пагадзіўся з доктарам. Таму, калі мы ўжо селі на паверхню аднаго з мацерыкоў Цэнтаўры і праз нейкі час камандзір прапанаваў усім, хто пажадае, акрамя пілотаў-астранаўтаў, спусціцца з карабля, я забраў у доктара Савіча свае бульбінкі і паклаў іх у кішэню камбінезона...

## 6

На Цэнтаўры, несумненна, было лета. Усё наўкол квітнела і буяла... Але гэта была чужая прырода. Вочы шукалі хоць якога падабенства з нашымі беларускімі краявідамі і не знаходзілі яго. Адно, тое месца, дзе мы прыцэнтаўрыліся, нагадвала наш касмадром за Раўбічамі. Было там шмат самых розных лятальных апаратаў і нікога, нічога жывога — наўкол!

Наш бортмеханік спусціў з карабля невялікі паветраны чаўнок, якім мы нярэдка карысталіся, калі даследавалі незнаёмыя планеты. І мы: Антон, астрафізік, доктар Савіч і я — селі ў яго. А ў хуткім часе ўжо кружылі над вялікім горадам, шукаючы месца, дзе можна было б прыпаркавацца. Здзіўляла, што ў тым горадзе не было ні вуліц, ні плошчаў. І гэта гаварыла

пра тое, што жыхары Цэнтаўры карысталіся толькі паветраным транспартам.

Для пасадкі мы аблюбавалі прасторны двор, які нагадваў невялікую плошчу, паабапал якой мы налічылі пяць шэрых будынін. Гэтыя будыніны мелі па тры-чатыры паверхі і былі пабудаваныя ў форме стога. У двары не было ні дрэў, ні кустоў, ні кветак. Адно высокая густая трава з вышыні нагадвала разасланы дыван. Яна была такая цёмна-зялёная, што адлівала сінню. На гэтую траву мы і апусціліся. І як толькі выйшлі з чаўнака, між дзвюх будынін адразу пабачылі шырокі ўваход, няйнакш у метро.

— Дамы пакуль абследаваць не будзем, — сказаў Антон. — Спачатку трэба паглядзець, што там унізе? Куды вядзе гэты ўваход?

— Я пайду з табою, — адазваўся астрафізік, — а Сымон з Савічам няхай застаюцца тут, — і Антон яму не запярэчыў.

— Ну што ж, — павярнуўся да мяне доктар Савіч, калі Антон і астрафізік пакінулі нас. — Не будзем губляць часу. Давай зазірнём у бліжэйшую будыніну. Не стаяць жа нам пасярод гэтага двара.

І мы накіраваліся да высокага ганка. Тут дзверы будыніны расчыніліся, на ганак з адчайным крыкам выбеглі чатыры неверагодна вялізныя паўліны. Іх веерападобныя хвасты пакалыхваліся. Паўліны нейкі момант затрымаліся на ганку і пачалі па сходах збягаць уніз. Потым кінуліся да нас. Гэтых дзівосных птушак не палохала ні наша спецадзенне, ні скафандры. Адзін з паўлінаў учапіўся за камбінезон доктара Савіча, астатнія тры стаялі перада мной і працягвалі крычаць.

— Што тут у вас адбываецца? — ззаду пачуўся голас Антона. Яны з астрафізікам беглі да нас.

— Паўліны галодныя, — спакойна адказаў доктар. — Есці просяць, — і пагладзіў паўліна, які тут жа адбег ад яго.

— Іх бы чым-небудзь пакарміць, — пашкадаваў птушак астрафізік, і паўліны сціхлі.

— Сымон, дзе твае бульбіны? — звярнуўся да мяне Антон. — Ты ж іх, напэўна, узяў з сабою.

Я ажно ўздрыгнуў ад яго слоў і ўявіў, як задрыжэлі ў гэты момант Адрэта і Скарб. Мне ўспомніліся думкі Адрэты, зафіксаваныя фіксатарам: «Хацелася б... Каб мы змаглі камусьці перадаць памяць сваіх сэрцаў». І я ледзь не закрычаў: «О, не-не, мілая Адрэта! Супакойся. Я не аддам вас гэтым паўлінам!», а Антону адказаў:

— Бульбінкі я, вядома ж, узяў. Але не для таго, каб зараз аддаць іх гэтым птушкам. Пра гэта не можа быць ніякай гаворкі. Лепш скажы, што вы там пабачылі?

— Што яны маглі там пабачыць? Што?! — і ў голасе доктара Савіча чулася расчараванне. — Метро! Што яшчэ? Мне тут усё не падабаецца. Цэнтаўра аказалася занядбанай планеткай, без аніводнага жыхара. Ніякай тут эпідэміі няма. Планету па нейкіх прычынах проста пакінулі! А мы там на Зямлі... Пояс жыцця! Мора аблокаў! Колькі было спадзяванняў пабачыць тут штосьці незвычайнае!

— Незвычайнае можа быць, — спакойна сказаў Антон. — Мы ўвайшлі ў той уваход і пабачылі там некалькі дзясяткаў ліфтаў. На іх, безумоўна ж, хтосьці спускаўся ўніз, у нетры Цэнтаўры.

— Чаму спускаўся? — астрафізік запытальна пагледзеў на Антона. — Можа, там хтосьці і цяпер знаходзіцца. Я ведаю планеты, дзе гуманоіды жывуць менавіта ў нетрах!

Паўліны ўсё яшчэ стаялі каля нас, але вось адзін з іх накіраваўся да ганка будыніны. За ім пайшлі і астатнія...

— Галодныя птушкі, панурыя шэрыя дамы, — уздыхнуў доктар Савіч.

— Давайце трошкі паблукаем між іх, можа натрапім на нешта цікавае.

— Давайце! Я не супраць, — адказаў доктару Антон.

І мы пайшлі з дворыка ў дворык, дзе ўсё было аднолькавае: шэры камень будынін, з сінім адлівам трава... Толькі паўлінаў нідзе больш не было.

Мы ўжо даволі доўга блукалі па гэтым дзіўным мёртвым горадзе, пакуль нарэшце не звярнулі ў скверык, так нам напачатку здалося. Але, калі прайшліся па алейцы, доктар Савіч ускрыкнуў:

— Э-э, не! Гэта — не скверык! Гэта — могілкі... Сапраўды, паўсюль бачыліся надмагільныя пліты з радкамі надпісаў. Літары былі чужыя, незнаёмыя. Ля гэтых пліт ляжалі агромністыя скульптуры. Мы і падышлі да адной з іх.

— Чалавек не чалавек, пачвара не пачвара, — сказаў астрафізік, уважліва разглядваючы скульптуру. — Магчыма, менавіта такі воблік мелі тыя, хто насяляў Цэнтаўру.

У гэты момант у мяне, напэўна, падняліся валасы на галаве. Скульптура паварушыла рукою, а пукатыя жоўтыя вочы яшчэ больш акругліліся. У іх свяцілася жыццё. Доктар Савіч моцна сціснуў маю руку, а ўнутры сябе я пачуў чужы голас:

— Вы зямляне? Падобных да вас мне даводзілася бачыць на Месяцы. Было ў нас некалькі экспедыцый на ваш спадарожнік.

— А ты? Ты хто? — у думках запытаўся я, разумеючы, што паміж намі ўзнікла тэлепатыя.

— Я — айфуец! Усе мы тут айфуйцы. Наш мацярык называецца мацерыком Айфу. Ракеі з трэцяй планеты знішчылі наш абарончы шчыт. Закрылі рэзервуары ядра планеты, адкуль выцякала энергія для абарончага шчыта. Мы не маглі ім супрацьстаяць, яны пазбавілі нас біямасы, але застаўся наш дух. Мы ўсялілі сваё «Я» ў помнікі, якія ставілі ля магільных пліт сваім продкам. І кожны з нас цяпер ажыўляе камень, стварае сваю новую біямасу, не парушаючы генетыкі. Колькі тут помнікаў, столькі і айфуйцаў, і хутка мы ўсе ажывём. На мацерыку Крыспі крыспійцы ўжо ажылі. Мне бачацца ў небе пасмачкі энергіі. Гэта, напэўна, яны ўжо адкрылі рэзервуары ядра планеты.

Мне здавалася, што я не дыхаю. У стане вялікай атарапеласці стаялі і ўсе астатнія, толькі Антон не без цікавасці пазіраў на помнік, які ляжаў ля суседняй надмагільнай пліты. Я таксама паглядзеў у той бок. Каменная статуя, якая дагэтуль ляжала побач з надмагільнаю плітою, прыўзнялася, потым, не без цяжкасці, села. Цёмна-жоўтыя зрэнкі вачэй пранізвалі нас.

— Хутка планету атуліць абарончы шчыт, — прабілася ў мой мозг. — Шкада, што мы не зможам паказаць вам ніжні горад. Тут, наверсе — усё бутафорыя, а сапраўднае наша жыццё працякае ўнутры планеты. Там усё інакшае.

У гэты момант пачуўся нягучны трэск. Так нярэдка трашчаць косці ў чалавека магутнай сілы, калі ён пачынае размінацца. Мы міжволі адступілі назад... Побач паднялася скульптура, а дакладней, падняўся айфуец, які першы скантактаваўся з намі. Ён у разы тры перавышаў нас ростам, і вочы яго не выказвалі ніякіх пачуццяў.

— Вам трэба спяшацца, калі вы хочаце вярнуцца на Зямлю, — загучала дзесьці глыбока ўва мне. — Аба-

рончы шчыт хутка атуліць нашу планету, і вы не зможаце праз яго прабіцца. А мы дапамагаем толькі роўным сабе.

І штосьці пагрозлівае пачулася ў апошніх словах гуманоіда. Гэта адчуў і доктар Савіч, таму што адразу сказаў:

— Пойдзем адсюль! Тут больш нельга затрымлівацца. Нам яшчэ трэба адшукаць свой чаўнок!

Я паглядзеў уверх, у бяскрайнюю вышыню, дзе ўжо клубіліся лёгкія аблокі, потым зірнуў на айфуйца. Ён размінаў свае доўгія шэрыя пальцы, і мая рука міжволі слізганула ў кішэню камбінезона, адкуль я дастаў свае дзве бульбінкі.

— Гэта — бульба, наша беларуская, — пачаў тлумачыць я гуманоіду. — Адрэта і Скарб. Бульбу трэба пасадзіць, і праз тры месяцы яна дасць ураджай. Спачатку, вядома, не багаты, што называецца для разводу, але праз тры, пяць гадоў тут у вас паўсюль будуць бульбяныя палеткі...

Тоўстыя губы айфуйца расцягнуліся ва ўсмешцы, і ён узяў з маіх рук Адрэту і Скарба. Гуманоід зразумеў мяне і нават уголас сказаў па-айфуйску: «Трыйдзо», што было, трэба думаць, словам падзякі. І хоць у гэты момант мне стала надзвычай сумна, я выканаў просьбу сваёй пляменніцы — зямной дзяўчынкі Каці, і ведаў, што тут, на Цэнтаўры, якую мы пасяшаліся хутка пакінуць, у маленькіх бульбяных сэрцах будзе жыць і жыць памяць пра зямную ўзараную баразну, пра кош у мінскай кватэры і нават пра конкурс, на якім бульбінцы Адрэце так хацелася стаць Княззёўнай бульбянога палетка...

## Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**БАРАВІКОВА** Раіса Андрэеўна

**КАЗКІ АСТРАНАЎТА**
**Касмічныя падарожжы беларусаў**

Рэдактар *М. Н. Мінзер*
Мастак *М. Э. Міцкевіч*
Камп'ютарная вёрстка *В. А. Амельчанка*
Стыльрэдактар *К. У. Іванец*

Падпісана ў друк 23.03.2011. Фармат 60×90 1/16. Папера афсетная.
Гарнітура NewBaskervilleC. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 11,0. Ул.-выд. арк. 7,48. Тыраж 2000 экз. Заказ 1202.

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Друкарня "Перамога"»
ЛП 02330/0494182 ад 03.04.2009.
Вул. Таўлая, 11, 222310, г. Маладзечна, Рэспубліка Беларусь.